# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

17 чэрвеня 1994 г. № 24 (3746) Кошт 150 руб.


## «НАЗАД ХОДУ НЕ БУДЗЕ...»

**Ніл ГІЛЕВІЧ: «Моўнай палітыкі, шчыра кажучы, у нас сёння няма. Як хто хоча, так і разв珍жае, так і робіць, такую палітыку і праводзіць... Сёння, па сутнасці, закон ні для кога не пісаны».**

4, 12

## ПРА ПАЭЗІЮ І ПРОЗУ

**Развагі Вольгі БРЫЛОН пасля прэм'еры аперэты «Халопка» ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі.**

11

## КАЛІ ПАЛІТЫКА Ў ЦЯНІ...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ: «Славянскія ўплывы ў Малдове вельмі адчувальныя, вера праваслаўная, старажытныя кнігі пісаны кірыліцай, кірыліца бытавала і пры Саветах. Аднак гісторыя рухаецца наперад, з 90-га года ўведзена лацінка, малдаўскую мову ўжо прынята называць румынскай, ходзяць гаворкі пра магчымае двайное грамадзянства».**

12

## ТРЭЦЯЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

**Алесь РАЗАНАЎ: «Мы шукаем і фармулюем паэта па сучаснасці, аднак гэты занятак набудзе глыбіню, калі і сучаснасць мы будзем шукаць і фармуляваць па паэце».**

13



***Паслязаўтра народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву — 70 гадоў. Лімаўцы сардэчна віншуюць Васіля Уладзіміравіча з юбілеем і зычаць яму здароўя, шчасця, творчага плёну.***

У гэтым нумары тыднёвіка пра В. Быкава і яго творчасць, пра яго месца ў літаратуры і жыцці нашай дзяржавы гавораць Рыгор Барадулін, Віктар Каваленка, Генрых Далідовіч, Яўген Глебаў, Юрась Залоска.

*Фота У.КРУКА*

З нагоды

# АБЯРЫ ПРАВА НА ПАВАГУ

Каб атрымаць адказ на пытанне, за каго і чаму будзе галасаваць беларуская інтэлігенцыя на прэзідэнцкіх выбарах, супрацоўнікі рэдакцыі абзванілі многіх лімаўскіх аўтараў, літаратараў, навукоўцаў, вядомых людзей культуры і мастацтва. За рэдкім выключэннем апытаныя выказваліся за кандыдатуру Пазняка альбо Шушкевіча і як пра абсалютна непрымальны варыянт гаварылі пра Кебіча. Але згоду на публікацыю сваіх меркаванняў даваў прыблізна адзін з шасці апытаных. Прычына гэткай асцярожнасці называлася адна: не хачу рызыкаваць, ставіць пад удар сваю справу, не жадаю лішніх праблем самому сабе, сваім супрацоўнікам, падначаленым. Вось, напрыклад, пайду я заўтра ў Саўмін альбо ў Вярхоўны Савет (а гэта адно і тое ж, бо і там, і там — людзі Кебіча) са сваім клопатам, прасіць нешта для свайго часопіса, выдавецтва, музея (у якім стане культура, асабліва беларускамоўная — вядома!) — а мне і прыгадаюць... А тое, што каманда Кебіча даўно падзяліла ўсё насельніцтва Беларусі на «сваіх» і «не сваіх», мне думаецца, не таямніца. Дастаткова паслухаць заявы, якія робіць ад імя свайго шэфа прэс-сакратар Заматалін. Ды і сам сп. Кебіч не так даўно ў часе свайго перадвыбарчага шоу з прыхаванай пагрозай і адкрытым цынізмам заявіў: «Я выполняю волю тех, кто на меня поставил». Гэта наогул цяжка спалучаецца з прэтэнзіяй на прэзідэнцтва. Мо спадар прэм'ер не ведае, што прэзідэнт прадстаўляе нацыю, краіну ўвогуле, а не шчыльнае кола сваякоў і сяброў?

Дарэчы, «паставілі» на Кебіча імперская Расія, «чырвона-карычневыя» і набіраючы моц расійскі капітал. Вось іхнюю волю, відавочна, і будзе выконваць Кебіч, калі на бяду беларускага народа сябар Чарнамырдзіна стане прэзідэнтам нашай краіны.

Слова «Расія» так часта гучыць з тэлеэкрана, радыё, з'яўляецца на газетных палосах з нагоды прэзідэнцкіх выбараў у нашай краіне, што ўзнікае ўражанне, нібыта выбары адбываюцца не ў нас, на Беларусі, а ў Расіі. Гэта прапаганда стварае пэўны вобраз нашага ўсходняга суседа. Калі раней пры слове «Расія» ўзнікалі асацыяцыі культурнага кшталту: Пушкін, Талстой, Вялікі Тэатр, купалы праваслаўных храмаў, Эрмітаж, дык цяпер амаль кожны, пачуўшы слова «Расія», найперш прыгадае расійскі рубель. А што яшчэ прыгадваць? Калі апошні раз мы бачылі выставу расійскага мастацтва, калі ў нас апошні раз гастраляваў славуты тэатр з Расіі, куды прапалі расійскія літаратурныя і навуковыя часопісы? Вось дзе ніва для рупліўцаў «аб'яднання»!

Непрывабны вобраз Расіі і расійцаў паўстае з афіцыйных і неафіцыйных заяў прэм'ера Кебіча. Напрыклад, ён неяк заявіў, што расійцы, калі даведаюцца, што на Беларусі святкуюць чарговую гадавіну Аршанскай перамогі, могуць пакрыўдзіцца і спыніць пастаўкі нафты ў нашу краіну. Няўжо ён лічыць нашых усходніх суседзяў такімі дурнямі, што яны здольныя з-за розных поглядаў на адзін з эпізодаў расійска-беларускіх стасункаў стварыць штучныя перашкоды міждзяржаўнаму дыялогу, паставіць пад удар эканамічную (а значыць і палітычную) сітуацыю ў стратэгічна важным для сябе рэгіёне (у геаграфічным цэнтры Еўропы); нарэшце, даць такі козыр у рукі беларускіх палітыкаў, якія папярэджваюць аб пагрозе беларускаму суверэнітэту з боку расійскага імперыялізму? А калі, згодна Кебічу, яны такія, дык як можна лезці ў хаўрус з такой дзяржавай і такім народам?

Але мо сп. Кебіч мае рацыю адносна расійскага менталітэту? Вось пасол Расіі ў Беларусі сп. Сапрыкін неаднойчы ў сваіх інтэрв'ю называў святкаванне Аршанскай перамогі і культурніцкія акцыі з нагоды юбілею паўстання Касцюшкі праявамі русафобіі (а такія заявы з вуснаў пасла трэба было класіфікаваць, як умяшальніцтва ва ўнутраныя справы краіны), але ніяк не рэагуе на абразлівыя для прэзідэнта Расіі публікацыі ў камуністычным друку Беларусі. Дзіўная логіка! Альбо гэта славутая таямнічая расійская душа?!

Аднак вернемся да пачатку размовы. Людзі баяцца выказаць сваю думку. Гэта пэўным, не лепшым, чынам характарызуе нашу інтэлігенцыю. Бо інтэлігентнасць — гэта не адукацыя і не ганаровыя званні; гэта, найперш — свой розум, свая пазіцыя. У тым ліку і палітычныя. То калі той, хто належыць да культурнай эліты, не хоча альбо баіцца абараніць свой народ шчырым словам ад магчымай бяды, дык чым ён лепшы за люмпена?

Асабіста я буду галасаваць супраць Кебіча па шэрагу прычын. Адна з іх — мне, як журналісту, ён надакучыў ужо ў якасці прэм'ер-міністра. І я не хацеў бы пісаць пра яго як пра прэзідэнта. Новая пасада не надасць яму новых, станоўчых, якасцей.

Кебіч не трымае і не шануе слова. Гэта недаравальна для дзяржаўнага дзеяча. Ён столькі ўсяго абяцаў, і па драбязе (калі стабільныя цэны на хлеб і бензін можна лічыць драбязою), і па вялікім рахунку, што калі б здзейсніў абяцанкі, беларусы жылі б не горш за швейцарцаў. Але мы жывём горш за палякаў.

І, можа, галоўнае. Можна перажываць пэўныя цяжкасці, калі ёсць высокая мэта, калі адчуваеш сябе гаспадаром на сваёй зямлі. Я вельмі хачу, каб маю краіну паважалі ў свеце, але, абраўшы сп. Кебіча, мы зможам разлічваць толькі на спачуванне.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ЧАРНОБЫЛЬ, ДЗЕЦІ, ВЫБАРЫ...

Асацыяцыя чарнобыльскіх арганізацый «26 красавіка», Фонд дапамогі інвалідам Чарнобыля «Дапамога», Беларускі саюз удзельнікаў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы «Прыпяць», Мінскае таварыства інвалідаў Чарнобыля, Мінская грамадская арганізацыя перасяленцаў з Гомельскай і Магілёўскай абласцей звярнуліся з адкрытым лістом да кандыдатаў у прэзідэнты Беларусі. Аўтары ліста выказваюць здзіўленне і абурэнне з той нагоды, што кандыдаты ў прэзідэнты ў сваіх выступленнях не прыгадваюць чарнобыльскай катастрофы, яе наступстваў для народа Беларусі, нічога не прапаноўваюць для рашэння праблем, народжаных Чарнобылем. Між тым, чарнобыльцаў — ліквідатараў, перасяленцаў, іншых людзей, якіх закранула атамная трагедыя, на Беларусі два з паловай мільёны. Нават, калі не думаць пра маральны бок прэзідэнцкай кампаніі, дык проста з пазіцыі здаровага сэнсу не варта ігнараваць гэту катэгорыю выбаршчыкаў. «Выбаршчыкі ў нас адказныя і разумныя. Яны здолеюць выбраць таго, чые палітычныя, эканамічныя, і асабліва, экалагічныя праграмы будуць адказваць іх інтарэсам» — мяркуюць аўтары ліста.

Зварот да выбаршчыкаў «Які прэзідэнт выратуе дзяцей?» прыняты Беларускім дзіцячым фондам (БДФ). Пад ім подпісы прэзідэнта і актывістаў БДФ. У звароце акцэнтуецца ўвага на фактычнай безабароннасці дзяцей у нашым грамадстве. Аб іх інтарэсах рупяцца асобныя людзі і грамадскія арганізацыі, але не дзяржава, не ўрад. Выбаршчыкаў заклікаюць у час галасавання думаць пра сваіх дзяцей, абраць Прэзідэнтам таго, хто разумее, што дзеці — багацце Беларусі і нашы заўтрашнія суддзі.

Выбары

# ЗА КАГО І ЧАМУ?

**Кастусь ЦВІРКА, пісьменнік:**

— Перш чым выбраць, за каго галасаваць, трэба добра ўясніць, што мы хочам. Першае — што для нас лепш: каб Беларусь была правінцыяй іншай дзяржавы, ад якой мы чакалі б падачак і якая, вядома ж, лічыла б нас таму за людзей ніжэйшага гатунку, ці самастойнай дзяржавай, дзе яе грамадзянін адчуваў бы сябе поўным гаспадаром на сваёй зямлі. Я — за незалежную дзяржаву, бо толькі ў такой дзяржаве мы будзем мець самыя спрыяльныя ўмовы для гарманічнага развіцця, для працвітання. Другое. Які лепшы для нас грамадскі лад — дэмакратыя, г. зн., сапраўднае, выдатна арганізаванае народаўладдзе, ці таталітарызм, які непазбежна пераўтвараецца ў фашызм, карычневы ці чырвоны? Я — за дэмакратыю, бо толькі яна дае сапраўдную, а не паказную роўнасць паміж людзьмі, гарантуе ўсе чалавечыя правы. Пра тое, што дае чалавеку дэмакратыя, можна ўбачыць на прыкладзе такіх высокаразвітых дэмакратычных краін, як ЗША, Англія, Францыя, Японія, Германія, Швецыя, Фінляндыя і г. д., г. д., дзе нават беспрацоўны атрымлівае ад дзяржавы непараўнальна больш, чым наш высокакваліфікаваны рабочы, які ўсё жыццё «ўкалвае» за сваім станком. Дыктатура, таталітарызм прыгнятае чалавека, робіць яго рабом. А рабская праца — самая неэфектыўная. Якраз таму ў гэтакай эканамічнай яме апынуліся ўсё без выключэння камуністычныя краіны свету — СССР, Кітай, Польшча, Балгарыя, Албанія, Камбоджа і інш. Да таго ж таталітарызм нясе свету войны, разбурэнні, гвалт, масавае фізічнае знішчэнне людзей. За сапраўдную нашу незалежнасць (яе не трэба блытаць з самаізаляцыяй, як гэта падаюць зламыснікі), за самастойнасць Беларусі стаяць у нас толькі два кандыдаты ў прэзідэнты — Пазняк і Шушкевіч. Яны ж выступаюць таксама за дэмакратыю, за народаўладдзе. Усе астатнія — і Кебіч, і Лукашэнка, і Новікаў, і, здаецца, Дубко, хоць яны і хапаюцца за чубы ў змаганні за такое вабнае прэзідэнцкае крэсла (як Кебіч з Лукашэнкам) — усе яны людзі з пустазвоннымі і камуністычнымі лозунгамі ў галаве, якімі эканомікі не падымеш, як бы яны ні выкручваліся перад намі ў тэлевізарах. Усе яны фактычна за вяртанне той самай бесчалавечнай сістэмы, якую яны назвалі сацыялізмам, за аднаўленне Савецкага Саюза, гэтай імперыі зла, што ўсіх нас давяла да торбы. Акрамя таго, хто гэта сёння вернецца туды? Прыбалтыка? Украіна? Грузія? Няўжо нельга зразумець, што лозунг — узнавіць Савецкі Саюз — гэта фактычна заклік да вялікай, бясконцай і самай кровапралітнай вайны, якой яшчэ свет не ведаў, калі ўлічыць нашы ракеты і атам. Зыходзячы з усяго гэтага, я буду галасаваць толькі за аднаго з двух кандыдатаў — Пазняка альбо Шушкевіча. А калі канкрэтней, то за таго, у каго з іх буду бачыць большы шанц выйграць. Думаецца, так павінны зрабіць і каманды абодвух іх. Гэта будзе трагедыя для ўсіх нас, калі абодва дэмакратычныя кандыдаты тут не дамовяцца. Ці ж разумна будзе браць прыклад з тых двух казачных казлоў, што не змаглі размінуцца на вузенькай кладцы? Перад пагрозай новай хвалі камуна-фашысцкай чумы яны павінны адкінуць далёка ўбок усе свае амбіцыі. Інакш мы, выбаршчыкі, будзем расцэньваць такую незгаворлівасць як нацыянальную здраду.

**Анатоль ЛЯЎКО, доктар сацыялагічных навук:**

— Сказаць па шчырасці, як, пэўна, і многія грамадзяне рэспублікі, яшчэ не вызначыў канчаткова, за каго аддам свой голас на маючых адбыцца выбарах першага прэзідэнта Беларусі. Чаму не вызначыў? Мабыць, таму, што справа не ў канкрэтных асобах, а ў сістэме, у якой ім давядзецца дзейнічаць. Якую б пазіцыю зараз ні дакляраваў прэтэндэнт на высокую пасаду прэзідэнта, будучы абраным ён мушаны будзе паводзіць сябе згодна з існуючымі парадкамі і традыцыямі. Гэта адно. Стрымлівае мой выбар і тое, што ніводная з існуючых партый і грамадска-палітычных рухаў не мае, на маю думку, глыбокай навукова абгрунтаванай сацыяльнай праграмы, якая б улічвала ў поўнай меры сучасны стан эканомікі, культуры, нарэшце, менталітэт нашага народа.

**Алесь АНЦІПЕНКА, філосаф:**

— Я галасую за Зянона Пазняка. Далёка не ўпэўнены, што ён стане прэзідэнтам, але аддам голас на яго карысць па некалькіх прычынах. Па-першае, каб выказаць сваю падтрымку чалавеку, які шмат паспеў зрабіць для фармавання грамадзянскай супольнасці ў нашым грамадстве. Па-другое, у знак прызнання ягоных заслуг як патрыятычнага лідэра і як адметнай асобы. Па-трэцяе, выказаць яму маральную падтрымку.

Галасуючы за Пазняка, я галасую супраць сацыяльнай дэмагогіі, якую ўвасабляюць некаторыя вядомыя нам палітыкі так званага левага накірунку. Лічу, што такім чынам я выканаю свой абавязак як грамадзянін нашай краіны, для якога неабыякавы стан нашага грамадства і перспектывы яго культурнага і нацыянальнага развіцця.

Я хацеў бы зазначыць, што нацыяналізм Пазняка перабольшаны, таму што, на вялікі жаль, мы жвём не ў нармальным грамадстве, і тое, што ў іншых краінах лічыцца нормай, я маю на ўвазе нацыянальную культуру і мову, у нас разглядаецца як сацыяльная анамалія.

**Міхась РАМАНЮК, прафесар, загадчык кафедры Беларускай акадэміі мастацтваў:**

— Я — за Зянона Пазняка. Ён выпускнік нашай акадэміі, кафедры, якую я ўзначальваю. Памятаю, як яго выключалі з акадэміі за беларускасць, памятаю, як ён не мог у нас абараніцца, і на «выдатна» абараніўся ў Санкт-Пецярбурзе. За апошнія гады Пазняк з лідэра як бы гурта, шэсця перарос у буйнога палітыка еўрапейскага маштабу, які добра арыентуецца ў сітуацыі. Міфы пра тое, што Пазняк супраць Расіі, ці пра тое, што ён за пагалоўную, імгненную беларусізацыю, прыдумалі камуністы.

Пазняк — высокаадукаваны, добрасумленны, падкрэсліваю, палітык праўды, цвёрды чалавек. І змагаецца ён фактычна не з Кебічам, а з сістэмай. Разам з тым, гэта палітык-хрысціянін, таму хачу адзначыць яго талерантнасць да канфесій, тое адзінае, дзе яму, можа, не навесілі ярлыкоў.

**Нэла УМНОВА, намеснік дырэктара Палаца культуры Мінскага трактарнага завода:**

— Мне вельмі імпанаваў кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Генадзь Карпенка. Імпанаваў, як асоба, як грамадскі дзеяч, як чалавек,

# «ЯШЧЭ ПАДУМАЮ...»

## ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ Ў ТРАНСПАРЦЕ

— Я яшчэ не ведаю, за каго буду галасаваць. Не вызначыла. Была ў мамы на Лагойшчыне, дык прыходзіў ветурач агітаваць за Новікава. Пытаюся, а чым жа ён такі харошы, гэты чалавек, што мы за яго галасаваць павінны? Кажа — з вялікай, маўляў, сям'і, 11 дзяцей у ёй... Ну дык што, што 11? У мяне вунь два сыны, і тыя адзін такі, другі інакшы.

— І да нас прыходзілі з той самай каманды. Здаровы такі, сівы мужык. Спалохацца можна. А ў пад'ездзе, як назло, ніводнай лямпачкі не гарыць, усе пабітыя. «Вы да каго?» — пытаюся. «Падпішыцеся за вылучэнне Новікава». — «А хто ён такі?» — «Камуніст». — «Ну, за камуністаў я падпісвацца не буду. Яны ўжо былі пры ўладзе. Трохі самі кралі, трохі нам давалі...»

— Мама і гаворыць таму агітатару: «Сыночак, нікога я з іх не ведаю. І што яны зрабілі, і якія яны людзі. Я сваё здароўе калгасу аддала, а цяпер каня не дапрашуся, каб соткі разагнаць. Ніхто пра мяне, старую, не падумаў, а цяпер за іх голас аддавай...

— А хіба пра рабочых думаюць? Наш завод увесь прапілі ды прагулялі. Тры месяцы зарплату не плацілі, дык замест яе выдалі па чорна-белым тэлевізары. Паспрабуй, пракарміся за тэлевізар. Самі яны, начальнікі, каляровыя партыямі ў Польшчу на продаж вывозілі. Дырэктара дык кожны дзень пад рукі ў машыну вядуць. Людзі ж усё бачаць, ад людзей не схаваеш...

— Мая мама ўсіх правіцеляў ведае па галасах. Тэлевізар яна не глядзіць, толькі радыё слухае. Нават Буша ад Клінтана па галасах адрознівае, далібог! Гарбачова вельмі любіла слухаць. Складна так гаворыць, і голас прыемны, чысты... Шэварднадзе пазнавала, Шушкевіча нашага... Кажуць, у Гомелі пакрыўдзілі яго, памяшкання не давалі, каб выступіць. Ён-то неблагі чалавек, культурны, але нерашучы. Нашто нам нерашучы прэзідэнт? Прэзідэнт павінен быць з характарам, каб сваю лінію трымаў.

— Як Лукашэнка ці як Жырыноўскі?

— Не. Жырыноўскага перш падлячыць трэба было б, а пасля ў палітыку выпускаць. Па мне дык хто хочаце, толькі не Кебіч. Вочы бегаюць, віду ніякага, а ўжо як скажа што...

— Ну, ну. А мая мама, думаеце, за каго? За Пазняка стаіць. Мо хіба гэты яшчэ... як яго... З Маладзечна...

— Карпенка?

— Так. Парадак нібыта навёў у горадзе. Чыста там...

— Мне там быць не выпадала, не ведаю. Захачу — выкраслю ўсіх. Бо як нікога не выкрасліш, бюлетэнь будзе несапраўдны.

— А я яшчэ падумаю. Ёсць час.

**Г. К.**

# ВЕТЭРАНЫ-ДЭМАКРАТЫ — ЗА ПАЗНЯКА

9 чэрвеня ў Мінску прайшоў сход Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў. Удзельнікі яго абмеркавалі палітычную сітуацыю і сацыяльна-эканамічны стан грамадства, а таксама праграмы ўсіх кандыдатаў на пасаду першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, іх дзейнасць у перадвыбарчай кампаніі. Вырашана падтрымаць кандыдатуру Зянона Пазняка.

Сход, як гаворыцца ў пастанове, бачыць у асобе Зянона Станіслававіча Пазняка мужнага палітыка, які валодае дарам стратэгічнага бачання развіцця грамадства. Праграма З. Пазняка грунтуецца не на міфах і беспадстаўных абяцаннях, а абапіраецца на рэсурсы нашай Бацькаўшчыны і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва з іншымі як блізкімі, так і далёкімі дзяржавамі.

Ветэраны-дэмакраты лічаць, што калі З. Пазняк стане прэзідэнтам, Рэспубліка Беларусь атрымае спрыяльныя ўмовы для выйсця з глыбокага палітычнага і эканамічнага крызісу, а яе вышэйшае кіраўніцтва будзе выкарыстоўваць уладу не дзеля ўласнай нажывы, а ў інтарэсах усіх грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Сход вырашыў таксама арганізацыйныя пытанні. У склад Цэнтральнай рады БДАВа дадаткова абраны пісьменнікі Алесь Траяноўскі, Мікола Татур, доктар філасофіі Мікола Крукоўскі, мастак Язэп Белановіч, доктар біялагічных навук Зоя Сярова і іншыя.

Заслухаўшы інфармацыю старшыні БДЭАВ А. Вольскага аб 70-годдзі народнага пісьменніка Беларусі В. Быкава, сход аднагалосна вырашыў прасіць Васіля Уладзіміравіча даць згоду быць ганаровым старшынёй Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў.

які мае сваю пазіцыю. Але здарылася так, што ён сышоў з прэзідэнцкага марафона, не набраўшы патрэбнай колькасці галасоў выбаршчыкаў.

Пакуль што я яшчэ не вызначылася, на кім спыніць свой выбар. Ніхто з існуючых прэтэндэнтаў на прэзідэнцкае крэсла мяне, шчыра кажучы, зараз не прываблівае. Усе яны майстры абяцаць народу добрае жыццё, але чаму тыя з іх, хто быў пры высокай пасадзе, хоць бы і той жа старшыня ўрада спадар Кебіч, які мае немалую ўладу, не паказалі, на што яны здатныя, каб вывесці нашу рэспубліку з крызісу?

**Анатоль СІДАРЭВІЧ, публіцыст:**

— Аднаго разу мы (адзін дзеяч партыі БНФ і я, сацыял-дэмакрат) прайгралі такі варыянт: на выбарах перамагае не Шушкевіч, не Пазняк, а, скажам, Кебіч ці Лукашэнка. Ці будзе з гэтага хоць нейкая выгада дэмакратам? Маючы на ўвазе штучнае стрымліванне цэн, якое ў папулісцкіх мэтах праводзіць урад, няцяжка прадказаць абвал эканомікі, яе ўкраінізацыю пасля выбараў прэзідэнта. Народ «працверазее», і шанцы дэмакратаў на выбарах у Вярхоўны Савет узрастуць. З другога боку, увядзенне расійскіх грошай, на чым настойвае Кебіч і супраць чаго не выступае Лукашэнка, адначасовае рэзкае пагаршэнне жыцця прывядзе народ не толькі да разумення, што такое «партыя ўлады», хто такі Лукашэнка, але і да ўсведамлення неабходнасці сваёй фінансава-крэдытнай сістэмы, а таксама, калі на тое пайшло, да росту антырасійскіх настрояў у грамадстве. Зноў-такі, дэмакраты-незалежнікі выйграюць. Але... Хто гарантаваў, што «партыя ўлады» ці Лукашэнка не ўстановяць у нашай краіне дэспатычны рэжым? Значыць, прынцып «чым горш, тым лепш» не спрацоўвае. Скажу больш: гэта не прынцып сацыял-дэмакрата. На сацыяльных бедах заўсёды паразітуюць камуністы і фашысты — дзве крайнасці, якія сходзяцца.

Цяпер я жыву, як ніколі, бедна. Даводзіцца вымяркоўваць грошы ад зарплаты да зарплаты. Усведамляю, што пры перамозе Шушкевіча ці Пазняка жыццё таксама адразу не палепшае. Давядзецца яшчэ тужэй зацягваць папругі. Абвал немінучы. Але я ведаю, што кандыдат маёй партыі, Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, Станіслаў Шушкевіч не пазбавіць мяне свабоды слова, не павядзе наступ на незалежныя газеты, на беларускую культуру. Я ведаю, што Шушкевіч поўны рашучасці павесці рэформы. У яго моцная каманда эканамістаў. Адно імя Станіслава Багданкевіча вымоўна пра гэта сведчыць. Таму ёсць спадзяванне, што праз гады два ўсё павернецца да лепшага. Прыклад Польшчы, Эстоніі, Латвіі, Літвы ў гэтым сэнсе павучальны. Дый Расія, нягледзячы на ўсе выдаткі «гайдараномікі», цяпер жыве лепей за нас. Шушкевіч мае рэпутацыю дэмакрата не толькі ў нас, але і ў свеце. Паважаючы Шушкевіча, свет будзе паважаць і Беларусь, больш уважліва ставіцца да яе праблем.

Такі мой выбар. У другім туры таксама буду галасаваць, нават тады, калі ніхто з дэмакратаў не пройдзе ў яго. Буду выкрэсліваць прозвішчы тых, хто пройдзе. З імі аніяк не стасуецца маё ўяўленне пра незалежную, дэмакратычную, сацыяльную і прававую Беларусь. З імі не стасуецца маё ўяўленне пра свабоду творчасці, свабоду слова і абмену інфармацыяй. З Кебічам, Лукашэнкам, Новікавым, Данілавым і Замяталіным будучыня беларускай культуры змрочная.

**Мікалай ЯРОМЕНКА, народны артыст СССР, старшыня Канфедэрацыі творчых саюзаў:**

— Я не маю ніякіх ілюзій і лічу, што на рэчы трэба глядзець рэалістычна. Няма часу вучыцца кіраваць, трэба выбіраць прэзідэнта з тых кіраўнікоў, якія ў нас ёсць і якія на гэтым з'елі не адзін пуд солі. Гэта павінен быць чалавек з вопытам дзяржаўнага кіравання, які добра разбіраецца ў эканамічных праблемах, у грашова-крэдытнай, фінансавай, валютнай і падатковай палітыцы, ведае праблемы прамысловасці і бачыць выйсце з крызісу, з павагай адносіцца да людзей, што працуюць на зямлі, аддае прыярытэт духоўнай сферы — культуры, навукі, адукацыі, забяспечыць ім дзяржаўную фінансавую падтрымку, які карыстаецца аўтарытэтам за межамі нашай рэспублікі. У кожнага з прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта ёсць нейкі свой вопыт, але такога вопыту лідэра, як у Вячаслава Францавіча Кебіча, ні ў кога няма. Сёння толькі яму трэба быць прэзідэнтам.

**Пятро ВАЛКАВЕЦ, настаўнік СШ N 68 г. Мінска:**

— За каго ж з кандыдатаў у прэзідэнты галасаваць?

Упершыню гэтае імя я заўважыў у вашай газеце (дарэчы, чытаю і выпісваю «ЛіМ» чацвёрты дзесятак год), у сенсацыйных, балючых звестках пра жахлівыя Курапаты, — а костачкі майго бацькі, Валкаўца Мікалая Васільевіча, хлебароба, як потым высветлілася, недзе там раскіданы, у Курапатах.

Упершыню ўбачыў і слухаў гэтага чалавека на пасяджэнні Мінскага гарадскога Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, дзе вылучалі кандыдатамі ў народныя дэпутаты нашай рэспублікі. Сярод прэтэндэнтаў былі рэктар інстытута, прафесар-эканаміст, а перавагу вялікай большасцю галасоў аддалі яму, Зянону Пазняку.

З тае сустрэчы я пранікся вялікай павагай і любоўю да гэтага чалавека. У яго ўжо тады былі абгрунтаваныя платформы: палітычная, эканамічная і, урэшце, чалавечая ў адносінах да народа нашай цяпер юрыдычна незалежнай Рэспублікі Беларусь.

А за каго ж інакш галасаваць? Можа, за кіраўніка нашага ўрада? Дык тады няхай ён мне растлумачыць, чаму мы з жонкай, настаўнікі роднай мовы і літаратуры, маючы вышэйшую і першую катэгорыі і тры стаўкі на дваіх — 28 і 26 гадзін вучэбнай нагрузкі, — атрымліваем удваіх менш, чым прадавец кветак на Чэрвеньскім рынку?

Таму мы, настаўнікі, нашы тры сыны і дачка, дзве нявесткі будзем галасаваць за Пазняка, які сумее вывесці нашу Бацькаўшчыну на прасторы сапраўднага, чалавечага жыцця.

**В. С. СКРЫБУК, пенсіянер, вёска Моўчадзь Баранавіцкага раёна (сам патэлефанаваў у рэдакцыю):**

— Я стары чалавек, вайну прайшоў, бачыў, як рабіліся «выбары» раней, прынамсі, у вёсках. І цяпер во пачуў, што старшыні сельсаветаў, як і раней, рыхтуюць выбарчыя скрынкі для аб'езду вёсак... Гэта ж зноў будзе мана, вялікая мана... Таму што старому чалавеку, дзеду ці бабе, якіх ці не большасць у шмат якіх вёсках, усё роўна, за каго і як галасаваць. За іх гэта зробяць тыя ж старшыні сельсаветаў ці іх прыслужлівыя памагатыя, што апусцяць бюлетэні ведама за каго... Трэба нешта рабіць, каб гэтага не здарылася... Я ведаю, гэткім жа шляхам «выбіраўся» шмат хто і з цяперашняга складу Вярхоўнага Савета, там шмат фальшывых абраннікаў... Вельмі не хацелася б, каб усё гэта паўтарылася, каб зноў — ніякіх змен... Хай прыйдуць да кіраўніцтва маладыя, гэты, як яго... Пазняк. Абрыдзела жыць у мане.

# ВАСІЛЮ БЫКАВУ

**Дарагі Васіль Уладзіміравіч!**

**Ад усяго сэрца віншуем Вас, народнага пісьменніка, мужнага змагара за наша нацыянальнае Адраджэнне, з 70-годдзем з дня нараджэння.**

**Вы былі ўдзельнікам найвялікшай вайны, якую зведаў свет. Перажытае на фронце, багаты жыццёвы вопыт прывялі Вас да неабходнасці расказаць праўду аб вайне, тую праўду, якой так не ставала. Па сутнасці, гэта з'явілася сапраўдным адкрыццём праўды аб вайне, без прыхарошвання, поўнай драматызму і народнай бяды. У апошніх творах лёс Вашых герояў усё часцей сягае ў даваенны час і заканчваецца нашымі днямі. Чалавек і вайна, чалавек і таталітарны рэжым — гэтыя праблемы Вы ставіце і выяўляеце надзвычай глыбока. Вашы кнігі — вялікая з'ява сучаснай сусветнай літаратуры, а сам Вы — адзін з тых слаўных сыноў Беларусі, па якіх ведаюць нашу Бацькаўшчыну ва ўсім свеце.**

**Шчыра жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, новых творчых здзяйсненняў на карысць роднай літаратуры, нашай Бацькаўшчыны!**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

Фестывалі

# ЧАЧЭРСК — ПАСТАВЫ — ПІНСК...

Духоўнае апірышча — народнае мастацтва — дапамагала людзям не аднаго пакалення перажыць эканамічныя нягоды, грамадскія катаклізмы, захаваць сваю чалавечую годнасць, застацца народам. Дык няма чаго здзіўляцца, што і ў наш няпэўны час душы адкрытыя насустрач музыцы, а поруч з мастацтвам заўсёды жыве свята.



Дасюль успамінаюць такія святочныя дні ўдзельнікі фестывалю беларускай полькі ў Чачэрску. Зусім нядаўна прайшло традыцыйнае свята «Звіняць цымбалы і гармонік» у Паставах, адметнае парадам народных музычных калектываў з усяе краіны, удзелам гасцей з Польшчы, Расіі, Украіны, а таксама падзеяй у мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі — адкрыццём новай экспазіцыі, асновай якой зрабіўся плён чатырохгадовай пошукавай працы археолагаў, краязнаўцаў.

І вось — новае свята: І Міжнародны фестываль фальклору, які 15 чэрвеня пачаўся ў Пінску, а завершыцца ў сталіцы рэспублікі. Агульная інфармацыя пра яго была ў лімаўскім анонсе, з часам падрыхтуем і аналітычныя выніковыя нататкі... А пакуль глянем на гэтыя здымкі, якія фотакарэспандэнт М. ЖЫЛІНСКАЯ прывезла з пастаўскага свята: магчыма, хтосьці з гэтых таленавітых вясёлых людзей выступае сёння на сцэне І Міжнароднага фестывалю фальклору...



# ФАКТЫЧНА — ЗАБАРОНЕНА...

***У рэдакцыю «ЛіМа» паступіў прэс-рэліз «Нашай Нівы», у якім гаворыцца:***

«Рэдакцыя беларускай газеты «Наша Ніва» знаходзіцца ў Вільні. У Менску дзейнічае бюро газеты. З тае прычыны, што палова нашых падпісантаў і чытачоў жыве на Беларусі, газета друкавалася ў Менску. 9 чэрвеня 1994 г. нам было адмоўлена ў магчымасці надалей друкавацца ў «Беларускім Доме друку». Адмоўлена ў парушэнне кантракту — газета добрасумленна выконвала свае фінансавыя абавязкі. Такім чынам — што здарылася? і чаму?

Ва ўмовах Беларусі адмова друкаваць ёсць фактычнаю забаронаю выдання. Пакуль яшчэ на Беларусі няма аніводнай прыватнай друкарні — усе яны належаць дзяржаве і падпарадкаваныя ўраду. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў урад Рэспублікі Беларусь імкнецца ліквідаваць усе непадуладныя яму сродкі масавай інфармацыі: фактычна забаронены агульнанацыянальная газета «Свабода», віцебская газета «Выбар», зліквідаваныя некаторыя радыёстанцыі, раней пад рэпрэсіі падпадала незалежнае тэлебачанне. Спроба наладзіць друк «Нашай Нівы» ў іншых беларускіх друкарнях пакуль не мела поспеху — там прапаноўваюць зноў звярнуцца пасля 1 ліпеня, гэта значыць пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Перашкоды выхаду газеты «Наша Ніва» з'яўляюцца парушэннем права свабоды друку з боку цяперашніх уладаў Беларусі».

# ПЕРШАЯ, МІЖНАРОДНАЯ...

12—13 чэрвеня г. г. у Мінску працавала першая міжнародная навуковая канферэнцыя «Культура беларускага замежжа», на якую па запрашэнні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь (афіцыйныя арганізатары канферэнцыі) з'ехаліся даследчыкі і прапагандысты беларусікі з сусветнага абшару (Заходняя Еўропа, ЗША, дыяспара). Канферэнцыя зладжана праз год пасля Першага з'езда беларусаў свету, доўжыць яго традыцыю і ў задумках арганізатараў мае ператварыцца ў рэгулярны беларускі культурніцкі сімпозіум (раз на два гады).

Што да канкрэтнага плёну канферэнцыі, то яе ўдзельнікі на гэты раз абмяркоўвалі практычныя пытанні прапаганды беларушчыны ў свеце і падтрымання на належным узроўні культурнага жыцця дыяспары (усе прапановы будуць вынесены да разгляду на дзяржаўным узроўні). На заканчэнне мерапрыемства мелася прэс-канферэнцыя, у якой узяў удзел мастак з Берасця Мікола Кузьміч, які аднаўляе Крыж Св. Еўфрасінні Полацкай (Крыж Лазара Богшы). Праца вядзецца ўжо 16 месяцаў і мае ўсе шанцы, каб быць завершанай. Фінансуюць работу (галоўным чынам набыццё золата, серабра і каштоўных каменняў) беларускія прадпрымальнікі з дыяспары Анатоль Сільвончык і Барыс Стук.

# ... ТАКСАМА ПЕРШАЯ, БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАЯ

А 14—15 чэрвеня, як бы ў працяг канферэнцыі па культуры замежжа, распачалася і працавала іншая канферэнцыя — «Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні: традыцыі, сучасны стан, перспектывы». Сарганізавалі яе Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр (у яго сценах і адбываліся пасяджэнні), Беларускі інстытут навукі і мастацтва (ЗША), Згуртаванне прадпрымальнікаў Беларусі, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны пры Міністэрстве адукацыі Рэспублікі Беларусь. Як бачым, не зважаючы на крызісны стан эканомікі і фінансаў, на пераходны палітычны перыяд, — у краіне ёсць асяродкі, што апякуюцца культурна-інтэлектуальным жыццём Беларусі і дыяспары. Культура робіцца насуперак палітыцы.

Што канкрэтна да пазначанай канферэнцыі, то на ёй два дні працавалі дзве секцыі — грамадазнаўчая і філалагічна-мастацкая. Гучалі даклады і паведамленні гісторыкаў, культуролагаў, літаратуразнаўцаў, прадпрымальнікаў — пра аспекты ўзаемасувязей Беларусі і Амерыкі, пра слынных асоб, што ўвайшлі ў гісторыю гэтых узаемасувязей. (Вырашана навуковыя матэрыялы змясціць у чарговым гадавіку ННАЦ імя Ф. Скарыны «Беларусіка»). Акрамя таго, вяліся практычныя размовы — аб наладжванні інфармацыйнага ўзаемаабмену паміж Беларуссю і Злучанымі Штатамі Амерыкі (нешта накшталт беларуска-амерыканскай інфармацыйнай службы), аб развоі амерыканістыкі на філфаку БДУ і інш. Удзельнікі канферэнцыі аднадушна пагадзіліся на правядзенні гэткіх сімпозіумаў рэгулярна.

**Наш кар.**

# СЕЗОН ЗАВЕРШАНЫ. ЛАЎРЭАТЫ НАЗВАНЫ

Маючы вялікае жаданне, гледачы яшчэ могуць запоўніць прагалы ў сваіх тэатральных уражаннях, але афіцыйна тэатральны сезон у Мінску — завершаны. Кропку ў ім, багатым на падзеі, паставіла ўрачыстасць, наладжаная ў мінулы аўторак Саюзам тэатральных дзеячаў і Беларускім цэнтрам Міжнароднага інстытута тэатра на купалаўскай сцэне.

Тэатральны бамонд выглядаў крыху стомленым, але задаволеным. Было цікава, — неўзабаве атмасферу свята мяркуе перадаць тэлевізійны «Арт-клуб» (сачыце за праграмай, якую, сярод іншага і не менш змястоўнага, штотыдзень друкуе «ЛіМ»).

Падчас вечарыны былі названы імёны лаўрэатаў прэмій СТД і Міністэрства культуры і друку па выніках 1992—93 гадоў. Імі сталі:

**Аляксандра Клімава** (прэмія імя І. Буйніцкага за ролю Этэль Тайер у спектаклі Рускага тэатра «На залатым возеры»);

**Мікалай Пінігін** (прэмія імя Е. Міровіча за рэжысуру спектакля «Ідылія» ў Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы);

**Арнольд Ранцанц** (прэмія імя Л. Александроўскай за ролі ў спектаклях Тэатра музычнай камедыі «Віва ля мама» і «Хэло, Долі!»);

**Алег Жугжда** і **Аляксандр Сідараў** (прэмія імя Л. Мазалеўскай за пастаноўку на сцэне Тэатра «Лялька» спектакля «Загубленая душа»);

**Гурый Барышаў** (прэмія імя К. Крапівы за кнігу «Тэатральная культура Беларусі XVIII стагоддзя»).

Віншуем лаўрэатаў!

## СВІТАЛЬНЫ РАНАК АДРАДЖЭННЯ

Здавалася б, у нечым звычайны факт. У чэрвені 1914 года выйшаў першы нумар часопіса студэнцкай моладзі, які стаўся адзіным. Але ўся справа ў тым, што гэта не проста было новае выданне, а часопіс маладых нацыянальна свядомых беларусаў, і з'явіўся ён у стольным Пецярбурзе, які на пачатку нашага стагоддзя, як вядома, стаў свайго роду цэнтрам беларускага Адраджэння. Вось і новае выданне ставіла за мэту абуджэнне нацыянальнай свядомасці, заклікаць інтэлігенцыю (найперш маладую) служыць працоўнаму народу, змагацца за яго нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне. І назва часопіса была выбрана адпаведная — «Раніца».

Актуальна гучалі артыкулы Тараса Язычніка (пад гэтым псеўданімам выступіў Б. Тарашкевіч) і К. Душэўскага, які падпісаўся крыптонімам «К. Д». Яны ўзнімалі голас у абарону роднай мовы, з павагай пісалі пра фальклор як духоўную скарбонку беларусаў. Былі змешчаны таксама артыкулы К. Голскага і Л. Будзіловіча, прасякнутыя верай у шчаслівую будучыню, упэўненасцю, што яе можна дасягнуць толькі барацьбой. Алегарычная «Казка аб крылах» Л. Будзіловіча адстойвала ідэю служэння Бацькаўшчыне.

У часопісе рэкламаваліся пецярбургскія і віленскія беларускія перыядычныя выданні, аглядаўся культурна-грамадскі рух студэнтаў-беларусаў у розных гарадах Расіі.

«Раніца» не змагла доўга праіснаваць, але ў наступным, 1915 годзе беларускія студэнты Пецярбурга спрабавалі выдаваць новы часопіс «Сябра». Праўда, з-за цэнзурных умоў ваеннага часу ён так і не выйшаў. Тым не менш, пачатак добрай справе быў пакладзены.

## ЗАСТРУМЕНІЛА «КРЫНІЦА ЖЫЦЦЯ»

У слонімскай узбуйненай друкарні 10-тысячным накладам выпушчаны першы нумар новага часопіса «Крыніца жыцця», які з'яўляецца органам евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі і выдаецца на сродкі Хрысціянскай дабрачыннай місіі «Емануіл» і ахвяраванні вернікаў. Рэдакцыя часопіса знаходзіцца ў Кобрыне.

Часопіс выйшаў на дзвюх мовах. Праўда, пераважае руская, хоць у справаздачы з першага з'езда ЕХБ, што апублікавана ў ім, гаворыцца аб неабходнасці «вывучаць беларускую мову».

Змешчаны артыкулы Ч. Фінея «Што такое абуджэнне», Р. Шульган «Беларусь», «Транссусветнае радыё» ў Беларусі», «Што такое сям'я» і іншыя рэлігійныя матэрыялы. На дзіцячай старонцы прапануюцца дзіцячыя вершы В. Трубчыка і казка Бэйлі «Небяспечнае падарожжа па Алясцы». Друкуюцца таксама вершы У. Кучынскага, Ю. Дабракова, А. Казака, пачынае дзейнасць завочная біблейская школа.

Нумар аформлены мастаком В. Макарчуком.

С. ЧЫГРЫН

## ХЛЕБ-СОЛЬ СУСЕДСКІ

У клубе вёскі Сташаны, што на Піншчыне, бяскоўцы хлебам і соллю віталі сваіх землякоў — паэтаў Міколу Антаноўскага і Анатоля Шушко, чые бацькоўскія хаты і сёння суседзяцца. Сябры з маленства, М. Антаноўскі і А. Шушко засталіся па-ранейшаму аддадзенымі вёсцы, якая ўзгадавала іх, людзям, з якімі раслі поруч.

На вечары выступілі таксама члены літаратурнага аб'яднання «Арбіта», што працуе пры рэдакцыі раённай газеты «Полесская правда», З. Вагер, Л. Крывецкі, М. Самуйлік, А. Андрабайла. Прысутных радаваў і мясцовы фальклорна-этнаграфічны гурт «Чабатухі» — балазе, паэтычнае свята супала з рэлігійным Міколам, якое ў Сташанах з'яўляецца фэставым.

В. ПАПІЦІЧ

## ЗДЗЯЙСНЕННІ — НАСУПЕРАК ЛЁСУ

Пад такой назвай у пятым нумары часопіса «Роднае слова» надрукаваны артыкул А. Сабалеўскага, у якім прасочваецца жыццёвая і творчая біяграфія Ф. Аляхновіча. Змешчаны заканчэнне артыкула А. Бельскага «Ідзі, вясна, красуйся!..» (вясна ў беларускай паэзіі), пачатак артыкула У. Мархеля «Прошласць падае знак прышласці» (беларуска-польскае літаратурнае сумежжа ў XIX ст.), артыкулы Л. Гарэлік «Залатое ранне паэзіі» (творчасць П. Труса), А. Андруковіча «Калі песня душу грэе...» (лёс і песні А. Русака), А. Хатэнкі «Наламлю я зялёнага маю...» (духоўны сэнс веснавых звычаяў і абрадаў), В. Болбаса «Пад знакам пчалы» (этыка-педагагічныя погляды Ф. Скарыны), Т. Ганчаровай-Цынкевіч «Песень у іх велізарная колькасць...» (Максім Багдановіч і Украіна), М. Лазарука «Пазнаецца ў параўнанні» (пра новы падручнік па літаратуры для шостага класа), нарыс П. Качатковай «Шлях да Ракуцёўшчыны», іншыя матэрыялы.

# Ніл ГІЛЕВІЧ: «НАЗАД ХОДУ НЕ БУДЗЕ...»

**Напачатку колькі спасылак на нядаўнія публікацыі ў друку, а канкрэтней — на два паведамленні прэс-службы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — Белінфарм. Абодва — аб чарговых пасяджэннях Прэзідыума ВС. Першае з іх адбылося 18 мая: «Разгледжана пытанне аб ходзе выканання Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». З дакладам выступіў старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч. Ён абгрунтаваў неабходнасць стварэння пры Савеце Міністраў урадавай структуры па забеспячэнні адзінай моўнай палітыкі ў рэспубліцы, прыняцця мер па распрацоўцы дзяржаўнымі органамі, падначаленымі ўраду, нарматыўных актаў, накіраваных на выкананне Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». Па прапанове Мечаслава Грыба вырашана стварыць рабочую камісію на чале з намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Іванам Бамбізам для падрыхтоўкі пастановы па гэтым пытанні з улікам заўвагі і прапаноў, выказаных членамі Прэзідыума».**

**Наступнае пасяджэнне Прэзідыума ВС прайшло 25 мая: «Прынята пастанова Прэзідыума «Аб мерах па забеспячэнні своечасовага выканання Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь». У ёй адзначаецца, што з моманту ўступлення закона ў дзеянне адбыліся пэўныя станоўчыя змяненні ў развіцці беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай, а таксама і іншых нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва рэспублікі. Аднак адпаведную работу многіх міністэрстваў, дзяржкамітэтаў і ведамстваў нельга прызнаць здавальняючай. У сувязі з гэтым ураду ў мэтах кантролю за рэалізацыяй Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай і іншых нацыянальных моў у рэспубліцы даручаецца сістэматычна разглядаць на Прэзідыуме Савета Міністраў пытанні выканання дзяржаўнымі органамі заканадаўства аб мовах. Акадэміі навук Беларусі сумесна с міністэрствамі адукацыі, культуры і друку прапанавана да 1 верасня 1994 года стварыць навукова-каардынацыйны савет па пытаннях правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі».**

**Як быццам, справа зрушылася з месца. Але так можна меркаваць, калі прачытаць абодва гэтыя паведамленні, як кажуць, бегла. З аднаго боку — канкрэтныя прапановы аднаго з нашых выдатных рупліўцаў на ніве нацыянальнага Адраджэння, з другога, здавалася б, — канкрэтныя меры. Аднак усё акурат і заключаецца ў тым, што бачнасць прыняцця рэальных захадаў, каб Закон аб мовах працаваў, выконваўся, — падманлівая. Больш уважліва ўнікнем у сэнс таго, што адбывалася на гэтых двух пасяджэннях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч «абгрунтаваў** ***неабходнасць стварэння*** **пры Савеце Міністраў** ***урадавай структуры*** **па забеспячэнні адзінай моўнай палітыкі ў рэспубліцы...» І як паставіўся да прапаноў старшыні камісіі Прэзідыум Вярхоўнага Савета? Ды, як ні дзіўна, па сутнасці ніяк! І не трэба здзіўляцца катэгарычнасці такога меркавання. Тое, што вылілася ў радкі, што ўраду «даручаецца сістэматычна разглядаць на Прэзідыуме Савета Міністраў пытанні выканання дзяржаўнымі органамі заканадаўства аб мовах» — звычайная абстракцыя. Бо каму, як не ўраду, гэтае пытанне кантраляваць, каму, як не яму, клапаціцца, каб выконваліся гэты і іншыя законы Рэспублікі Беларусь? А наконт стварэння «каардынацыйнага савета па пытаннях правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі», дык, прабачце, увогуле смешна выглядае. Старшыня камісіі пра** ***«ўрадавую структуру»*** **гаворыць, а Прэзідыум рэкамендуе стварыць** ***«навукова-каардынацыйны савет».*** **Інакш кажучы,** ***грамадскую структуру.*** **Па сутнасці без ніякіх заканадаўчых правоў.**

**Няцяжка заўважыць, што тым самым адбываецца ігнараванне выканання Закона аб мовах. Прынамсі, у таго-сяго няма ніякага жадання, каб ён своечасова выконваўся. І разам з тым яскрава відавочны памкненні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, каб гэты закон працаваў і выконваўся.**

**Сама час даць слова Н. ГІЛЕВІЧУ:**

— Яшчэ больш як паўгода назад наша камісія наважыла абмеркаваць пытанне аб ходзе выканання Закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь» на Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Трэба сказаць, што да гэтага абмеркавання мы даволі сур'ёзна рыхтаваліся. На працягу доўгага часу збіралі належную інфармацыю, як выконваецца Закон аб мовах у розных міністэрствах, ведамствах, установах. Пасылалі сваіх супрацоўнікаў у розныя гарады Беларусі, даючы канкрэтныя заданні. Нарэшце, абагульнілі ўсю гэтую інфармацыю. На жаль, карціна выяснілася не надта вясёлая. Можна было б спадзявацца на лепшую сітуацыю. Пра ўсё гэта і гаварыў я ў дакладзе на Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Дарэчы, ён апублікаваны ў «Народнай газеце», таму, думаецца, няма патрэбы паўтарацца.

**— Здавалася б, пасля гэтага Прэзідыум і мусіў бы падзяліць і вашу трывогу, і вашу занепакоенасць, і ваш боль, што не выконваецца, калі разабрацца, на сённяшні дзень адзін з самых галоўных законаў Рэспублікі Беларусь. Бо не будзе дзяржаўнай беларускай мовы — пад сумненне ставіцца і існаванне суверэннай беларускай дзяржавы. Атрымліваецца ж, як ні дзіўна, так, што Вярхоўны Савет не надае належнай увагі дзяржаўнай мове...**

— Канешне ж, рыхтуючы даклад і праект пастановы для Прэзідыума, мы мелі на ўвазе, што Прэзідыум прыме такую пастанову, у якой будуць вызначаны зусім канкрэтныя меры, захады, каб зрабіць ход выканання Закона аб мовах больш дзейсным.

**— Калі ласка, крыху пра змест гэтага праекта пастановы...**

— У праект пастановы наша камісія ўнесла тры пункты. Два з іх самыя галоўныя. Гэта стварыць дзяржаўны камітэт па забеспячэнні адзінай моўнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь. А пры гэтым камітэце ўтварыць спецыяльную інспекцыю, якая б кантралявала, як ідзе ажыццяўленне Закона аб мовах. Гаворачы пра камітэт, мы мелі на ўвазе, што гэта будзе колькасна невялікая структура, дзейсная, дзелавая, рабочая, у якую б увайшлі навукоўцы, літаратары, мовазнаўцы, відныя дзеячы культуры. Камітэт і займаўся б пытаннямі моўнай палітыкі. Яе ж, моўнай палітыкі, шчыра кажучы, у нас сёння няма. Як хто хоча, так і разважае, так і робіць, такую палітыку і праводзіць. Якім, напрыклад, павінен быць статус нашай мовы, статус іншых моў у канкрэтнай жыццёвай практыцы? Як быць з поўным афармленнем гарадоў і вёсак, устаноў і прадпрыемстваў, фірмаў і гандлёвых кропак? Сёння, па сутнасці, закон ні для кога не пісаны.

**— Бадай, адсюль і нежаданне некаторых газет, часопісаў, гэтаксама і вядучых радыёперадач прытрымлівацца таго правапісу, які на сённяшні дзень ніхто не адмяняў. Безумоўна, можна прызнаць яго, можна адмаўляць, але ж правілы ёсць правілы. І яны ў дадзеным выпадку свайго роду закон. А то што атрымліваецца? Некаторыя школьнікі толькі пачынаюць авалодваць роднай мовай дзякуючы намаганням настаўнікаў, а тут ім, калі ласка, — розныя «клюбы», «клясы»...**

— Сапраўды, на правапісным узроўні ў нас адбываецца неверагодны разнабой. У нашым друку, у іншых сродках масавай інфармацыі. Ды і ў школах могуць прытрымлівацца «свайго» правапісу. Жартуючы-не жартуючы, але можна сказаць, што літаральна кожны грамадзянін выдае ўжо сябе за тэарэтыка і заканадаўцу па гэтым пытанні. Але ж нідзе ў свеце, у цывілізаваных дзяржавах няма такога! Усюды да мовы ставяцца з павагай. Ды там ні ў якім разе не можа ўзнікнуць і такой прапановы. Маўляў, давай правядзём рэферэндум, спытаем у народа, ці патрэбна свая мова. Калі б хто там такое сказаў, дык палічылі б гэта абсурдам, а на таго, хто ўнёс падобную прапанову, паглядзелі б, як на дзівака. Самыя простыя людзі, прадстаўнікі самых ніжэйшых саслоўяў не дазволяць сабе ўсумніцца ў значэнні і ролі мовы народа, які даў назву гэтай дзяржаве. Калі не будзе ў нас нейкай пэўнай дзяржаўнай структуры, якая б займалася ўсімі гэтымі пытаннямі, мы наўрад ці выйдзем у моўнай палітыцы з хаосу. У крайнім выпадку на гэта спатрэбіцца вельмі шмат часу. Далей, апрача камітэта, патрэбна яшчэ інспекцыя. Хаця б, як я прапаноўваў на Прэзідыуме, па адным чалавеку на вобласць. Дарэчы, пачатак такі зроблены. Мінскі гарсавет, не чакаючы чыйго-небудзь рашэння, увёў адзінку такога інспектара. На жаль, у нас амаль ніхто пра гэта не ведае. А рашэнне ж вельмі разумнае. І мудрае. Трэба сачыць, як Закон аб мовах выконваецца. У нас ёсць, напрыклад, дзяржаўная інспекцыя па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. А тут жа мова! Але, паўтараю, мае прапановы па стварэнні камітэта (ці камісіі на дзяржаўным узроўні) і інспекцыі на Прэзідыуме не былі прыняты.

**— І чым, Ніл Сымонавіч, члены Прэзідыума абгрунтоўвалі нежаданне ствараць іх?**

— Коратка тут, бадай, і не растлумачыш. Трэба гаварыць пра такія рэчы, пра якія ўжо гаворана-перагаворана. Па-першае, пра тое, што ў нашых дзяржаўных людзей, у тым ліку і ў шаноўных маіх калег, членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, недзе нешта ад так званага нацыянальнага нігілізму (у адных — у меншай ступені, у другіх — у большай) ёсць. І ў душы, і ў крыві, і ў касцях, але ёсць! Яны тут падзяляюць пазіцыю многіх і многіх нашых грамадзян, якіх за гэтыя... Хацеў сказаць — за гэтыя семдзесят гадоў, але ж гэта выхоўвалася і стагоддзямі, перадавалася з пакалення ў пакаленне праз гены... Жыве, адным словам, такое нігілістычнае стаўленне да сваёй роднай мовы. Затым ідзе неразуменне значэння і ролі мовы ў жыцці грамадства. Калі на кожным кроку чуеш такія рэплікі: «Якая розніца, на якой мове гаварыць!», дык становіцца не па сабе. І гэта рэгулярна чуеш, пачынаючы ад першых асоб дзяржавы да самых нізавых службоўцаў. Паважныя людзі, дзелавыя, кампетэнтныя, але як толькі даходзіць да мовы... Такое неразуменне, такая глухата ў гэтым пытанні! Быццам зусім не ведаюць, якая моўная сітуацыя ў другіх дзяржавах, іншых краінах. Быццам яны ніколі нічога не чыталі, што такое мова народа! Прытым вылучаюцца такія аргументы: маўляў, мы ўсімі гэтымі мерамі замацуем становішча беларускай мовы, а што скажуць грамадзяне Беларусі іншых нацыянальнасцяў? Рускія, палякі, яўрэі, татары, літоўцы... Ці не пакрыўдзяцца яны? Падобныя засцярогі мне неаднойчы адкрыта выказваліся. Маўляў, гэта будзе такі ўхіл, які не будзе зразуметы іншымі. Але — чаго тут баяцца? Што можа здарыцца? Чаму, калі мы паклапоцімся пра сваю мову, каб яна нарэшце заняла належнае становішча ў нашым грамадскім жыцці, павінны абвастрыцца нацыянальныя ўзаемаадносіны? Я тут ніякай логікі не бачу. Чаго павінны пакрыўдзіцца іншыя народы? Хіба гэта ў нейкай меры ўплывае на становішча польскай мовы ў Польшчы, ці рускай — у Расіі, ці яўрэйскай — у Ізраілі... Нічога не пагражае ні польскай мове ў Польшчы, ні рускай — у Расіі, ні яўрэйскай — у Ізраілі і г. д. Пагроза над нашай мовай, і тут, дома, на Беларусі! Ведаеце, для мяне гэта чуць вельмі горка... Беларускую мову на Беларусі хочуць паставіць у такое ж становішча, як тую ж польскую мову на Беларусі, рускую мову на Беларусі, яўрэйскую мову на Беларусі... Ніякіх прыярытэтаў пры гэтым мове карэннага насельніцтва, мове нашага народа! Можна падумаць, што яшчэ недзе ёсць Беларусь у свеце, а ў ёй пануе беларуская мова. Гэтак, як ёсць Польшча з польскай мовай, ёсць Расія з рускай мовай, ёсць Ізраіль з яўрэйскай мовай. Што ж у нас атрымліваецца з дзяржаўнасцю беларускай мовы, адкуль гэты страх перад ёй? Наш жа Закон аб мовах прадугледжвае для тых нацыянальных супольніцтваў, якія жывуць на Беларусі, самыя спрыяльныя ўмовы для існавання і развіцця. Гэта бачна і па Законе аб мовах. Нарэшце, прыняты Закон аб нацыянальных меншасцях. Ды і ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь гаворыцца аб іх правах, карыстанні сваёй мовай, развіцці нацыянальнай культуры. Але, дарагія мае, давайце мы ўсё ж будзем думаць пра тое, што калі мы тут не забяспечым прыярытэты беларускай мовы, ніхто ў свеце не зробіць гэтага. Палякі ж у Польшчы не бядуюць, што там ад беларускай мовы нічога не застанецца. Хоць там беларусы жывуць на сваёй этнічнай спакон вякоў тэрыторыі. І ў Расіі не бядуюць, што беларуская мова нідзе не мае ніякіх правоў, хоць там беларусаў — мільёны два, здаецца. Чаго ж, у такім разе, у нас узнікае страх? Адкуль гэта боязь, каб жа хаця не сталася так, што беларуская мова выйдзе на першае месца?!. А яна ж мусіць выйсці, бо яна **дзяржаўнай** абвешчана!... Абмеркаванне на Прэзідыуме было досыць актыўнае. Выступалі горача, часам і на павышаных танах, у выніку прынялі пастанову зусім не такую, якую прапанавала наша камісія.

**— Калі ласка, пра саму пастанову...**

— Пункт пра стварэнне дзяржаўнага камітэта па ажыццяўленні адзінай моўнай палітыкі выпаў зусім. Пункта пра інспекцыю няма таксама... А замест гэтага тое, што ўжо і прайшло ў паведамленні прэс-службы Вярхоўнага Савета — Белінфарм. Як быццам, Савет Міністраў да гэтага не павінен быў сачыць, як выконваецца прынятая ім **Дзяржаўная** праграма аб ажыццяўленні Закона аб мовах. Яна ж прынята яшчэ ў верасні 1990 года. Што ж атрымліваецца? Што Прэзідыум Вярхоўнага Савета напамінае аб тым, што і так зразумела: Саўмін павінен выконваць свае абавязкі. І гэта самае ў дачыненні да мясцовых Саветаў: даручыць ім кантраляваць выкананне Закона аб мовах на сваім узроўні. А што, яны да гэтага часу не ведалі сваіх абавязкаў?! У пастанове ўведзены пункт аб стварэнні навукова-каардынацыйнага савета па пытаннях правядзення моўнай палітыкі. Хай ён сабе будзе, я не супроць, але ж, вы ведаеце, савет — гэта грамадскі орган, а не дзяржаўная структура. Ён нікога абавязаць не зможа, не зможа і пракантраляваць. Узнікне проста дарадчы орган, які будзе рэкамендацыі даваць. Карацей кажучы, дзейнага дзяржаўнага органа, які б мог штодзённа займацца пытаннямі моўнай палітыкі, ажыццяўлення Закона аб мовах, кантролю за яго выкананнем, — не створана. Я ўпэўнены, што калі-небудзь да гэтага пытання мы вернемся зноў і яно вырашыцца станоўча. Але шкада, што мы марна трацім час. Як кажуць, дорага лыжка...

**— Прыняцце падобнага рашэння на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, Ніл Сымонавіч, бадай, выпадковым не назавеш... Апошні час (хаця вам гэта лепей відаць) актывізавалася дзейнасць (і прамая, і завуаляваная, так сказаць), каб пераканаць грамадскасць у тым, што з выкананнем Закона аб мовах можна і пачакаць. Маўляў, ёсць іншыя,**

*(Працяг на стар. 12)*

# ЖЫВЕ ПАПРАЎДЗЕ

У чэрвеньскія дні 76-га года праходзіў чарговы з'езд пісьменнікаў у Маскве. На шырокую руку ў Крамлі рапартавалі шчасліўцы чарговаму жывому літправадыру, на гэты раз у асобе Георгія Маркава. Рапартавалі пра дасягненні, пра цесную сувязь з жыццём, на якую накіроўвалі пісьменнікаў адразу тры абстрактныя субстанцыі — «ум, честь и совесть нашей эпохи».

Праўда, знайшлося некалькі адшчапенцаў, чые галасы дысанансна прагучалі ў агульным хваласпеве. Гэта ў прыватнасці Альберта Маравія з Італіі й Васіль Быкаў з Беларусі.

Альберта Маравія ў сціслым, насычаным думкамі й роздумам слове між іншым зазначыў, што пачуў і пра трактары, і пра касмічныя караблі, толькі нічога не пачуў пра чалавека. А ў літаратуры галоўнае — «чалавек, у першую чаргу яго адносіны з самім сабой, а пасля — з грамадствам».

Відаць, можна было б напісаць вострасюжэтную й глыбока псіхалагічную рэч пра тое, як кінуліся на абарону сацрэалізму й савецкіх догмаў расійскія і ўсесаюзныя ідэалагічныя салаўі, як цяжка, бо натуральна нялоўка было папраўляць госця. Але гэта так, да слова.

Калі да трыбуны незалежна і спакойна ішоў Васіль Быкаў, Чакоўскі, яўна папярэджаны сваімі падхлебічамі (аж шкада на іх ужываць смачнае ўшацкае слова замест падхалім — падхлебіч), адразу ж пакінуў прэзідыум. А ён жа, Чакоўскі, казалі з ціхай гордасцю маскоўскія паўсюльсуйкі, абедаў часта з самім Леанідам Ільічом.

Васіль Быкаў, як і чакалася, сказаў сваё слова пра савецкую ваенную прозу, пра так званую мемуарыстыку, асабліва пра апісанне двух фюрэраў: савецкага й нямецкага. У полі гледзішча, ці полі бою Быкава была й абавязковая тады для пераймання й усхвалення чакоўская логія. Быў шум нязгоды, рэплікі, выступы контрударныя. Узбуяненая роўнядзь неўзабаве супакоілася ў ціхіх, звыклых берагах.

Гэты амаль дваццацігадовай даўнасці эпізод прыгадаўся, каб яшчэ раз падкрэсліць, што Васіль Быкаў не цяпер стаў смелы, як некаторыя былыя літчыноўнікі, а заўсягды йшоў супроць антычалавечай маралі, камуністычнай ідэалогіі. У нашыя дні пэўныя Быкавы аднагодкі, старэйшыя і маладзейшыя суседзі ў літаратуры, то плачуць, што не хапіла грошай на бохан хлеба надзённага, то з апявання сакратароў райкамаў і вышэйшых спекулююць на галечы і чарнобыльскай навале, то хочуць быць барацьбітамі за беларускасць і адначасова падабацца ўсё той жа наменклатуры, — каб дазволіла поплеч сесці, то займаюцца халодным разьбярствам па дрэве забытых успамінаў. А Васіль Быкаў моцны духам фактычна адзін падымае дзірван забароненых тэмаў у новых аповесцях і апавяданнях, у публіцыстыцы. Васіль Быкаў вяртае публіцыстыцы якасці, якіх пазбавілі яе цемрашальныя тэарэтыкі й крывавыя практыкі светлага заўтра, — праўдзівасць, сумленнасць, шчырасць. Адзін з заснавальнікаў «Мартыралога Беларусі», Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» Васіль Быкаў паслядоўна вядзе вайну са СНІДам XX веку — з камуністычнай ідэалогіяй. Марна тушацца шматлікія кішаньковыя партыі раскалоць БНФ. Васіль Быкаў і Зянон Пазняк добра дапаўняюць адзін аднаго. Гэта, калі можна так параўнаць, двухсечны меч супроць ворагаў беларускай дзяржаўнасці, беларускага духу, беларускага слова.

Васілю Быкаву (колькі разоў пераконваўся ў гэтым) няма калі жыць для сябе ў забытым даўнім паняцці. І неяк вычытаў я ў Эрыха Кестнера: «Хто хоча жыць для іншых, павінен занядбаць сябе. Павінен быць, як урач, у чыёй прыймовай дзень і ноч поўна людзей, і сярод іх сядзіць нехта адзін, чыя чарга ніколі не падыходзіць, але ён не жаліцца, бо гэта ён сам».

Чарга жыць для сябе да Васіля Быкава ніколі не падыдзе. Ён заўсёды апошні ў гэтай незвычайнай і традыцыйнае для вялікіх людзей чарзе. Бо жыве для Беларусі. Бо жыве для людства. Бо жыве папраўдзе.

У дзень нараджэння хочацца пажадаць Васілю, Уладзіміраву сыну, здароўя, трывання, настрою па-вушацку, па-зямляцку. І на добры настрой прапанаваць увазе юбіляра гэты верш. Ён таксама вушацкі.

## АЛЕШНІК

**Зялёны анёл пасінелы, як грэшнік,**
**Прыгодны на дровы й на посах прарока.**
**Займае дзірван местачковец алешнік,**
**Ён Быкаву сніўся ад дому далёка.**

**Тут стыгнуць кратовыя тэрыконы**
**І лесуновыя вянуць заломкі.**
**Змяркаюцца модлы цецерукова,**
**Расой прычапчаецца голас салоўкі.**

**Тут з першай суніцай і першыя ўздыхі,**
**Тут цёткі**
**Збіраюць кульгавыя плёткі.**
**Тут вожыку досыць прасторы для пыхі,**
**Тут вечар кароткі,**
**Світанак салодкі.**

**Абначавалы ў дарозе начлежнік**
**Глядзеў на цяпельца**
**З настроем вясёлым.**
**Патрэскваў лірычна алешнік,**
**Але ж нік**
**І ліст пеіражоўклы**
**Адпалым анёлам...**

**Рыгор БАРАДУЛІН**



*А. Вярцінскі, В. Быкаў і мастацтвазнаўца У. Бойка.*

# ПАЗНАЁМІЛІСЯ Ў СЛАВУТУЮ «АДЛІГУ»...

Пазнаёміліся мы на здымках ягонай «Трэцяй ракеты»: я пісаў музыку да гэтага фільма. Тады, на пачатку 60-х, у славутую «адлігу», гэта быў адзін з першых праўдзівых фільмаў пра Айчынную вайну. Лёс фільма, як і лёс самога Васіля Быкава, дакладна спалучаліся: кінастужка немаведама куды знікла, а Васілю білі шыбы...

Тады я распачаў балет паводле аповесці «Альпійская балада». Ён таксама мае свой лёс, але пра гэта — калі-небудзь. Васіль казаў, што не мог уявіць, як паводле гэтай апо-весці можна было зрабіць музычны твор, што не сыходзіў са сцэны нашага тэатра оперы і балета больш за 20 гадоў. Балет яму падабаўся, і гэта бадай што галоўная адзнака для мяне. Дзякуй табе, Васіль.

Цяпер сустракаемся рэдка, амаль што выпадкова. Здароўя не прыдбалі абодва. Хвалююся, калі чую па тэлефоне родны голас, кранутым астмай. Сумую, калі бачу стомлены твар паза плячом маладога лідэра. Люблю перачытваць «Мёртвым не баліць» і «Сотнікава».

Але, як кажуць, яшчэ не вечар. Можа, дажывём, дый зноў будзем сустракацца, спрачацца, і ты па старой звычцы зноў назавеш мяне «максімалістам»...

Здароўя табе, Васіль, і прыязнасці ад шчырых людзей.

З павагай і любоўю — твой

**Яўген ГЛЕБАЎ,**
**н.а. СССР і Беларусі,**
**прафесар, кампазітар**

# ЗДАРОЎЯ І МОЦЫ!

...Як цяпер, помню ясна-сонечны летні дзень 1974 года, калі ў Мінску адзначаўся першы юбілей Васіля Быкава — ягонае 50-годдзе.

Гэта была сталічная сенсацыя. Яна захвалявала многіх: калег-літаратараў, увогуле шчырых прыхільнікаў, узбуджаных зайздроснікаў, ахоўнікаў тагачаснай ідэалогіі, непрыяцеляў, а з імі і проста цікаўных. Ды яднаў усіх, бадай, прыкры правінцыйны, нават парабкоўскі інтарэс: як зрэагуе іменна на гэты юбілей наш Белы дом, які на чале з «рамантыкам казармавага сацыялізму» меў вялікую мясцовую ўладу, ва ўгоду цэнтральнаму сінкліту смела і беспакарана загадваў вырэзваць беларускія лясы, бяздумна асушваць спрадвечныя рэкі і балоты, высмоктваць і ахімічваць да атруты палеткі, загушчваў рэспубліку гіганцкімі фермамі, заводамі і фабрыкамі, што давалі не толькі карысць, але і неслі шкоду наваколлю і нашаму здароўю, а да ўсяго тайна згадзіўся фактычна ахвяраваць беларускім народам «дзеля вышэйшых мэт», падставіўшы яго пад першы ядзерны ўдар праціўніка ды няўхільна вытрасаючы з яго гістарычную памяць, душу і пераўтвараючы ў дэнацыяналізаваную паслухмяную рабсілу, якая павінна выконваць «велічныя прадназначэнні», дзякаваць за «давер», за самую маленечкую ўвагу...

Юбіляр многім з нас, пажылых і маладых, уяўляўся тады адным з самых смелых трасуноў (потрясателей) не вельмі ўжо і спрытна замаскаваных, але звышуладных афіцыйнай фальшы, дэмагогіі, бязлітаснага высільвання рэспублікі і народа, якім за падагрэты энтузіязм, прыродную цярплівасць, працавітасць, сціпласць, за вонкавы дабрабыт пагражалі блізкія абвал, цямрэча, духоўнае знікненне ў імперскім страўніку. Васіль Быкаў не выходзіў на плошчу ці за трыбуну, не збіраў вакол сябе слухачоў і не прапаведаваў, нават не вельмі закранаў рэчаіснасць, але тым не менш у ягоных творах пра вайну, пра тое, што ўжо адбылося, пачало пакрыху астуджвацца, а то і забывацца, — дык вось адны ў тых дзёрзкіх «Жураўліным крыку», «Трэцяй ракеце», у скаланальных «Мёртвым не баліць» панічна адчулі пагрозу сістэме і сабе, а іншыя, наадварот, акрыялі, адчулі надзею на змены і паратунак ад ачмурэння і выраджэння. Машэраў П. М., мабыць, як ніхто з тагачасных кіраўнікоў СССР, услаўляў Перамогу 1945 года. Гэта зразумела, бо ён сам зведаў нямала бядоты і ў гады вайны праявіў мужнасць. Але з гэтым услаўленнем набірала сілу тэндэнцыя, што жывучая яшчэ і сёння. Так, ушанавалі Перамогу, але якой цаной і для чаго? Хіба не засланіліся ад сапраўднай праўды пра вайну? Хіба нарэшце разабраліся як след з падпольшчыкамі, ваеннапалоннымі і гвалтам вывезенымі ў Германію сем'ямі? Хіба хітра не цешылі самалюбства былых радавых франтавікоў і партызан, якім 9 мая дазвалялі пахвалу, чарку і слёзы, але якіх пасля свята папранейшаму пакідалі знібець у гумовых ботах, фуфайках, з віламі, пры невялікай зарплаце і без ніякіх сапраўдных ільгот? Урэшце хіба не запаразітавалі на гэтым услаўленні многія з тых, хто быў на вайне ў камандуючым эшалоне і хто пасля вайны ўмацаваўся ў кіруючым апараце, дарваўся да спецмашын, паліклінік, бальніц, санаторыяў, да спецбуфетаў? Чым больш цёпла, тым болей усякай заедзі. Так вось і ў жыцці: чым багацелі пасля вайны, тым болела прыстасаванцаў, жулля і хапуг да здабытага народам цяжкай працаю. Найперш яны, гэтая заедзь, прыкрываючыся святой справаю і сваімі ўзнагародамі, забілі трывогу, дружна аб'ядналіся супраць Быкава і іншых, хто захацеў хоць у тым-сім з таго-сяго ваеннага разабраца, зірнуць на вайну не толькі з утульных штабных кабінетаў, але і з сырых акопаў, паказаць непамерна цяжкія ваенныя будні, зламаныя людскія лёсы, неапраўданую гібель мільёнаў радавых працаўнікоў вайны, лепшай часткі мужчын-насельнікаў, якія грудзьмі стрымлівалі ворага і гналі прэч з роднай зямлі, часамі мусячы проста тапіць яго ў сваёй крыві (кроў 27 мільёнаў загінуўшых — неапраўдана вялікая кроў), пакідалі свет, бацькоў, сясцёр і братоў, жонак ды дзяўчат, Жыццё (!) з іменем Сталіна і партыі на вуснах, так і не спазнаўшы (а калі спазнаўшы, дык не сказаўшы), што не столькі тыя, а якраз яны — Героі, што тых трэба рана-позна за велізарныя злачынствы запатрабаваць на строгі суд Гісторыі... Час ідзе, тых, хто перажыў вайну і здабываў Перамогу над фашызмам, меншае, той подзвіг узрастае, але і не меншае разуменне трагедыі, калі пераможцы пачалі літаральна прасіць міласціны ў пераможаных... У гэтым сэнсе вельмі назіральны і мудры Іва Андрыч, які ў «Лісце, датаваным 1920 годам», пісаў: «Пераможаныя ясней бачаць тое, да чаго яны прыйшлі і што ім трэба рабіць, а пераможцы нават і не здагадваюцца, што іх чакае наперадзе». Чаму гэта так? Няўжо так закалыхалі нашы розумы, нашу стваральную сілу «святасцю» сістэмы, яе «Вялікімі перамогамі», што мы... як след не шчасныя і ад Перамогі Народа... Не Быкаў ці той жа Пазняк вінаватыя за гэта...

Тады расправіцца з Васілём Быкавым не дапусцілі многія беларускія пісьменнікі, якія падалі калектыўны адлаведны ліст у наш ЦК (да іхняй рашучай думкі прыйшлося прыслухацца, але літаратараў змусілі падпісаць і іншы ліст — супраць беларусаў, якія, вінаватыя і невінаватыя, апынуліся за мяжой і рабілі там беларускую справу), а таксама была і магутная падтрымка маскоўскай літаратурнай грамадскасці. Усё гэта паспрыяла яму не толькі засведчыць новы, больш праўдзівы погляд на вайну, але і падняць узровень беларускай прозы, стаць з'яваю ва ўсесаюзным літаратурным працэсе. Так ужо выйшла, што Васілю Уладзіміравічу, мабыць, як нікому з нашых творчых асоб, наканавана неаднаразовае выпрабаванне — непрыманнем, зласлівымі нападкамі і прызнаннем, славай, пахвальбой, ліўнем самых высокіх узнагарод. Як след распарадзіцца ўсім гэтым — нялёгкая справа, бо нямала каму хочацца спажыць быкаўскі аўтарытэт у сваю асабістую карысць. Ёсць і яшчэ адзін нюанс: некаторыя з нас так прызвычаіліся ўжо да быкаўскага максімалізму, што пачалі часамі даваць сабе палёгку: маўляў, нам можна працаваць у меру сваіх творчых сіл, а вось Быкаў няхай дае толькі шэдэўры! Недальнабачнае меркаванне, якое, зразумела, не даспадобы і самому Васілю Уладзіміравічу: ягоны асабісты прыклад паказвае, што ў пэўны час трэба шмат, а то і немагчымае браць і на сябе. Толькі тады будзе рух наперад. Тым больш, што беларускай літаратуры наперадзе яшчэ араць ды пераворваць!

Маладосцеўцы, ад імя якіх я віншую Васіля Уладзіміравіча Быкава з 70-годдзем, ганарацца, што якраз «Маладосць» у свой час памагла яму стаць на ногі, што ягоныя шматлікія аповесці ўпрыгожылі часопіс, што шаноўны юбіляр — сябра рэдкалегіі выдання, які, маючы бясспрэчны аўтарытэт, ніколі не замінаў і не замінае творча працаваць, а ў нялёгкія сітуацыі ці калі патрэбна добрая парада — падтрымлівае і робіць гэта важка. А што асабіста да мяне, дык я і цяпер сардэчна дзякую Васілю Уладзіміравічу за ліст, які ў 1974 годзе ён даслаў з Гродна мне як водгук на маю першую кніжачку «Дажджы над вёскай» і натхніў на далейшую творчасць.

Здароўя, моцы Вам, Васіль Уладзіміравіч!

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

## ХОЦЬ І НА РАТАПРЫНЦЕ...

**Рашэннем калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (прынята яшчэ 23 верасня 1992 года) курс «Гісторыя культуры Беларусі», як раздзел «Беларусазнаўства», уключаны ў лік базавых дысцыплін гуманітарнай падрыхтоўкі ў вышэйшых навучальных установах усіх тыпаў. У сувязі з гэтым у Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце распрацавана свая структура лекцыйнага курса, які чытаецца на ўсіх факультэтах дзённай (і часткова завочнай) формы навучання. Што ён уяўляе сабой, бачна з вучэбнага дапаможніка Уладзіміра Канчэўскага, які так і называецца — «Гісторыя культуры Беларусі». Выпушчаны ён ратапрынтным спосабам. Ахоп матэрыялу вельмі шырокі — ад часоў Полацкага і Вялікага княства Літоўскага па сённяшні дзень.**

## СЯБРОЎСТВА ДВУХ НАРОДАЎ

**Пад гукі старадаўняга беларускага і адначасова латышскага інструмента дуды, на якой граў У. Бербераў, артыстка тэатра «Жывое слова» М. Аліфер па-латышску чытала верш Я. Райніса «Мая дуда»...**

**Так пачалася ў Доме літаратара вечарына беларуска-латышскага культурнага супрацоўніцтва, прысвечаная памяці Я. Райніса і сотым угодкам з дня нараджэння Я. Судрабкална.**

**Успамінамі аб сустрэчах з Я. Судрабкалнам, згадкамі аб яго творчасці падзяліліся Э. Агняцвет, А. Вярцінскі, народны паэт Беларусі Р. Барадулін, які і вёў вечар. Яны чыталі свае вершы аб Латвіі і пераклады латышскіх паэтаў, гэтаксама як і А. Разанаў, С. Законнікаў, В. Сёмуха. А. Слесарэнка расказаў аб вызваленні Латвіі ў 1944 годзе.**

**Госці вечарыны — празаік, саветнік пасольства Латвіі ў Рэспубліцы Беларусь А. Сніпс, паэты з Рыгі М. Чаклайс і К. Скуеніекс гаварылі аб сувязях двух братніх народаў.**

**Удзельнікі вечара пазнаёміліся с выстаўкамі паштовак «Дзвіна-Даўгава» і кніжнай.**

**М. КРЫЎЧЫК**

## ФАЛЬКЛАРЫСТ І КАМПАЗІТАР



**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася вечарына з нагоды 125-годдзя Мікалая Чуркіна, народнага артыста Беларусі, аднаго з заснавальнікаў беларускай прафесійнай музыкі, фалькларыста і педагога. Мікалай Мікалаевіч нарадзіўся і жыў на Каўказе, а ў 1903 годзе пераехаў на Беларусь і назаўсёды звязаў з ёю сваё жыццё.**

**Цёплымі ўспамінамі пра шматгадовыя сяброўскія сувязі з кампазітарам падзяліўся вядомы беларускі музыказнаўца, заслужаны дзеяч культуры Браніслаў Смольскі. Цікавым і шчырым было выступленне нявесткі кампазітара Валянціны Чуркінай.**

**Пра выкладчыцкую дзейнасць Мікалая Чуркіна падчас яго працы ў Магілёўскім педтэхнікуме расказала былая навучэнка гэтай установы, кандыдат педагагічных навук Ядвіга Кавальчук, дачка вядомага вучонага-хіміка, дзеяча беларускага Адраджэння Язэпа Сушынскага, з якім сябраваў славуты кампазітар.**

**Напрыканцы вечара ў выкананні адметнага фальклорнага дзіцячага ансамбля школы N 4 г. Мінска прагучалі беларускія народныя песні, якія ў свой час запісаў Мікалай Чуркін «Захацела бабусенька ды разбагацеці», «Пасеялі дзеўкі лён» і іншыя.**

**Удзельнікі вечарыны змаглі азнаёміцца з выстаўкай, створанай навукоўцамі музея па фондавых матэрыялах і сямейнага архіва Чуркіных.**

**Л. АСТАПКЕВІЧ**



# ВЕРНАСЦЬ ВЕРНАСЦІ

Васіль Быкаў і беларуская літаратура, Васіль Быкаў і былая савецкая літаратура, Васіль Быкаў і сусветная літаратура — праблемы, якія застаюцца да 70-годдзя гэтага выдатнага беларускага пісьменніка ўсё яшчэ недастаткова прасветленымі, хоць у цэлым пра яго творчасць быццам не так і мала пісала як беларуская, так і зарубежная крытыка. Прычым, пераважна ў асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў. Магчыма, гэтая «віна» крытыкі тлумачыцца не толькі складанасцю праблем, не толькі недастатковым вопытам шырокамаштабнага філасофска-эстэтычнага мыслення, хоць і гэта мае сваё стрымліваючае значэнне, але і той, відаць, акалічнасцю, што творчасць В. Быкава эвалюцыйна хуткая, а таму і цяжка ўлоўная для супастаўленняў і абагульненых суадносін. Вось, здаецца, аповесці пра вайну «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Здрада» і іншыя справядліва можна аднесці да тыпу мастацкага мыслення, уласцівага рускай «лейтэнанцкай» прозе (Р. Бакланаў, Ю. Бондараў, А. Ананьеў), а таксама заходнееўрапейскім баталістам другой сусветнай вайны. Сам пісьменнік прызнаваўся, што гэтая проза хвалявала і натхняла яго. Але з'яўляецца «Альпійская балада» з яе нейкім нават сентыментальна-лірычным каларытам, не характэрным для папярэдняй творчасці В. Быкава і, бадай, зусім немагчымым, напрыклад, у Р. Бакланава ці А. Ананьева. Герой аповесці Іван Цярэшка, сяржант Савецкай Арміі, вырваўшыся з нямецкага канцлагера, становіцца нібы партызанам. І ўслед за «Альпійскай баладай» — цэлая серыя «партызанскіх» аповесцей, хоць сам пісьменнік закончыў вайну франтавым афіцэрам і ў партызанах не быў, пасля якіх пісьменнік ужо зусім не вяртаецца да тэмы франтавой вайны. І, нарэшце, як «сенсацыя», як адкрыццё «невядомага» Быкава — цыкл апавяданняў («Полымя», 1994, N1) аб «партызанах» іншых часоў і іншай палітычнай накіраванасці, у якіх паказваюцца ўдзельнікі Слуцкага паўстання, якія ўзяліся за зброю супраць наступаючай Чырвонай Арміі, марачы пра незалежнасць Беларусі.

Творчая эвалюцыя, якая адмаўляе свае пачаткі і ўрэшце самую сябе? Такое ўяўленне можа скласціся толькі пад уздзеяннем недастаткова асэнсаваных знешніх выяў унутранага свету гэтага пісьменніка. На самай справе творчасць В. Быкава зайздросна цэльная і паслядоўна фарміраваная. І ў гэтай цэльнай і паслядоўнай лініі самаразвіцця крыецца асаблівая прыгажосць яго творчай і жыццёвай біяграфіі.

Існуе не беспадстаўнае меркаванне, што нацыянальны пафас зместу ў літаратуры вырастае на глебе яе побытавага і сацыяльна-побытавага засваення народнага жыцця. Менавіта такая беларуская традыцыя, да якой блізка стаіць і В. Быкаў. У менталітэтна-духоўных плынях, якія ідуць ад творчай спадчыны Я. Коласа і К. Чорнага, «купаецца» і яго талент. Ён бярэ ў іх творчасці тое, што мае патэнцыю далейшага эстэтычнага ўзвышэння, яшчэ глыбей абагульняецца з пазіцый пазнейшага часу. Або пісьменнік запыняецца на тым, што складала ў класічна ўраўнаважанай паэтыцы раўнапраўны элемент з іншымі вобразна-знакавымі прыкметамі, і ўзвышае яго да галоўнага. З часткі нярэдка вырастае цэлае.

Не цяжка заўважыць, што эстэтычна-сэнсавае значэнне побыту ў прозе В. Быкава ад твора да твора зніжаецца. Побыт у ёй не мае самакаштоўнасці мастацкай фактуры і выконвае бадай што толькі ролю чыста знакавай аргументацыі лёсу чалавека. Калі б гэта было не так, то не маглі б з'явіцца «партызанскія» аповесці пісьменніка, дзе побыт не выступае як рэальнасць, засведчаная відавочнасцю аўтара. У выніку метафарызуюцца не толькі асобныя эпізоды дзеяння, а ўся падзейная сістэма твора, увесь лёс чалавека. Крытыка даўно заўважыла «прытчавы» характар прозы В. Быкава, але ягоны твор-прытча не становіцца абстрактнай схемай, чыста разумовым тварэннем і не страчвае жывога хвалявання жыцця. У гэтым — менавіта яго непаўторнае майстэрства, якое пашырае і ўзмацняе абагульняючую сілу ўсёй беларускай літаратуры.

Паўторым: справядліва лічыць нізавы ўзровень народнага побыту крыніцай спрадвечнага саманараджэння нацыянальнага пачуцця. З гэтага як быццам павінна вынікаць, што звужэнне побытавай плыні ў літаратуры, пераўтварэнне побытавых падзей у ідэйна завершаныя вобразныя звёны вядзе да невыразнасці нацыянальнага зместу. Аднак гэта не так. Беларуская проза дасягнула ўжо такога эстэтычна-філасофскага крытэрыя развіцця, калі ўсякая ідэя, у тым ліку і нацыянальная, можа ўвасабляцца ў вобразах, пазбаўленых адкрытага побытавага генезісу. Агульны фон побытавага існавання персанажаў захоўваецца, але ён падаецца ў зменены абагульняючым выглядзе. Бліскучы ўзор — творчасць В. Быкава.

Персанажы многіх аповесцей В. Быкава паказаны вырванымі з народнага асяроддзя, аднак іх нацыянальна-ўнутранае аблічча або пазнаецца або адчуваецца. Што беларускага, напрыклад, у асобе Глечыка з ранняй аповесці «Жураўліны крык»? Салдат як салдат. На яго месцы мог быць іншы персанаж, той жа арловец Карпенка, ягоны камандзір. Па агульнай лініі паводзін — так. Але нешта ёсць у характары Глечыка асаблівае. Яно ў нейкіх ледзь улоўных індывідуальных момантах адносін да жыцця. Вядома, у гэтых індывідуальных праявах душэўнага стану Глечыка — перш за ўсё яго адметнасць як чалавека і асобы. Але ў іх угадваюцца таксама і распаўсюджаныя рысы псіхалогіі яго народа. Тут і некаторая наіўнасць у адчуванні свайго становішча, і празмерная даверлівасць да людзей, і безадмоўнае паслушэнства, і баязлівасць, спалучаная з рашучасцю, і схільнасць дзейнічаць актыўна ўслед за іншымі ці па прыкладу іншых.

Такія ж ці падобныя адзнакі характару беларуса заўважаюцца ў паводзінах іншых герояў пісьменніка. Праўда, паступова яны яшчэ больш палярызуюцца па маральна-духоўных якасцях. З'яўляюцца вобразы ідэальнага ўнутранага аблічча і рэзка адмоўнага. Па ўсім відаць, у аповесці «Мёртвым не баліць» беларусам мог быць не толькі Васілевіч, але і Сахно. І тым не менш пісьменніка з асаблівым прыцягненнем прывабліваюць ідэальныя магчымасці беларуса. Ідэальнасць ужо ёсць у манеры паводзін Глечыка. Замест таго, каб, выканаўшы загад і споўніўшы свой воінскі абавязак да канца, з чыстым сумленнем адступіць, ён чакае сваёй смерці — смерці свядома выбранай і гераічнай.

Васілевіч з «Мёртвым не баліць» і асабліва Іван Цярэшка з «Альпійскай балады» — фігуры ўжо непрыхавана ідэальныя. У іх вобразах увасобілася мара пісьменніка пра сапраўднага беларуса — сумленнага, маральна стойкага, бескампраміснага, ахвярнага дзеля другіх і гатовага да таго, каб яго заўважыў вялікі свет, унутрана падрыхтаванага прыйсці ў той вялікі свет на законных маральна-духоўных правах і магчымасцях. «Альпійская балада» — гэта сапраўды балада, легенда, прытча пра беларуса, якога выпрабаванні вайны змусілі стаць вышэй самога сябе ранейшага. І ён бліскуча вытрымаў гэты экзамен на вачах усяго вялікага свету.

Выпрабаваннем не проста на гераізм, а на чалавечнасць у самым шырокім сэнсе стала для беларуса вайна, якую назвалі Вялікай Айчыннай. За цану вялікіх страт і ахвяр яна зрабіла яго імя вядомым сярод іншых народаў, бо ў крывавых падзеях вайны нацыянальны характар беларуса выявіўся з найбольшай сілай. Гэтая ідэя так або інакш прысутнічае, бадай што, ва ўсіх творах В. Быкава.

Умоўна-побытавая лінія падзей у аповесці «Альпійская балада» перарастае ў празрыстую сімволіку. Дэталь, факт, ланцуг падзей адна за адной, лёс чалавека ў цэлым маюць такую падтэкставую вышыню, якая і самога чалавека ўздымае на ўзровень сімвала часу. Іван Цярэшка па сваім адчуванні свету і сябе самога ў гэтым свеце — у нечым вельмі істотным далёкі папярэднік сённяшняга маральна-псіхалагічнага стану беларуса.

Баладнасць, прытчавасць аповесцей В. Быкава — не белетрыстычная, не знарочыста кампліментарная для беларуса, не пустая зместам. Гэты прыём на самай справе здатны ўлавіць і перадаць менталітэтныя імкненні ўсяго народа. Магчыма, толькі сёння, калі ў разважаннях пра літаратуру ўсё больш рашуча пераадольваецца спрошчанасць у адчуванні і разуменні нацыянальнай зрошчанасці мастацкага слова з народным жыццём, ва ўсім сваім паўнагучччы адкрываецца нацыянальны пафас і змест творчасці беларускіх пісьменнікаў. Як ніколі раней доказна пацвярджаецца, што ідэйна нацыянальная не толькі творчасць І. Мележа або Я. Брыля, але і В. Быкава.

У прозе В. Быкава беларуская літаратура найбольш відавочна засвойвае абагульнена-спрадвечныя мастацка-сэнсавыя абсалюты, якія ўтвараюцца — што вельмі важна — на суцэльнай нацыянальнай глебе як духоўнай рэальнасці.

Асоба Васіля Быкава як пісьменніка і чалавека унікальная для Беларусі, хоць па знешніх адзнаках яна звычайная. У яго жыццё — як у многіх. Вучоба, вайна, удзел у баях, раненні. Пасля вайны — спробы літаратурнай творчасці, першыя нясмелыя ўдачы, цяжкая самаадданая праца і, нарэшце, прызнанне. У В. Быкава — сусветнае прызнанне. Але калі гэты жыццёвы і творчы шлях — шлях па асноўных вехах тыповы для ўсяго яго пакалення, то ў чым жа неардынарнасць менавіта яго пісьменніцкай і чалавечай постаці? Шмат у чым. І перш за ўсё, мабыць, у тым, што літаратурная, маральная і палітычная выніковасць творчай дзейнасці пісьменніка нібы падсумоўвае важнейшыя асаблівасці развіцця ўсяго грамадства. В. Быкаў і яго творчасць былі заўсёды ў эпіцэнтры ідэйных і духоўных канфліктаў і завіхрэнняў, якімі пазначана паслясталінская эпоха аж да сённяшняга апошняга моманту. Аднак зноўтакі — падобны лёс напаткаў не аднаго В. Быкава. Чаму ж тады яго вельмі часта не лічаць сваім нават тыя, хто разам з ім прайшоў цяжкімі дарогамі вайны? Чаму адны яго любяць, а іншыя ненавідзяць? Здаецца, найбольш блізка да ісціны выказаўся рускі пісьменнік Віктар Астаф'еў, таксама франтавік, сябра В. Быкава і брат яму па духу. «Ён верны франтавому братэрству», — сказаў В. Астаф'еў (А. Гардзіцкі. Вачыма сяброў. Мн., 1977, с. 33).

Што гэта азначае? Хіба вернасць ідэалам франтавога братэрства ў іншых удзельнікаў вайны аказалася пад сумненнем? У цэлым — не. Але калі Віктар Астаф'еў так сказаў, то гэта азначае — вернасць у многіх іншых аказалася не такой унутрана адданай, не такой прынцыпова паслядоўнай, не такой няўступліва сумленнай перад націскам абставін. Многія з удзельнікаў вайны, асабліва з тых, што трапілі ў чыноўны люд, пайшлі на змушанае ці нязмушанае прызнанне афіцыйных версій ходу вайны і яе вынікаў. А калі ў душы і не прызнавалі гэтых версій, то так або інакш прыстасоўваліся да абставін, якія ствараліся сталінскім рэжымам, ішлі ў той ці іншай ступені на кампраміс з сумленнем, не кажучы ўжо пра тое, што імкнуліся выкарыстаць ваенную біяграфію для пэўных асабістых выгод. Але, бадай, самым вялікім грэхам гэтых людзей перад памяццю франтавога братэрства было тое, што яны забыліся пра галоўнае: іх сябры і таварышы, што палеглі ў брацкія магілы на неабсяжных прасторах жудасна-крывавай вайны, гонячы захопніка з роднай зямлі, разам з тым марылі і верылі, што пасля перамогі адбудуцца плённа-ствaральныя рэформы і вялікага маштабу перамены. Сталінскі рэжым падмануў гэтыя мары і гэтую веру салдат, пакінуўшы ўсё амаль так, як і было. Улады (нават у хрушчоўскі і брэжнеўскі перыяд) імкнуліся да таго, каб народ забыўся або не ведаў пра сапраўдны настрой салдат-франтавікоў і партызан.

У падобнай грамадска-палітычнай атмасферы творчасць В. Быкава выклікала падазронасць ідэалагічных службаў дзяржавы, раз-

# НАЗОЎ — ПРОЗА БЫКАВА

Творчасць Васіля Уладзіміравіча пастаянна знаходзіцца ў полі зроку крытыкі. Рэдкі выпадак: кожны яго новы твор адразу выклікае з'яўленне некалькіх рэцэнзій. Быкаўскую прозу наогул не абыходзяць увагай, бадай, ні ў адным артыкуле, у якім разглядаецца сучасная беларуская літаратура. А гэта ўжо наогул феномен! Наўрад ці знойдзеш на сённяшні дзень яшчэ каго-небудзь з вядомых літаратараў, каму б пры жыцці было прысвечана некалькі манаграфій, літаратурна-крытычных прац.

Пачатак быў пакладзены яшчэ ў 1976 годзе, калі выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла кнігу В. Бурана «Васіль Быкаў. Нарыс творчасці». Пад такой жа назвай з'явіліся ў Маскве даследаванні Л. Лазарава (1979) і І. Дзядкова (1980). Праца І. Дзядкова, дапоўненая новымі раздзеламі, пад назвай «Аповесць аб чалавеку, які выстаяў», у другі раз пабачыла свет у 1990 годзе.

«Васіль Быкаў. Нарыс жыцця і творчасці» — так назваў сваю кнігу Д. Бугаёў, якая папоўніла серыю «Народныя пісьменнікі Беларусі», што выпускае выдавецтва «Народная асвета». Нарэшце, яшчэ адно выданне ў Маскве — «Васіль Быкаў. Аповесці аб вайне» А. Шагалава (1989).

Усцешна, што да аналізу творчасці Васіля Уладзіміравіча актыўна падключаюцца і прадстаўнікі маладзейшых пакаленняў крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Сярод іх і кандыдат філалагічных навук з Гомеля Іван Афанасьеў (нарадзіўся ў 1963 годзе). Разгляд прозы В. Быкава заняў значнае месца ўжо ў яго зборніку літаратурна-крытычных артыкулаў, які ў 1991 годзе папоўніў «Бібліятэку часопіса «Маладосць». У прыватнасці, у гэтым зборніку змешчаны артыкулы «Антываенная аповесць В. Быкава (ідэі і жанр)», «Палюбіць чалавека (праблемы новага мыслення і новай маралі ў творчасці Васіля Быкава)», а таксама водгук на аповесць «Аблава» — «Мір — гэта вайна?» і рэцэнзія на кнігу Д. Бугаёва пра В. Быкава — «Свет Васіля Быкава».

І. Афанасьеў і кандыдацкую дысертацыю абараніў па творчасці Васіля Уладзіміравіча. Яна і пакладзена ў аснову яго кнігі «Хто ўзыходзіць на Галгофу?», нядаўна выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Разумеючы, што свет творчасці В. Быкава неабсяжны, і, каб сказаць прынцыповае, іншымі незгаданае слова пра яе, неабходна засяродзіць увагу на нейкіх пэўных праблемах, І. Афанасьеў канкрэтызуе ва ўступе сваю задачу. Найперш яго цікавіць, як у творчасці пісьменніка знаходзіць сваё ўвасабленне антываеннае мысленне і но-

дражняла тых, для каго ўся філасофія ходу і вынікаў мінулай вайны зводзілася да ўрачыстых фанфар і прыгожых парадаў. Адна за адной арганізоўваліся ідэалагічныя кампаніі, дзеля таго, каб асудзіць змест яго твораў як палітычна шкодны і паставіць пад сумненне сам прынцып ягонага мастацкага абагульнення. Па аповесці «Мёртвым не баліць» была прынята спецыяльная пастанова ЦК КПСС. Хоць яна не публікавалася, але яе ўстрашальныя параграфы былі вядомы ўсім, каму гэта належала ведаць.

Творчасць В. Быкава, заснаваная з асаблівай аўтарскай засяроджанасцю на духоўнай адавочнасці балючай праўды пра мінулую вайну, разбурала існуючыя збудаванні спрошчаных і аднабаковых схем у ацэнцы ўсенароднага значэння гэтай велізарнай гістарычнай падзеі. Каб пісаць жорсткую праўду пра вайну, трэба было мець цвёрды дэмакратычны светапогляд, і, наадварот, глыбокі роздум пра людскі лёс на вайне паглыбляў дэмакратычныя ўяўленні пісьменніка, выкрышталізоўваючы каштоўнасныя арыенціры на гуманізм, палітычную і духоўную свабоду, свабоду чалавека і народа, перш за ўсё — свайго народа.

Такім чынам, Васіль Быкаў належыць да тых пісьменнікаў, ідэйны дэмакратызм якіх яшчэ больш умацаваў іх у нацыянальным адчуванні жыцця, а гэта ў сваю чаргу паглыбіла яго дэмакратычна-філасофскую канцэпцыю адлюстравання як мінулых, так і сучасных падзей. Дарэчы, блізка падобным шляхам ішоў А. Адамовіч. Нездарма яны сябравалі. Змест творчасці В. Быкава адначасова і высока гуманістычны, аб'ёмна ўсечалавечны і нацыянальна пранізлівы, духоўна засяроджаны на ўнутраным абліччы свайго народа. Таму пісьменніку часта нібы цесна ў жанры мастацкай прозы і ён палымяна рвецца ў публіцыстыку. Сёння Васіль Быкаў — адзін з самых выдатных публіцыстаў-тэарэтыкаў нацыянальнага жыцця. Зноў-такі адных гэта радуе, другіх раздражняе. Але як бы там ні было, сёння ўжо проста немагчымыя падазрэнні і папрокі, што творчая дзейнасць пісьменніка мае недастаткова выразны нацыянальна-філасофскі генезіс і слабую сувязь з сучасным нацыянальным менталітэтам. З такой жа непазбежнасцю павінны самі сабой адпасці выказаныя і нявыказаныя абвінавачванні ў здрадзе сваёй папярэдняй творчасці і самому сабе з нагоды публікацыі ў нумары часопіса «Полымя» за гэты год цыкла апавяданняў пра часы Беларускай народнай рады, пра Слуцкае паўстанне 1920 года, накіраванае супраць наступаючай Чырвонай Арміі. Логікі ў такім ідэйна-творчым пераходзе не бачыць толькі той, для каго нацыянальная ідэя не нясе ў сабе вялікага маральнага агульначалавечага патэнцыялу. Не цяжка заўважыць, што героі названых апавяданняў па душэўным складзе, па адчуванні жыцця па сутнасці тыя ж самыя героі, што і ў ранейшых творах. Яны не гэтак змагаюцца за ідэю, колькі ваююць, ахвяруючы жыццём, з усякім злом, несправядлівасцю і бесчалавечнасцю, з якога б боку яны ні з'яўляліся. Для іх, як і для самога пісьменніка, няма «свайго» зла, якое быццам бы лепшае за «чужое».

Час перабудовы яшчэ больш абвастрыў мастакоўскі зрок і публіцыстычнае бачанне Васіля Быкава, накіраваныя на ўзбагачэнне стваральных магчымасцей беларускага народа, на ўмацаванне яго незалежнасці і свабоды, на дасягненне шчаслівай будучыні. Сёння Васіль Быкаў — несумненны духоўны лідэр нацыі, прарок і вартавы яе лёсу.

**Віктар КАВАЛЕНКА**



*В. Быкаў сярод воінаў. 1982 г.*



*Творчы вечар В. Быкава. 1971 г.*

вая мараль. Акрамя таго, у полі зроку даследчыка тое, як у аповесцях В. Быкава (ды і ў асобных апавяданнях таксама) раскрываецца антываенная ідэя і знаходзіць сваё пацвярджэнне гуманістычная традыцыя. 1, безумоўна, не праміна аўтар магчымасці паразважаць над тым, як антываенная свядомасць пісьменніка выглядае ў кантэксце грамадскіх альтэрнатыў (а сюды, як вядома, стасуецца антысталінская тэма, што таксама глыбока і ўсебакова раскрываецца Васілём Уладзіміравічам, асабліва ў яго нядаўняй аповесці «Аблава»).

Пачынаецца гаворка з аповесці «Жураўліны крык», якая для В. Быкава, на думку І. Афанасьева, з'явілася «свайго роду «выпрабавальным палігонам», дзе многае з закамплексаванасці папярэдняй ваеннай літаратуры перадольвалася ў цяперашнім, але, бадай, яшчэ больш было абяцана на будучае: у развіцці тэмы вайны і ў яе адкрыта выражанай антываеннай праблематыцы. Тут жа аналізуюцца і такія творы, як апавяданне «Адна ноч», аповесць «Франтавая старонка».

Хоць правільней сказаць, што І. Афанасьеў у дадзеным выпадку (а падобнае назіраецца і далей) выбірае нейкія канкрэтныя творы, каб, скіраваўшы асноўную ўвагу на іх, па меры магчымасці пераходзіць і да іншых, напісаных значна пазней. Тым самым творчасць В. Быкава разглядаецца як заканамерны працэс спасціжэння мастаком слова складанай ваеннай рэчаіснасці, як паглыбленае — ад твора да твора, па ўзрастанні майстэрства, па грамадскім стаўленні да перажытага народам у час ліхалецця — адлюстраванне суровай рэчаіснасці.

Каб лепей аргументаваць уласныя развагі, даледчык спасылаецца на папярэднікаў, хто неаднойчы звяртаўся да творчасці В. Быкава, не абыходзіць увагай і такіх аўтарытэтаў, як Л. Талстой, Ф. Дастаеўскі, В. Салаўёў, А. Камю і іншыя. І ўсё гэта робіцца для таго, каб лепей паказаць (і даказаць), наколькі шматгранны, аб'ёмны і непаўторны свет, назоў якога — проза В. Быкава.

**З. В.**

Анкета

***1. Ці пішацца сёння, і, калі без прымхаў, то што іменна?***

***2. Ці ўзнікала жаданнне перагледзець набыткі, памяняць арыенціры, звярнуцца да іншых тэм і жанраў?***

***3. Сфера вашых жыццёвых інтарэсаў (так званае хобі).***

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# КАБ ХАДЗІЦЬ ПА ВАДЗЕ

Ці пішацца сёння? Нават анкету пад капірку ўспрымаю як асабісты ліст ад блізкага чалавека, бо мала калі цяпер пытаемся адзін у аднаго пра творчыя планы.

Пусцеюць вячэрнія вуліцы, глохнуць пад'езды — быццам у горадзе надзвычайнае становішча. Так блізка да сэрца стрэлы, выбухі ў Грузіі, Арменіі, бы гэта зусім побач, як у тым канцы маёй вёскі. Выводжу сваіх дэкаратыўных сабак на павадку, туляемся па завуголлі, бо некаторыя гаспадары перасталі прытрымлівацца правілаў выгулу. Выходзіць чалавек на вуліцу са сваім вартавым сабакам, як з ружжом. На просьбы, заўвагі трымаць злога выхаванца на павадку хаця б у цесных дварах, дзе старыя людзі, дзеці, — аніякай увагі. Ці, можа, гэта не па злосці, а адольвае хваравітае пачуццё асабістай беспакаранасці? Цяпер я, прызвычаіўшыся, шукаю згоду не з чалавекам, а з ягоным сабакам: знаёмлюся, дазнаўшыся мянушку, гукаю да яго, нешта тлумачу... Чарнабровы нямецкі аўчар Акорд ужо не кідаецца з брэхам пад ногі. Сярэднеазіяцкі Рэй садзіцца наводдаль, пільнуе нас, як авечак. Каменныя лапы, сабраныя ў камяк, выцягнуты перад сабой, галава задрана высока, нерухомая, як у сфінкса, і такі пустэльны погляд, што ў мяне поўныя вочы жвіру. Здаецца, мы дамовіліся з ім аб вечным маўчанні.

«Гэта ты смажыш катлеты? Не? Ну так смачна пахне», — пераймае ў калідоры, дзівячыся , прыязная, шчырая суседка Ніна, высока падымае грудзі, убіраючы паветра, слабка смяецца, бы пад квітнеючым бэзам стоячы. У нашым доме навіна — катлеты смажацца. Другая, Тася Сцяпанаўна, зноў, бачу, нясе нешта перад сабой з гастранома. «Ці ж надоўга назапасіш? Сапсуецца харч...» — шкадую ейныя труды, невялікія пенсійныя грошы. «Калі халадзільнік няпоўны, тады ў мяне во тутака пачынае балець, — паказвае тая на галаву, на самае цемя. — Я вайной гэтак галадавала, уся спухшы была, пальцам не поркнеш, скура на мне лопалася...» Глядзіць на мяне вачыма бежанкі, якая ўвесь свой век у дарозе, уцякаючы ад ваеннага голаду. Надумаецца праз ноч, як гэта робіцца, і ўжо увесь стол назаўтра засыпаны раблёнымі ружовымі пялёсткамі — складвае з іх яблыневы цвет, не на продаж, а так, у сваю ахвоту... Звоніць да мяне нядаўна з-пад Зэльвы Аліна, даярка з трыццацігадовым стажам. «У нас, — кажа, — во якая навіна. Выбіралі новага прадсядацельку на агульным сходзе. Казалі яму, каб даў тры клятвы: калі чалавек памрэ, то калгас павінен даць дарма крыж, труну і на жалобны стол цяля ці свінню. Ён спачатку круціўся, тады мы адмовіліся галасаваць. Ну дакляраваў-такі наастатак... Нічога мы, старыя, ўжо з гэтага «часнага», як цяпер модна, не ўхопім. Але калі не пажылі па-людску і не пажывём, то хаця б пахавалі, як трэба...» І адчайна смяецца, спагнаўшы такія горкія даўгі, адважыўшыся заўчасна, без бога, развязаць той чорны вузел у куфры — уборы на астатні на гэтым свеце дзень...

Ад гэтых сумных вітражоў перад вачыма, як на цёмную ютрань перад Вялікаднем, калі распяты Хрыстос, і ў царкве не запальваецца святло. Хочацца сабраць свае думкі « в тихий очаг в глубине сердца». Іду на Камароўку паўз багатых магазінаў, спекулятыўных лавак, спускаюся ў падземны пераход і зноў у каторы раз адчуваю тут палёгку, узрушана здагадваюся, што гэта адзінае месца, дзе захаваўся мой былы свет. Не заўважаю змроку, іду на голас гармоніка. Музыкант збіваецца, але іграе ўпэўнена: «Степь да степь кругом...» Іграе хлапчук, перад ім каля ног адчынены дыпламат для міласціны. Старыя, знямоглыя, калекі, а ён чаму тут?

— Тэлевізар трэба адрамантаваць, — адказвае весела.

Падыходзяць жанчыны, вуснамі расчулена заківалі, паклалі ў дыпламат грошы.

— Чаго ён тутака? — пытаюцца ўголас адна ў адной. — Ад харошай жызні сюды не прыходзяць, — разважаюць, спагадаючы.

Я маўчу, ужо ведаючы прычыну. Я сама яшчэ не разумею, як разглядаць паводзіны дзіцяці, калі ён просіць не на хлеб. Але быццам на ягоным баку ў гэтую хвіліну толькі дзеля таго, каб не парушыць у жанчын спрадвечнае спачуванне: сюды прыходзяць толькі з гора.

— Дзе навучыўся сумныя песні іграць? — пытаюся.

— Ды ў нас, у пад'ездзе, кульгавы дзядзька жыве, калека, франтавік...

Вышчарыўся на мяне сучасны малады бізнес. «Каб твае ўнукі працавалі ў банку!» — дзякуе мне за міласціну, хрысцячыся,старая жабрачка на сходках. «Когда останусь жива, смогу ли сохранить рассудок?» — ідзе на памяць трагічны, велічны стыль Шэкспіра.

Ці пішацца сёння?.. Як піша, даслаўшы ліст, мая вялікая сваякоўна Надзя з Грыдзек на Пастаўшчыне: «Жызня такая непамыслая». І далей: «Ты ў Мінску сядзіш, можа, ведаеш, дык скажы ты мне: гэтак будзем жыць, як ёсць, ці палепшае? Няможна ў магазін заходзіцца, так усё дорага. Хлеба белага ніколі не купляю, сядзім на чорным...» А сама, наведаўшыся неяк да мяне ўтрох, з Сенечкай і Валянцінай (таксама ў суродстве), толькі ўкуліліся з дарогі ў кватэру, агледзеліся трохі, перахапілі за сталом, як у пільніцу, вусны памачыўшы ў чарку, прылягла Надзя, сцішыўшыся перад ноччу, і раптам кажа: «Давай мы табе папяём». Рукі пад галаву, шпількі з валасоў, бы на Купалле, рыхтуючыся скочыць праз вогнішча. Яна, бачу, уся сівая, і я немаладая, а раптам адчуваю, як зноў дзяўчом цiснуся праз натоўп аднавяскоўцаў у парозе, шчамлюся наперад без памяці, каб усё бачыць, каб лепей чуць. У вёсцы вечарыны! Не толькі хлопцы, а і маладыя мужчыны выбіралі сабе дзевак, баб, моўчкі, не ўсміхаючыся, засяроджана, каб жа пад музыку патрапіць, парамі станавіліся адзін за адным. Крыху сагнуўшы ногі ў коленцах, як прыкленчыўшы, і не толькі дзеля далікатнасці. А ад цяжару, што век на плячах, ды сілы, якую трэба выцяць з сябе, каб выгнаць з касой вунь той доўгі прагон. Сагнутыя ў локцях рукі жанчын над галовамі, быццам каслаўку жыта ўбок адводзіць каторая, палажыўшы на гарачы серп. Пары чапляюцца і чапляюцца, ужо амаль усе дарослыя пабраліся, хто быў у хаце: свае, жукоўскія, пятрагскія, як на дарозе палявой сышліся, ад вёскі да вёскі. І быццам і не танцам, ледзь перастаўляючы ногі ў цеснаце, а хадой — сціплай, удумлівай, спрацаванай — ідуць у кадрылі. Толькі грукат ног, што па хаце. «Калена сёмае — полька-а!» — крычыць нехта. Рознакаляровай хваляй спадніц аднясе цябе зноў да парога. «Заўтра прыйдзем, падлогу памыем» — кажуць дзеўкі гаспадыні, пачуеш раптам, як у непрытомнасці, не памятаючы, колькі часу прастояў, уцёкшы на вечарыны без дазволу. Да самай відніцы танцуюць, весяляцца, а хлеба таго, чорнага, можа, было ў кожнай хаце толькі каб пранашчыцца, на раз укусіць, як той казаў. І цяпер яны, Надзя, Сенечка, Валянціна, да іх абавязкова далучаецца Лідзія Васілёва, яшчэ хто-небудзь з баб, абы быў жывы, ідуць на Купалле ў паджыцце, спяваюць: «Сёння — Іван, заўтра — Ян...» Карчашку, пэўна, ужо не паляць. Ходзяць сівыя жанчыны каля маладога жыта, па сваіх дзявоцкіх сцежках. Дрыготкія, белыя постаці, бы сышліся яны з белага месяца, што пустым чоўнам гойдаецца ў небе далёка ад берага...

Неспадзявана, зусім не па-жаночы, сквапна ўзрадуюся, што ўжо маю поўна гадоў, што заспела гэтых старых людзей, спазнала іх весялосць, як хмель, іхнюю птушыную радасць: абы даў бог новы дзень — устрапянуцца пасля цёмнай ночы, скласці крылле — і спяваць.

Яны пытаюцца ў мяне пра лепшае жыццё, а я ўвесь век, бы мне падроблена ў дзяцінстве, азіраюся на іх, на вёску Грыдзькі, веру, цешуся, спадзяюся на ўсё людскае — і шпарка іду... па вадзе. Як пісала ў дзённіку знакамітая руская манашка Марыя (Кузьміна-Караваева), умярцвёная гітлераўцамі ў газавай камеры: «Есть два способа жить: совершенно законно и почтенно ходить по суше — мерить, взвешивать, предвидеть. Но можно ходить по воде. Тогда нельзя мерить и предвидеть, а надо только все время верить. Мгновения безверия — и начинаешь тонуть». Лічу, што мастак, пісьменнік, паэт мае права выходзіць на людзі толькі тады, калі верыць у лепшае, калі ведае выйсце з таго ці іншага цяжкага становішча, каб не стаць прапаведнікам змрочных сіл, каб не дабавіць злоснікаў. І будуць тады новыя тэмы, будуць пераглядацца набыткі, пашырыцца сфера жыццёвых інтарэсаў. Як летуценна і мудра разважаюць мае грыдзькаўцы: скора дзень прыбавіцца, сонца засвеціць, птушкі запяюць... Аніякая палітыка не здужае адмяніць вечнага руху свяціла. І праўда, вунь дарога ўжо скранулася, пачарнела, ідзе па ёй, прыгнуўшыся, стары чалавек у нечым цёмным, ідзе пасярэдзіне вуліцы, па-вясковаму, ногі перастаўляе павольна, як вялікая вясновая птушка, шукаючы сабе на дарозе леташнія зернюкі.

Ідзе мой любімы герой — стары чалавек.

ЛІМ
ЧАСАПІС



## ЯШЧЭ РАЗ «ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА»

**Можна сказаць, хрэстаматыйным стала ўзноўленая па-беларуску Язэпам Семяжонам славутая «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага. У цывілізаваных краінах, аддаючы належнае якому-небудзь перакладу, не «замыкаюцца» на ім. Як быццам у гэтым сэнсе і мы ўжо далучаемся да цывілізаванага свету. Прынамсі, нядаўна Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр выпусціў «Песню пра зубра» ў перакладзе Уладзіміра Шатона. Прадмову да выдання напісаў Алесь Жлутка. Адрасавана кніга ў першую чаргу старшакласнікам.**
**Яна папоўніла серыю «Школьная бібліятэка», да якой спрычыніўся і згаданы Цэнтр.**

## ТРАВЕНЬСКІ «ПЕРШАЦВЕТ»

**завітаў да сваіх сталых прыхільнікаў. І, безумоўна, набыў новых, бо — заўжды цікава пазнаёміцца з творчасцю юных. А ім і гэтым разам у часопісе — асаблівая ўвага. Адкрываецца нумар вершамі 14-гадовай Інгі Гаравой з вёскі Швабы Лагойскага раёна. Прадстаўляе творы сваёй выхаванкі настаўнік Мікола Захаранка. Друкуюцца вершы і 13-гадовай Зоі Сімагасціцкай з пасёлка Першамайска Уздзенскага раёна, вучаніцы сёмага класа Беларускага ліцэя мастацтваў.**

**Акрамя таго, у раздзеле «Паэзія» прадстаўлены Алена Цвірко з Баранавіч, Таццяна Барысюк, Сяржук Патаранскі (ён студэнт факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, друкаваўся ўжо ў некаторых выданнях), Алесь Макрацоў (усе з Мінска), Тамара Мазур са Стоўбцаў, Іван Лапо з Клімавіч.**

**У прозе спрабуюць свае творчыя мажлівасці пераважна мінскія аўтары — Надзея Старавойтава, Павел Канаш, Вольга Угрыновіч, Надзея Чаропка, Зміцер Дзядзенка, Уладзімір Дзяжко, а таксама Алесь Трубей з Іванава, Сяргей Мандрык з вёскі Зубаўшчына Ваўкавыскага раёна — абразкі, імпрэсіі, замалёўкі, апавяданні.**

**У «Гасцёўні» — Уладзімір Паўлаў (раздзелы з паэмы-казкі «Пра Янку, Ганку і казак вязанку») і Анатоль Жалязоўскі (казка «Як крынічка мора шукала»).**

**Далучыцца да свету творчасці Міколы Равенскага дапамагае раздзел «Спадчына». Змешчаны ноты і тэкст Наталлі Арсенневай да песні «Магутны Божа», слова Алеся Марціновіча «Песняй славіў Беларусь», перадрук артыкула У. Нёманскага «На службе мастацтва і ідэі», упершыню надрукаванага ў маладзёжным часопісе «Наперад!» (1953, жнівень, N 25), што выходзіў у Бельгіі, у горадзе Лювене.**

**І ў «Жароўні» — вершаваная быліца Паўла Місько «Піліп з канапель».**

## ВЫЧАРПАЛЬНАСЦЬ ІНФАРМАЦЫІ

**аб жыцці і творчасці пэўнага літаратара — вось што такое біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі». У гэтым змаглі пераканацца ўсе, хто набыў першыя два тамы яго. А цяпер у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі з'явіўся і трэці (пад рэдакцыяй прафесара А. Мальдзіса). Змешчаны артыкулы пра літаратараў у межах прозвішчаў «Васіль Івашын» — «Алесь Кучар».**

**У гэты том трапілі, натуральна, і матэрыялы пра народных песняроў Якуба Коласа і Янку Купалу. Якая шырыня ахопу матэрыялу, яскрава бачна з такіх лічбаў. Я. Купалу адведзены ў даведніку 489—568 старонкі, а Я. Коласу — 299—371-я.**

**Усіх — іншых літаратараў, трапіўшых у том, згадваць няма, бадай, патрэбы. Хочацца толькі сказаць, што тут ёсць звесткі пра Рыгора Казака (Рыгора Крушыну), Міхася Кавыля, а таксама пра Макара Краўцова, Ігната Канчэўскага, Уладзіміра Кандрацcraft і іншых, чые імёны доўгі час замоўчваліся.**

## ПРАЗ СМУГУ СТАГОДДЗЯЎ

**прыглядаўся Кастусь Тарасаў да воблікаў нашых выдатных папярэднікаў у кнізе «Памяць пра легенды», выпушчанай у 1990 годзе выдавецтвам «Полымя». Многія, бадай, ведаюць, як хутка гэтае выданне знікла з паліц кнігарань. І вось новая сустрэча з працай К. Тарасава, што мае падзагаловак «Постаці беларускай мінуўшчыны». Тое ж «Полымя» выпусціла гэтыя нарысы ў дапрацаваным выглядзе. Чытача чакаюць сустрэчы з легендарнымі Рагнедай і Еўфрасіння Полацкай, Сымонам Будным і Афанасіем Філіповічам, Тадэвушам Касцюшкам і Адамам Міцкевічам... Пільна прыглядаецца аўтар да воблікаў тых, кім па праву ганарыцца нацыя.**

*Прапаную чытачам эсэ — заключную частку літаратурна-крытычнай работы па творчасці Васіля Быкава (якую цалкам мяркуе надрукаваць часопіс «Полымя»). Абсяг, што мяне зацікавіў, — тры аповесці пісьменніка — «Знак бяды», «Аблава», «Сцюжа». Нельга сказаць, каб творы гэтыя не разглядаліся крытыкай раней; ды справа ў тым, што зазвычай наша крытыка ў тлумачэнні літаратурных твораў абмяжоўвалася толькі ўласна-літаратурным кантэкстам, не рупячыся наладзіць сувязі паміж літаратурай і рэлігіяй, літаратурай і філасофіяй, літаратурай і навукай... Таму, у лепшым выпадку, крытыка і паказвала ўзоры літаратурызаванай публіцыстыкі, у якіх корпус літаратуры выкарыстоўваўся галоўным чынам дзеля выкрывання «злобы дня» і выпраўлення грамадскай маралі (і выхавання ў духу адпаведнай ідэалогіі). Да чаго гэта прывяло — бачна: сёння гэта прывяло да пэўнай анеміі крытыкі як віду творчасці, а саму літаратуру — да лакалізацыі ў сваіх уласных межах, ці не духоўнай аўтаркіі, што пакінула літаратуру па-за выкарыстаннем у шырокім духоўна-культуралагічным кантэксце. А кантэкст гэты сёння актыўна напрацоўваецца беларускай думкай і дзеля яго якраз і не хапае знакавага матэрыялу, з якога собіла б сфармуляваць нешта накшталт «нацыянальнай філасофіі».*

*Не будзем далей развіваць думку, чаму ў нас няма філасофіі: дастаткова адзначыць, што ў маладых культурах, якой, безумоўна, ёсць культура беларуская, філасофскія матывы фармуюцца перш ва «ўтоеным», унутраным выглядзе, фармулююцца не ў адкрыта-рафінаванай філасофскай тэрміналогіі, а — кадзіруюцца сродкамі літаратуры, уваходзяць часткай мастацкай задумы і мастацкай структуры ў літаратурныя творы. Да свайго ўласна-філасофскага выяўлення нацыянальная філасофія ходзіць патаемнымі сцежкамі паўз літаратуру, паэзію, музыку, жывапіс... Вось куды варта скіраваць філасофскі дыскурс, шукаючы падставы для «беларускай філасофіі». Што да «эзатэрычнага прачытання», то ў дадзеным выпадку маюцца на ўвазе пэўны змест і ўласцівасці прозы Васіля Быкава, якія даюць падставы для адмысловых «пазалітаратурных» асацыяцый, што перасягаюць літаральны кантэкст твораў і могуць быць асэнсаваны ў кантэксце панадчасавым, духоўным. Маецца на ўвазе г. зв. ступень ініцыяванасці («пасвечанасці») мастака ў «горнія» сферы, калі праз мастакоўскія творы — зазвычай бессвядома для самога іх стваральніка — прамаўляюцца «вечныя» тэмы і вобразы, сутнасныя ідэі чалавечага досведу, паводле якіх ладкуецца і гарманізуецца агульналюдскае быццё. Іншымі словамі — калі творчасць пісьменніка сваім духоўным кантэкстам, сваім глыбінным «падразумяваннем» сягае касмічнай вышыні, несучы ў свет не выпадковыя і спарадычныя, а — пакрыёмыя, сутнасныя болі і пакуты роднай зямлі, родных людзей; назаўсёды пераадольваючы межы тутэйшасці, знаходзячыся толькі ў якіх народны боль нельга «адгадаць», спасцігнуць дакладна...*

Юрась ЗАЛОСКА

# У ЭПІЦЭНТРЫ

## СПРОБА ЭЗАТЭРЫЧНАГА ПРАЧЫТАННЯ ПРОЗЫ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Аўтар — зверхні назіральнік у аповесці «Знак бяды», павадыр у «Аблаве», — у аповесці «Сцюжа» (1969; 1991) прадоўжыў свой шлях да высвятлення сутнасці, атрымання адказаў на тыя пытанні, што яму, аўтару, смыляць... Здавалася, усё, і так ужо сказана шмат, у «Аблаве», напрыклад, і даволі... Ды не, Павадыр, што прывёў свайго маўклівага пакутніка Хведара Роўбу ў багну, павярнуўся назад, прэч, імкліва пайшоў **насуперак** Аблаве часу і эпохі, пайшоў **праз** аблаву, як гэта ўжо неяк зрабіў ягоны герой-партызан Ляўчук з «Воўчай зграі»; як бачым, разавы вопыт героя нарэшце прыдаўся і самому аўтару, і ён, аўтар, ператварае той эпізадычны высілак героя ў мастацкі высілак цэлага твора — аповесці «Сцюжа». Высілак насуперак Аблаве.

Інакш і быць не магло.

Але цяпер Павадыр ператвараецца з маўклівага павадыра-сузіральніка ў гняўлівага суддзю-абвінаваўцу: ён не канстатуе, ён — кідае гнеўныя словы ў твар Аблаве; ён не баіцца яе... Ён выйшаў з гібельнай багны, каб, пакінуўшы абалонку свайго гаравога бегляка Хведара Роўбы, уцелаісціцца ў новага героя — аднаго з самых актыўных удзельнікаў Аблавы, — магчыма нават — Роўбавага сына, камсамольскага важака...

Так, герой «Сцюжы» камсамольскі актывіст Ягор Азевіч па ўсіх прыкметах падыходзіць на сыноўства Хведара Роўбы. Успомнім: гэта менавіта ў сыне для Хведара ўвасобілася тая нялюдская сіла расчалавечання, ад якое пакутуе герой, не ведаючы, ШТО гэта за сіла, і ЧАМУ так дзеецца з ім, сынам прыроды, бязвінным руплівцам ад узыходу да заходу... Іменна ў сыне ўвасабляецца для Хведара тая ананімная знешняя сіла — віноўца яго роспачнага ЗАВОШТА. Дарэчы, зусім не выпадковую — сімвалічную ролю ў «Аблаве» адыгрывае колеравы фон развіцця падзей сюжэта: ён — чорны, цёмны, ён ноч, у якой (ужо ў начы, не «ў тумане») блукае чалавек «немаладога веку, даўгалыгі і шырокі ў плячах, але надта худы» — Хведар Роўба; уначы, пад апекаваннем зіхоткае поўні, Хведар адкрывае ў сабе магічнае паяднанне з роднай зямлёй і продкамі; уначы ён дасягае найбольшага ўзроўню спасціжэння Сэнсу свайго загубленага, затраўленага светам (ці антысветам?) жыцця — аказваецца, унутраны, бессвядома дзейнічаючы матыў вяртання да магіл продкаў стаўся апошняй сэнсадайнай ніццю ў жыццёвай пуцявіне Хведара. Аказваецца, гэтага, толькі гэтага яму не хапала, каб, страціўшы ўсё ў гэтым ураз паншчаным жыцці, тым не менш, здабыць супачын і памерці з усведамленнем хоць гэткай, магічнай быційнай апоры — сімвалічнага паяднання з продкамі. «Ужо нямала гадоў усе яго намаганні ішлі на адно толькі — трываць. Ён не ўзрываўся, як некаторыя, калі здавалася, трываць было неяк, не абураўся ад кепскіх харчоў, зверскай працы ці людской несправядлівасці, толькі сціскаў зубы, калі тыя яшчэ былі ў яго, — трываў. Мусіць, не было ў свеце такіх абставін, якія б ён не навучыўся трываць. Апроч хіба аднаго — няволі-журбы расстання. Тут ужо ён не мог перайначыць сябе, ягоная натура насуперак усім абставінам імкнулася дамоў — праз безліч небяспек і прыгод...» Праўда, Хведар ніяк не мог прызвычаіцца і да сцюжы, яна яго даймала на працягу апошніх старэчых гадоў... Мерзне ён і на радзіме.

Сын Прыроды Хведар Роўба, не здолеўшы зразумець Свет-Аблаву — выставіўшы яму толькі роспачнае ЗАВОШТА, — на супачын зямнога шляху зноў з ласкі няласкавага лёсу становіцца сынам Прыроды, і хоць бы ў гэтым — умоўная гармонія яго пагібелі. Знік, растварыўся ў багне, «быў тло і ў тло абярнуўся». Толькі вось роспачнае ЗАВОШТА, як маральны — дый духоўны таксама — рахунак Свету-Аблаве засталося, запоўніла наваколле пасля знікнення Хведара; гэтае ж крычачае ЗАВОШТА, трэба думаць, пранізліва звініць у вушах і не дае спакою самому аўтару-Павадыру, што быў сумленна давёў сваю місію да канца, праспяваўшы нягалосны гімн радзіме Хведара, любасна паказаўшы яе сэнсадайнае аблічча — лес, поле, сялібы... напомніўшы пра звякоўвечную працу беларускага селяніна, у якога дасюль, мабыць, і не нараджалася такіх роспачных, як у Роўбы, ЗАВОШТА... Хведар Роўба паспеў далучыцца да роднага краявіду, да роднай зямлі, зліцца з ёй целам.

Але мы казалі пра цёмны, начны фон Роўбавага блукання-знікнення як акрасу сімвалічнага значэння. Так яно і ёсць: гэта не светламу — цёмнаму Свету-Аблаве («цёмным сілам») кідае Хведар сваю жальбу; гэта пагрозлівы колер знешняй, наступаючай антырэчаіснасці.

...Сын Роўбы — Ягор Азевіч — частка тае «цёмнае сілы». Павадыр, таймуючы светлы нораў сваёй істоты, уздыхнуўшы, мусіць — што зробіш, выйсця няма, калі прагнеш здабыць адказ на Роўбава ЗАВОШТА — уцелаісціцца, «рэінкарнавацца» ў гэтую персаніфікаваную ў героі сілу. Дарэчы, герой «Сцюжы» таксама, па сутнасці, монагерой, яшчэ больш за героя «Аблавы» адчужаны ад аўтара-апавядальніка: ён кажа нават не сваёй, не геройскай мовай, ён кажа пераважна мовай змешчанага ў ім унутры аўтара-Павадыра. Невыпадкова стыль маўлення героя «Сцюжы» выдае яго як быццам сённяшні публіцыстычны розум... Разам з пэўна нялюбым яму героем (хоць і не пазбаўленым шкадобы) Павадыр мужна праходзіць па ўсіх этапах яго біяграфіі.

Крытык Сяргей Дубавец назваў ранейшую «Аблаву» аповесцю-магістралам, якая як бы падагульняе ўсе папярэднія аповесці Васіля Быкава. У такім разе «Сцюжа» — магістрал ад магістрала, бо быкаўскі Павадыр, што ад аповесці «Пайсці і не вярнуцца» пайшоў шляхам рэтраспекцыі, у глыб кар'ера свайго часу, па сутнасці, робіць крок зноў наперад — з 30-х гадоў бліжэй да вайны, але разам з тым і крок яшчэ больш глыбока — у самы канцэнтрат даваеннай рэчаіснасці, у гушчу рэпрэсій, у эпіцэнтр д'ябальскага палявання на чалавека. Аповесць «Сцюжа» фабулай як бы з'ядноўвае вайну і перадвайну; проціборства сіл чалавечнасці з ворагам прышлым — немцамі-акупантамі і ворагам унутраным — свойскім, у асобе нялюдскай ідэалогіі, ладу, «органаў»... І тое і другое — часткі аднаго суцэльнага ўсяленскага ЗЛА, супраць якога ў свой час паўстала адважная Сцепаніда, якому духоўнымі сродкамі процістаяла пападдзя Бараноўская, ад якога ў адзіноце загінуў і Хведар Роўба.



*В. Быкаў у ваенныя гады.*

Што герой «Сцюжы», у якога аўтару давялося пераўвасобіцца, пэўна яму, аўтару, не па душы, сведчаць ужо першыя радкі аповяду, пра акалічнасці ляснога — зноў ляснога — побыту героя. Бы нехаця, быццам супраціўляючыся, рухаецца рэінкарнаваны аўтар па сцяжыне жыцця свайго героя. Гэтая нехаць неўпрыкмет перадаецца і чытачу, што паспявае стаміцца амаль адразу ж, ступіўшы першыя крокі за пераўвасобленым Павадыром, — і гэта ўжо прывыкнуўшы да яго цяжкай, мядзведзяватай хады-маўлення.

Але чытач, хоць рух за апавядальнікам даецца яму цераз сілу, усё-такі рушыць праз апавядальніцкую нехаць — туды, куды і сам апавядальнік ідзе не з вялікай ахвотай. Але і чытач і сам апавядальнік урэшце добра ведаюць, што праз 5-10 старонак неўпрыкмет пераадоленая абаістая нехаць саступіць месца непераадольным сілам прыцягнення быкаўскага тэксту-сяйва, якія няўмольна памкнуць і аўтара і чытача туды, у глыб тэксту, па сутнасць, па адказ на апошняе ЗАВОШТА...

У «Сцюжы» мы не знаходзім ані петракоўскага агляду сялібы, ані Роўбавага сузірання роднага краявіду. Усё значна прасцей — і значна складаней. Тут, у «Сцюжы», аўтару, увайшоўшаму ў скуру таго камсамольца-аблаўшчыка, не да любавання-сузірання, тут не да таго. Тут на тое няма часу, бо тут сышліся ў жорсткім двубоі дзве субстанцыі — чалавечая і антычалавечая. Чалавечая — у асобе аднаго-адзінага, сціплага, звычайнага вясковага хлапца Ягора Азевіча; антычалавечая — ва **ўсёй** мастацкай рэчаіснасці. Як быццам з ранейшых твораў Быкава сабраны ў адно злавесныя дэталі-эпізоды-матывы і ўтварылі супрацьчалавечы АНТЫСВЕТ, АНТЫРЭАЛЬНАСЦЬ. Павадыр, у каторага на гэты раз няма свабоды хады, змушаны толькі канстатаваць гэты свет антырэалій. (Дарэчы, да якога жанру можна

аднесці звычайную аповесць звычайнага рэалізму, дзе кажацца пра незвычайную, супернезвычайную рэчаіснасць — антырэчаіснасць; дзе мастацкія дэталі, калі ўдумацца ў іх вар'яцкі сэнс, у сэнс іх д'ябальскага ўздзеяння на рэальнага, **жывога** чалавека, — куды мацней па антырэальнасці, чым аруэлаўскі выдуманы антысвет «1984-га»? Настолькі рэальных антырэалій, як у быкаўскай «Сцюжы» — 1991, не ўдалося, бадай, прыдумаць ніводнаму пісьменніку-»антыўтапісту». Уся справа ў тым толькі, што Быкаў сваёй антырэальнасці н е п р ы д у м в а ў. Дык што гэта: рэалізм, абвяргаючы сам сябе, абсурдны? Ці — звышутапічная не-ўтопія?).

Знакі бяды ў «Сцюжы» паўсюль — у чыстым выглядзе, маніфеставаныя наўпрост, без «мастакоўскага» падыходу. Умоўна месца дзеяння зноў вынесена кудысь на поўнач Віцебшчыны, туды, у старазапаветны непралазны беларускі кут, дасюль не адкрыты ні краязнаўцамі, ні аматарамі геаграфічных падарожжаў па Бацькаўшчыне; тыя памежныя раёны з Латвіяй, Расіяй і дасюль захоўваюць сакральную некранутасць і маўклівасць, беларускую, калі можна так сказаць, цноту. Вось тут і зводзіць аўтар твар у твар свет чалавечага, дабрыні і святла, і — свет антычалавечага, зла і цемры. Бацькі Азевіча, простыя сяляне, нават радыя, што сын пайшоў у горад на савецкую службу — на лягчэйшы і больш надзейны, чымсьці ў вёсцы, хлеб. Ды няведама ім, што хлеб той лягчэйшы — непапраўна атручаны... Млявасць, апатычнасць, бязвольнасць сялян; нішчымніца ў вёсцы... «Перасталі і баяцца...» — бядуе заўзяты калектывізатар-агітатар Азевіч, бачачы абыякавасць сялян да свайго падсавецкага калгаснага лёсу. «Перасталі і баяцца...» — апафеоз заняпаду, рыса быцця, за якой альбо смерць (Хведар Роўба таксама ж **не баіцца** — смерці), альбо... Вайна. Яна, іменна яна — вайна, неспадзеўна парушыўшая далейшае паміранне Азевічавага краю пад саветамі, — і выратуе ад галоднай смерці тую цётку, што агрэе ў сваёй пуні хворага, няўдалага воіна Азевіча. Прытуліць віноўцу перадваенных бедаў вёскі, ідэалагічнага цівуна... Свайго, зрэшты, вясковага сына. А, можа, гэта і не зусім незнаёмая цётка; можа, гэта пераўвасобленая ў безыменную цётку пападдзя Бараноўская з рамана «Кар'ер», што дала прытулак параненаму чырвонаму камандзіру Агееву? — **Кіруючыся адно толькі сумленнем,** каторае адно і можа дапамагчы людзям правільна пакіравацца ў бясчассі... «Калі нічога немагчыма зрабіць, трэба сабраць сілы, каб застацца сабой», — вуснамі пападдзі Бараноўскай тлумачыць сваю мараль Павадыр. «Усё ж людзі, з'яднаныя братняю справай (змаганнем з фашыстамі. — **Ю. З.**), павінны пазбыцца варажнечы і зажыць па справядлівасці. Колькі ж можна ваяваць між сабой?» — праз падсвядомасць Азевіча выказвае свой не дужа ўпэўнены спадзеў аўтар, стомлены бясконцай, з аповесці ў аповесць, барацьбой сваіх са сваімі...

Толькі ці дойдзе гэты шчыры спадзеў, сэнс гэтай ратавальнай ісціны да чалавека, прыбранага АНТЫСВЕТАМ, які, больш таго, ператварыўся ў дзейснага, перакананага яго служку, — да Азевіча?

Як і ў герояў «Знака бяды», «Кар'ера», «Аблавы», магчымасці выбару ў героя «Сцюжы» адпачатку надта малыя, а з развіццём падзей зусім сыходзяць на нішто. Герой, як іскандэраўскі трус, толькі пакорліва рухаецца да пашчы АНТЫСВЕТУ, каб стацца ягонай часткай. Думаецца, Быкаў-павадыр надзвычай удала — бо наўмысна — выбраў у «Сцюжы» варыянт аўтарскай рэінкарнацыі: ні ў вопытнага, адукаванага камандзіра (як у «Кар'еры»), ні ў бітага жыццём мужыка («У тумане»), тым больш ні ў душэўна цнатлівага селяніна Роўбу, — у хлопца-падлетка, наіўную душу, якой належала адолець, перамагчы неадольную і непераможную нават для самых мужных і разумных антырэальнасць. З поўным поспехам пачварны ідэалагічны свет забірае ў свае служкі вясковага хлопца, адукоўвае яго на свой д'ябальскі кшталт і ставіць у шэрагі «калектывізатараў», «перавыхавацеляў», «палітінфарматараў». Як будзе адбывацца перараджэнне, прыручэнне, антытрансфармацыя светлай з народзінаў душы ў душу цёмную, адчужаную ад першасутнасці? Вось, бадай, у чым заключаецца эзатэрычны падтэкст сюжэта «Сцюжы», і мы маем магчымасць услед за аўтарам, агаломшаным падзеямі, што адбываюцца з яго героем, прасачыць этапы ініцыяцыі «наадварот».

Зрэшты, этап толькі адзін — і варункі яго нам ужо знаёмыя з «Кар'ера». Там герой Агееў таксама **падпісвае паперу** на супрацоўніцтва з ворагам; падпісвае, па сутнасці, фальшыва, за неіснуючага Бараноўскага, ды ўсё ж — падпісвае... Праўда, на тым эпізодзе аўтар не засяроджвае ўвагі, нават пасля не робіць «сімптаматычных» наконт яго агаворак: надта ўжо ўдала той эпізод выйшаў (адразу параўноўваецца з фіналам сартраўскага «Мура», дзе герой таксама быццам «гуляе» ў здрадніцтва, ды ўрэшце гульня ператвараецца ў сапраўднасць, здрада разыграная робіцца здрадай рэальнай...). У «Сцюжы», насупраць, увага аўтара на моманце «падпісання» яўна засяроджана. Па значэнні сцэна ці не такая ж, як у гётэўскім «Фаўсце» сцэна дамаўлення Фаўста з Мефістофелем: пісьмовае паяднанне з сіламі цемры. Фаўст, вядома, на тое і Фаўст, каб, смеючыся, падпісаць смяхотную для яго паперу і на свой лад прадоўжаць гульні з лёсам. А што наш Азевіч, як ён выглядае пасля таго насампраўднага падпісання, сарганізаванага камсамольскай блудніцай? «Кепска разумеючы, што робіць, Ягор памарудзіў крыху і вывеў над самым беражком «Азевіч Я. «...Ён застаўся, мала што адчуваючы. Ён быў зусім збіты з панталыку, з натугай, спакваля пачынаючы разумець, што адбылося. **Толькі праз нейкі час даўмеўся, што адбылося кепскае...»** (выдзелена мной. — **Ю. З.**).

Поруч з бязвінным, але прыбраным Часам Ягорам мы бачым іншую постаць — яўрэя Ісака, на якога насоўваецца той жа самы антысвет, што і на Ягора. Па сутнасці, у асобе Ісака аўтар як бы сімвалізуе сілы дабра, светлыя сілы, што існуюць усёчасна і ўсюдысна, але ўсёчасна і ўсюдысна ім знаходзіцца супраціўнік, які мае схільнасць да разрастання ў памерах і завалодання абшарамі сіл дабра. Якое выйсце ёсць у сіл дабра ў такой сітуацыі, калі іх



*В. Быкаў сярод вучняў школы N 8 г. Ліды.*

магчымасці звузіліся да аднае кропкі — паасобкавае чалавечае душы? «Застацца сабой...» Як — «застацца»? «Поўная пакорнасць лёсу...» — такі, амаль тэічны выгляд мае стары набожны яўрэй Ісак у час арышту энкавэдзістамі (у часопіснай першапублікацыі аповесці напэўна памылка друку — «пэўная». — **Ю. З.**). «Поўная пакорнасць лёсу» — **адзінае** выйсце для сіл дабра, каб застацца сабой у часе суцэльнага наступу д'ябальшчыны? Выбар, прама скажам, невясёлы. Дый ці выбар?

Мы забыліся згадаць герояў, надта ж падобных да Петрака і Сцепаніды, толькі пададзеных хутчэй як «цені», чым героі. Пэўна ж, гэта — Ягоравы бацькі, імён якіх мы так і не даведаемся (ці не зашмат ананімных герояў-»ценяў»?). Павадыр толькі паказвае нам, амаль з рэпарцёрскім скараказаннем, — як за лічаныя гады — паводле «хранаметрыі» сюжэта — састарваецца, знясільваецца і канае ад бясплённай працы бацька (добра, што яшчэ — так, а не дзе-небудзь на Салаўках...); бачым ушчэнт збалелую, хоць і не старую яшчэ маці, а на панадворку — панаванне галоднай смерці і мору. «Пазнікалі жаніхі, а каторыя засталіся, дбалі не пра жаніцьбу — пра тое, каб пракарміцца...» І гэта ў вёсцы, пры канцы 30-х...

...Але «падпіскай» справа героя не скончылася. Свет антырэалій гэтым не абыходзіцца: яму трэба дзейсныя, «па перакананні» служкі, не толькі вычурная мова (ёй — асобая ўвага; «шершавый язык плаката», ён у «Сцюжы» скрозь напаказ, ён наўмысна не прыкрываецца, а падкрэсліваецца аўтарам і гучыць: лозунгі, тээрэмы, парадзіраванне кароткага курсу...). Вышэй мы задаліся пытаннем наконт жанру аповесці; лозунгавы сац-»наваяз», пададзены як знарок прыдуманы аўтарам, не як вычурны моўны канструкт, а — як натуральнае гукавое тло рэальнай рэчаіснасці (аповесць жа — рэалістычная!), — яшчэ больш завастрае гэтае пытанне наконт жанру. Адной такой **рэальнай** мовы — дастаткова, каб зрабіць нармальнага чалавека з нармальнай мовай — вар'ятам, ненармальным, зомбі. Гэта, зноў-такі, дыктуецца законамі антыўтопіі; але ж рэалістычная аповесць сваёй фактурай прагназуе будучыню рэальную, не выдуманую... Безумоўна, за **такую** рэалістычную аповесць у 1969 годзе аўтару не паздаровілася б, — таму, зрэшты, ён і адклаў свой рукапіс на дваццаць гадоў, не маючы ніякай надзеі надрукаваць аповесць раней (прызнанне пісьменніка ў адным інтэрв'ю 1993 года, пасля публікацыі «Сцюжы» ў часопісе «Полымя»).

Зомбі толькі і маглі быць дзейснымі служкамі антырэальнасці: прыдушыўшы голас сваёй душы — сумлення, яны душылі далей і ўсё навакол, што ім загадвала іх антычалавечая сістэма, прыслужнікамі якой яны ўжо напалову сталі. І вось — трэба канчатковае закабаленне, канчатковы пералом асобы, каб руху назад не адбылося ніколі. У «Сцюжы» — гэта эпізод разбівання жорнаў. *«Рабілася ўсё горш і горш, бяда падступала ўсё бліжэй... Праз шэсць падворкаў стаяла і ягоная хата. А ў хаце жорны. На якіх і ён нямала намалоў у свой час — на хлеб, на зацірку, бліны... Развярушаны і знямелы, бы ў кепскім сне, ён хадзіў з гэтымі людзьмі па знаёмых падворках, стрымана, чужым голасам вітаўся з суседзямі і моўчкі ішоў у сенцы, у трысцен ці ў істопку (змалку ведаў, дзе што ў кожнай сям'і), знімаў верхні камень і выносіў на вуліцу. Ён маўчаў. Бабы крычалі і плакалі... Так яны дайшлі і да Азевічавага падворка... Увайшлі ў сенцы... Ягор ірвануўся да жорнаў і ўхапіў знаёмы, даўно ўжо не тоўсты і не дужа цяжкі камень. Ён нічога не хацеў ні тлумачыць, ні нават доўга затрымлівацца тут. Бегма вынес камень на агарод, дзе з пустазелля пад плотам тырчаў вялікі круглападобны валун, з усяе сілы ўдарыў па ім. Жорнавы камень разваліўся на дзве палавінкі, і ён, хістаючыся, з апошніх высілак вярнуўся ў двор... З хаты чулася глухое галашэнне маці... Астатняе Ягора ўжо не надта трывожыла, самае прыкрае ён перажыў.* ***Штосьці ў ягоных пачуццях зламалася, і ён выразна адчуваў, што рабіўся інакшым, чым прывык адчуваць сябе»*** *(выдзелена мной. — **Ю. З.**).*

Жорны, безумоўна, рэч, рэч звыклая, але ў «Сцюжы» гэта — рэч-сімвал. Сімвал яшчэ не кранутай канчаткова ніці дабра, знак яго жывасці. Расколваючы ўласнаруч дзесяткі жорнаў-рэчаў, а ўрэшце бацькоўскія жорны-сімвал (нездарма ж так «глуха галасіла» маці; плач — над усёй Беларуссю...), Азевіч расколвае рэшту ўласнага сумлення, адпрэчвае яго назаўсёды і — *«Штосьці ў ягоных пачуццях зламалася, і ён выразна адчуваў, што рабіўся інакшым...»*. Што гэта, як не абарачэнне ўчора-чалавека ў сёння-вурдалака? Між іншым, Быкаў застаецца пэўным сваёй схільнасці да сімвалізацыі тэкставых з'яў: пры канцы за героем увязваецца, як ягоны сімвалічны цень, сабака Ваўкалака — не йнакш знак чалавека-вурдалака...

Замбіраванне скончана: не ў антыўтопіі — у рэалістычнай аповесці.

Такім чынам, аўтар, што ішоў да атрымання адказаў на тое ўсяленскае ЗАВОШТА, прыйшоў **да рэалій**, якія яго выклікалі. Гэта Хведар Роўба памірае, гіне, не ўцяміўшы, за што ён гэтульк трываў. Роўба і не мог таго ўцяміць, бо жыў натуральным сялянскім прыродным быццём, кіраваўся натуральнай чалавечай мараллю. Жахлівае насоўванне нейкай пабочнай, аграмаднай пагрозы сваёй маралі Роўба ўспрымае толькі з непрыхаваным жахам — і зміраецца з ім; сэнс яго смерці надае хіба экзістэнцыйная гатовасць памерці («яшчэ жывы, але ўжо часткова і там»). Герой «Сцюжы» — герой не столькі экзістэнцыйны, як «ідэалагічны», прама сутыкнёны з тымі самымі пачварнымі рэаліямі-антырэаліямі, якіх падсвядомасна жахаецца Роўба, так і не спасцігнуўшы іх. Праз Азевіча аўтар-даследчык пранікае ў тыя рэаліі жаху — антырэаліі жыцця; герой робіцца даносчыкам, калектывізатарам, партыйным служкаю. Ён — закладнік антырэалій; голас яго сумлення, душы адрэзаны ад таго, што ён **робіць**. Голас яго душы так і не прабіваецца, не пратэстуе супраць абставін, як гэта было ў герояў «Знаку бяды» і ў героя «Аблавы». Нават апынуўшыся ў адзіноце на пачатку вайны — і таму ўспамінаючы мінулае, — Азевіч не столькі ідзе да канчатковай ісціны, толькі яе **баіцца** (і баіцца рэальнае жыццё, што прыйшло да яго ў асобе жанчыны-ратавальніцы...).

Галоўнае ў аповесці — не мастацкая пазіцыя апавядальніка, і не эвалюцыя героя, — галоўнае — **самі рэаліі,** пра якія гаворыцца, сярод якіх існуе герой і ўвесь народ. Вось дзе карціна суцэльнае бяды — а не адзінкавых «знакаў». Вось дзе апакаліпсіс беларускай вёскі 30-х гадоў. Што тут да «публіцыстычнасці» пазіцыі апавядальніка, калі пазіцыя яго так моцна апасродкавана: аповесць накіравана да нас непасрэдна, уласна сваёй фактурай, а не «манерай» — да нашай **сучаснай** здольнасці ацаніць мінулае і зрабіць самастойныя высновы.

Можна сказаць, што гэта таксама і экзістэнцыйная аповесць — у тым сэнсе, што яе эстэтычнае ўздзеянне заключаецца ў непасрэднасці перажыванняў аўтара, у прымерванні чытачом падзей і лёсу героя **на самога сябе** (чаго варты эпізод разбівання жорнаў у роднай хаце? А як бы я паступіў у гэтым выпадку?..). А карціна ў хаце, дзе ўсё спакваля памірае, дзе памірае жывой маці, дзе — подых магілля? Навошта нам **тут** пазіцыя аўтара?

Жыхары Азевічавай вёскі ўрэшце ператварыліся ў... Роўбаў: «Перасталі і баяцца...»

А ў каго ператварыўся герой? Экзістэнцыйная драма яго, прама скажам, у параўнанні з лёсамі яго літаратурных папярэднікаў, Петрака і Сцепаніды, Хведара Роўбы — не надта глыбокая і не настолькі балючая, каб выклікаць спачуванне: галоўны спадзеў палягае хіба на тое, што сапраўдная пераацэнка жыцця ў яго яшчэ даспее, што герой яшчэ прыйдзе да праўдзівай душэўнай драмы. Але на гэта — нельга нешта загадаць: магчыма, у сумленным змаганні з ворагам з цягам часу Азевіч і зможа дасягнуць стану Петрака, і спазнае сапраўднае вызваленне з-пад улады акалічнасцяў... Ды той Азевіч, што ў «Сцюжы», шлях вызвалення яшчэ не намацаў, у яго яшчэ «выбару ніякага». А вызваленне — гэта якраз ВЫБАР. Выбар паміж сабой і не-сабой, паміж сабой і — д'ябальшчынай... Калі «душа, пра іншы марачы абсяг, свой склеп пануры пакідае».*

...Сілы зла, падпісаўшы пакт на супрацоўніцтва не проста з адзінкавымі людзьмі — з усёй краінай, — залілі **рэальнай** крывёй шостую частку Зямлі. У «Сцюжы» гэты жахліва-рэальны сэнс заключае ў сабе сон героя пры канцы аповесці — як на маю думку, адзін з найбольш сімвалагізаваных па ступені канцэнтрацыі сэнсу, абагульняючы сон быкаўскай прозы. Гэты крывавы сон тычыцца той галоўнай, глабальнай СУТНАСЦІ ЧАСУ І ПАДЗЕЙ, якую ўсёчасна шукаў, прагнуў знайсці Павадыр-аўтар разам са сваімі героямі-пакутнікамі. Гэта і адказ на роспачнае Роўбава ЗАВОШТА. *«Сніўся яму (Азевічу) нейкі дзіўнаваты сон, быццам ён ходзіць па кветніку... толькі кветкік гэты на цэлае поле.... — і нехта кажа яму, што за кветнікам роў... але як ён дайшоў да рова, дык убачыў там кроў. Кроў лілася з кветніка, цурчала з голых абрываў на тым беразе, крывавыя ручаі сцякалі ў дно і нікуды болей не цяклі, кроў сабралася там у глыбокую сажалку. І тады ён убачыў, што і ягоныя рукі ў крыві... Тут аднекуль паявіўся ягоны бацька чамусьці з Белалобікам, уклаў повад у яго руку, а сам паляцеў-паляцеў... здаецца, узляцеў на неба... На тым абрывістым беразе рова паявіўся нацдэм Дарошка. Нібы вясковы дзед, той стаяў чамусьці ў нейкім белым убранні, прасцінаючы рукі над ровам, і нешта не то абвяшчаў, не то маліўся ці праклінаў каго, а абапал яго цурчалі з абрыву крывавыя ручаі...»*

Замбіраванне працягваецца. Толькі за дзесяцігоддзі эксперыменту на людзях у зомбі ператвораны пэўны свет, краіна, і ці магчыма яе адрабіць наноў?..

А дзе наш Павадыр, куды зацяўся ён, прывёўшы чытача не куды-небудзь, а ў самы эпіцэнтр рэпрэсій? Ці не даканалі яго канчаткова рэальныя антырэаліі, пабачаныя праз героя-антыгероя? Не. Да мужнасці Павадыра, ён не схібіў, не зламаўся ўслед за героем. Ён мусіў пакінуць гэта «замбіраванае» цела і выйсці адзін на адзін **супраць** АНТЫСВЕТУ: адзін-адзіночка бесклапотны дух супраць сонму зрэалізаваных духаў зла. Напамінкам аб існуючых дзесь, трансцэндэнтных, аб'ектыўных сілах дабра засталася хіба «вялізная будыніна сінагогі» — кінулася ў вочы «вялізная»...

Зброя Павадыра адна, усё тая ж — Слова, што мужна б'е ў цэнтр, у эпіцэнтр зла. «Слово есть поступок» — гэта з талстоўскіх максім. Але што гэта за Слова? Такіх слоў з вуснаў Павадыра-празаіка мы яшчэ не чулі; хіба толькі прад-словы (у тым жа «Кар'еры, у «Знаку бяды»... ды і ў «Мёртвым не баліць»). Але тут трэба зважыць не тую магічную трансфармацыю, што здарылася з аўтарскім «Я»: яно пакінула які-кольвечы канкрэтны мастацка-ўвасоблены абсяг і загаварыла ад імя Павадыра-чалавека... Быкава-палітыка. Эзатэрычныя матывы трансфармаваліся ў палітычныя, а ўслед за гэтым трансфармавалася і мова: з мовы прозы — у мову публіцыстыкі. І Павадыр-апавядальнік становіцца павадыром-суддзёй; пісьменнік-рэаліст паслядоўна праходзіць стадыі апісальна-рэалістычнага, экзістэнцыйнага і сімвалісцкага спасціжэння «свайго кавалка часу» («Знак бяды» — «Аблава» — «Сцюжа»). А ўрэшце, перасягаючы і так кволую мяжу сімвалічнай умоўнасці, аўтар увогуле пераадольвае антыномію мастацкай творчасці / грамадскай пазіцыі: усе ранейшыя мастацкія матывы кандэнсуюцца ў рамках палітычнай публіцыстыкі і публічных выступленнях, якія і ёсць на сёння ці не галоўным полем бою мастака. Мастака-ўжо-палітыка... Ды не-не і ў мастака-палітыка, як самотны напамін пра існаванне ўсё ж іншай, больш драматычнай і больш прыцягваючай мастакоўскую душу паасобкава-чалавечай рэальнасці, — прарываюцца ледзь не талмудычнай журботнасці словы: «Усё, відаць, ні адно грамадства і ні адзін лад чалавеку ніколі не дадуць. Так ужо заведзена: чалавек застаецца нейкім чынам адзін на адзін з жыццём і — будзе трываць...»

Мастак-палітык кліча на паўстанне — супраць антырэаліяў, якія за дзесяцігоддзі разрасліся да памераў астранамічных, увайшлі ў нашу плоць і кроў, сталіся нябачнай часткай нашых істот і душаў. Ці пачуем гэты зычны голас Быкава-суддзі; ці, можа, і на гэты раз спраўдзіцца — у каторы ўжо раз на Зямлі пакут — біблейскае «Няма прарока ў сваёй Айчыне»? Спадзевы, адны спадзевы застаюцца...

---

** Радок з Дж. Байрана, перакладзены Р. Барадуліным.*

Зацікаўлены ў правядзенні Шагалаўскага пленэру многія музеі свету: прыязджаюць прадстаўнікі з Варшавы, Парыжа, Мангейма, з Пушкінскага музея, Траццякоўкі. Збяруцца ў Віцебску калекцыянеры і мастацтвазнаўцы. Гэта забяспечыць высокі ўзровень тэарэтычнага абмеркавання пасля адкрыцця пленэрнай выставы. Будуць карэспандэнты газет, радыё, будзе працаваць тэлебачанне. Падрыхтаваны таксама прызы. Класічнага конкурсу не запланавана, але тым не менш мастацтвазнаўцы павінны выказацца наконт сваіх прыярытэтаў. Гран-пры зроблены беларускім скульптарам У. Слабодчыкавыым.

Падчас пленэру пройдзе фестываль «Скрыпка Шагала», на яго запрошаны народны артыст Расіі Ю. Башмет. На закрыцці будзе выступаць Беларускі сімфанічны аркестр, які выканае новы твор французскага кампазітара Марка Блеза (пад яго кіраўніцтвам), твор прысвечаны Шагалу і напісаны спецыяльна да пленэру.

Пленэрная работа пачалася з 15 чэрвеня, адкрыццё ж прызначана на 20 чэрвеня. З 4 па 6 ліпеня ў Віцебску адкрыюцца выставы: Пэна, сучаснага беларускага мастацтва, «Арт-сесія 94», «Джоінт» запрашае», скульптура Уладзіміра Слабодчыкава, плакат А. Кітаевай, да 75-годдзя Віцебскай школы, і, безумоўна, пленэрная выстава. 6-га мы будзем развітвацца з нашымі гасцямі. Вельмі хацелася б, каб яны атрымалі ўражанне, што наша краіна — з глыбокімі культурнымі традыцыямі.

У Беларусі шмат цікавых тэм, вакол якіх могуць быць праведзены пленэры. Мы ўжо маем Тураўскі пленэр жывапісу, з мінулага года ў Гомелі пачалі распрацоўваць духоўную тэму. Пад Мінскам, у Смілавічах нарадзіўся сусветна вядомы каларыст Хаім Суцін. Ёсць мясціны, вакол якіх можна планаваць доўгае мастацкае жыцц., І самае галоўнае тут, каб жыхары Беларусі маглі выхоўвацца на сусветных традыцыях. Каб яны з-за матэрыяльных варункаў не выраслі без мастацтва. І для гэтага трэба зрабіць Беларусь тэрыторыяй, на якой з'яўляюцца буйныя культурныя з'явы.

Як мы заўжды адносіліся да нашых правінцый? Але кожная краіна моцная менавіта імі. Сталіца ніколі не з'яўлялася паказчыкам нацыі. Зірніце на цяперашнюю геаграфію фестываляў: Пінск, Віцебск, Гомельшчына, Барысаў. Самае галоўнае — уключыць нашу правінцыю ў сістэматычнае культурнае жыццё на міжнародным узроўні. Калі будзе створана такое правінцыйнае, але «высокае» асяроддзе, складзецца праз пэўны час і традыцыя.

адной рабоце можа спалучацца рэльеф, круглыя аб'ёмы, плоскасці. Тут дрэва, метал, мармур, камень, і для кожнага вобраза іх адметнае пластычнае выкарыстанне і колеравая гама. Здаецца, скульптар свядома акцэнтуе ўвагу на вобразным, колеравым, матэрыяльным і знешнім, прымушае ў першы момант не ўспрыняць, нават адпрэчыць такую работу згодна з выхаванымі раней густамі і эстэтычным вопытам. Але гэта ж і прыцягвае, стварае аўру загадкавасці вакол скульптур. Ці ж забудзешся на такія вобразныя парадоксы?

Вядома, настроіўшыся крытычна, з Юрасём і яго светабачаннем лёгка не пагадзіцца. Можна заўважыць залішнюю стракатасць, ненатуральную, неабгрунтаваную лагічна колеравасць рэльефаў альбо нагрувашчаную сімвалічнасць круглых скульптур, дзе эротыка, паганства, сучасная знакавая сістэма і утылітарнасць заварожваюць, але застаюцца не да канца зразумелымі. Але ёсць у Ю. Анушкі тое галоўнае, што вызначае найлепшыя работы маладых беларускіх мастакоў, абсалютна не супастаўляльных стылёва, — гэта пошук. Пошук праз сістэму сваёй культуры, праз сусветны мастацкі працэс. Бо свабодная інтэрпрэтацыя тэмы, адыход ад акадэмічных нарматываў (вядома ж, на падставе выдатнай адукацыі) — гэта натуральнае імкненне маладога мастака, не абцяжаранага ідэалагічнымі рамкамі, вырвацца ў прастору вобразнага самавыражэння.

Ю. Анушка не прапануе вострых уражанняў альбо інтэлектуальнай гульні. Яго творы трагічна, эмацыянальна і пластычна прыцягальныя. Яны не прызначаны для імгненнага ўхвалення, заключаны ў іх падтэкст асэнсоўваецца падсвядома, ён патрабуе намаганняў думкі і часу. Але такія работы запамінаюцца, дэталёва ўрэзваюцца ў памяць. Яны як эмацыйны шок сярод будзённай завядзёнкі.

Малады скульптар паслядоўны ў сваіх пошуках. Кожная яго новая работа — больш лаканічная, не экзальтаваная, а проста алегарычная форма. Адсюль, магчыма, яго зварот да круглай скульптуры, дзе, вызваляючыся ад натуралістычна-вонкавага падабенства, ён шукае абстрагаваных абагульненняў. Ад прыгажосці да пачварнасці, да таго невыказнага, што заўжды прысутнічае ў нашым жыцці.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# ПРА ПАЭЗІЮ І ПРОЗУ

## РАЗВАЖАННІ ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ АПЕРЭТЫ «ХАЛОПКА» Ў ДЗЯРЖАЎНЫМ ТЭАТРЫ МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ БЕЛАРУСІ

Цудоўнае слова: «паэзія». Цудоўнае яго тлумачэнне: «вытанчанасць і прыгажосць чаго-небудзь, што абуджае пачуццё зачараванасці». Каб звацца паэтам і выклікаць гэтае самае пачуццё, зусім неабавязкова займацца рыфмапляценнем, таму што паэты ёсць у самых розных справах. Паэтамі могуць быць краўцы, шаўцы, кухары. І гэта вельмі добра.

Ну, а зараз давайце ўявім такую гісторыю.

У вас ёсць, напрыклад, добры сябра, якога вы лічыце кулінарам ад Бога. Кухарства для яго — таемны рытуал, сапраўдная магія. Яго стравы заўсёды арыгінальныя, незвычайныя, і кожны раз ён варожыць над імі, быццам паэт над рыфмамі. І вы любіце яго менавіта за тое, што ў сваёй справе ён — чараўнік, і ніякія кулінарныя рэцэпты і парады яму непатрэбны: ён выдумляе іх сам. І вось аднойчы з ім адбываецца нешта незразумелае. Нечакана для сябе і для вас ён купляе кулінарную кнігу — вялікую, разумную, грунтоўную, захапляецца ёю і... замест Паэта робіцца вучоным. Вы прыходзіце да яго, і ён шчыра, як і заўсёды, частуе вас новай стравай, аднак на гэты раз не сваёй, а кніжнай. Паспытаўшы пачастунак, вы адразу ж адчуваеце расчараванне. Ах, як непадобна гэта на тое, што гатаваў ваш сябра без усялякіх кніг! Ён чакае вашай адзнакі яго кулінарнага майстэрства, пераконваючы вас, што страва гэтая — каларыйная, пажыўная, карысная і г. д., і г. д., і г. д. Але ўсе ягоныя словы перабівае неапетытны пах і прэсны смак. Толькі з-за павагі да свайго сябра вы ўсё-такі вымушаеце сябе з'есці пачастунак, аднак моташна робіцца не толькі вашаму страўніку, але й душы таксама. Бо ваш знаёмец ператварыўся з Чараўніка ў звычайнага кашавара, і адным паэтам зрабілася менш...

Гэтай нафантазіраванай гісторыяй мне чамусьці захацелася пачаць свае разважанні наконт чарговай прэм'еры ў беларускай музкамедыі — «Халопкі» М. Стрэльнікава. Спектакль, на маю думку, атрымаўся бяскрылым, сумным і прэсным, нягледзячы на тое, што ставіў яго безумоўна таленавіты і незвычайны рэжысёр Вячаслаў Цюпа. Для мяне асабіста ягонае імя дужа важкае і аўтарытэтнае, каб лішні раз дакараць ды кпіць з няўдачы. Маё захапленне музычным тэатрам пачыналася менавіта са спектакляў Цюпы, і заўсёды мне здавалася, што ён увасабляе паэзію ў рэжысуры. «Пачуццё зачараванасці» — толькі малая частка тых добрых пачуццяў, якія выклікалі і выклікаюць лепшыя спектаклі В. Цюпы: «Сірано», «Клоп», «Хэло, Долі!» у тэатры музычнай камедыі, «Дзікае паляванне караля Стаха» ў беларускім оперным. У самых удалых сваіх работах ён праявіўся як рэжысёр-рамантык, як сапраўдны Паэт свайго жанру. Яго бязмежная фантазія дапамагала яму ствараць спектаклі унікальныя, адзінкавыя, непаўторныя ў сваёй адметнасці.

Зразумела, не ўсё, што ён ставіў, было бясспрэчна. Мне здаецца, гэтаму рэжысёру больш удаюцца пастаноўкі сучасных твораў — тых, у якіх ён у пэўнай меры з'яўляецца першаадкрывальнікам. Вядома, напрыклад, што «Кармэн», якую В. Цюпа ставіў у ДАВТе, выклікала цэлы шквал дыскусій, і меркаванні большасці гледачоў ды крытыкаў былі зусім не на карысць ягонай трактоўкі. Што зробіш. Класіка ёсць класіка. Яна цягне за сабой цэлы шлейф стэрэатыпаў, якія складваюцца ў гледачоў ці слухачоў ва ўспрыманні добра вядомых твораў. Гэта аксіёма. Іншая справа — добра тое ці дрэнна. Не буду зараз





працягваць гэтую тэму. Прынамсі, пастаноўка класічнай оперы «Кармэн» многімі была залічана ў разрад творчых няўдач В. Цюпы.

Але вось — «Халопка», яшчэ адна сустрэча рэжысёра з класічным творам (праўда, «Халопку» і «Кармэн» нельга нават параўноўваць. Розныя жанры, розныя гістарычныя эпохі, розныя ўзроўні музычнай драматургіі. І тым не менш «Халопка» лічыцца класікай. Класікай савецкай аперэты). На гэты раз, лічу, — няўдача бясспрэчная. Можна сказаць, нават правал. У чым прычына?

Можа, у тым, што спектакль рыхтаваўся больш як год? Пастановачна тэрмін расцягнуўся неверагодна, і, можа, на нейкім этапе рэжысёр і акцёры выдыхнуліся? Ва ўсякім разе, мне падалося, што на здачы спектакля і на першых прэм'ерных паказах акцёры працавалі з пэўнай доляй стомленасці, ці, як любілі ў нас раней казаць, «без агеньчыка». І гэта адчувалася ў глядзельнай зале.

А, можа, прычына ў іншым?

Пастаноўшчыкі спектакля з самых найлепшых намераў вырашылі прадставіць стрэльнікаўскі твор у яго першапачатковым выглядзе. Як сказана ў праграмцы, «тэатр ставіў перад сабой задачу максімальнага набліжэння да першакрыніцы, ачышчэння драматургічнага і музычнага матэрыялу ад шматлікіх наслаенняў і пераробак... Раскрыты купюры, адноўлена шмат музычных нумароў, якія існавалі толькі ў чарнавым аўтарскім варыянце і ніколі раней не выконваліся». Дарэчы, аўтарскі клавір дырыжор-пастаноўшчык спектакля Аляксандр Сасноўскі атрымаў літаральна з першых рук — ад сына М. Стрэльнікава, да якога ездзіў у Пецярбург.

Пастаноўшчыкі агоралі сапраўды падзвіжніцкую працу, і ў словах маіх няма ні каліўца іроніі. Але ці патрэбны былі гэткія гераічныя намаганні? Ну, адкрылі купюры, «ачысцілі», «наблізілі», «аднавілі». А ў выніку атрымалі амаль чатырохгадзіннае аморфнае і марруднае дзеянне. Дык, можа, і не трэба было адкрываць і аднаўляць тое, што хтосьці свядома «закрыў» і аддаў забыццю? Аперэта «Халопка» — гэткі савецкі двайнік кальманаўскай «Прынцэсы цырка». Аднак, як высветлілася, Стрэльнікаў, даруйце, — зусім не Кальман. У ягоным творы ёсць некалькі цудоўных мелодый (напрыклад, дуэт галоўных герояў, сцэна «Бразготкі», «Гусарская песня»), аднак, як мне здаецца, не трэба было аддаваць спектакль на водкуп музыцы, колькасць якой перавысіла якасць. Дый лібрэта аказалася груваcткім. Сам В. Цюпа, думаецца, зразумеў гэта, і пасля прэм'еры вырашыў ужо скараціць 3-ю дзею. Аднак агульнага ладу спектакля гэта не змяніла: ён застаўся расцягнутым і сумным.

Мне асабіста не вельмі блізкая ў «Халопцы» і яшчэ адна асаблівасць, якая ў большай ці меншай ступені пачала выяўляцца ва ўсіх апошніх пастаноўках В. Цюпы. Часам, каб дагадзіць уласнай канцэпцыі спектакля, ён жорстка падпарадкоўвае акцёраў сваёй волі, сваім ідэям, якія не заўсёды зразумелыя ні ім, артыстам, ні гледачам. Ну чаму, чаму так дзіўна развіваюцца адносіны галоўных герояў «Халопкі» — Віялеты і Андрэя? Чаму рэжысёр літаральна не дазваляе ім быць побач, проста набліжацца адно да аднаго на сцэне? Чаму кожны з іх існуе сам па сабе і ўсе дыялогі і дуэты прамаўляюцца ды спяваюцца ледзьве не ў процілеглыя кулісы? Чаму ў фінале 2-й дзеі, у той момант, калі зняважаную Віялету нахабны Кутайсаў трасе, як грушу, Андрэй спакойна стаіць спінай да іх, рыхтык манумент на п'едэстале? А ў 3-й дзеі замест развязкі ў адносінах герояў рэжысёр прапануе... іх маўклівы павольны праход злева-направа і справа-налева...

І дзеля гэтага трэба было ставіць спектакль працягласцю ў тры з паловай гадзіны?

Дарэчы, такі вялікі прамежак часу — не адзіны «рэкорд» новай пастаноўкі. Гэта не толькі самы доўгі, але, мне здаецца, і самы шыкоўны, раскошны спектакль за ўсю гісторыю існавання нашага тэатра музкамедыі. Праўда, такія хвалебныя эпітэты выклікаюць пераважна ўражанні ад касцюмаў — фантастычна, казачна прыгожых (мастак — В. Жалонкіна). А вось дэкарацыі (сцэнограф — У. Жданаў) падаліся мне залішне лапідарнымі, простымі, пазбаўленымі вытанчанасці.

Яшчэ адзін «рэкорд» — незлічоная колькасць дзейных асоб і ўдзельнікаў спектакля. Тут і салісты, і хор (новы галоўны хормайстар тэатра Тамара Гуліна зрабіла хор тэатра моцным, зладжаным калектывам, і гэта ўжо адзначалася не раз. Вось і ў «Халопцы» артысты хору зноў прадэманстравалі сваё прафесійнае майстэрства), і артысты балета — у спектаклі ёсць цудоўны балетны дывертысмент (балетмайстар — Н. Дзячэнка), ну і, нарэшце, дзеці, якія таксама ўдзельнічаюць у пастаноўцы, выконваючы «дэкаратыўныя» функцыі. Ой, ледзь не забылася яшчэ пра двух чароўных сабачкаў, якіх дэманструе іхні ўладальнік — акцёр Г. Казлоў. Усё гэта, безумоўна, выклікае замілаванне. Але няўжо фантазія рэжысёра, якой ён заўжды славіўся, так вычарпалася, што для заваёвы гледачоў ён здатны ўжо і на тое, каб выцягваць на сцэну сабак і дзяцей? Якая ўжо тут паэзія...

Усё ў «Халопцы» падаецца адасобленым: хор, салісты, балет, аркестр. Мяне вельмі здзівіла, што заўжды чуйны да спевакоў дырыжор А. Сасноўскі тут дазваляе сабе глушыць іх аркестрам, не дае магчымасці распяваць у задавальненне, літаральна абрываючы апошнія, самыя эфектныя ноты.

На прэс-канферэнцыі пасля здачы спектакля В. Цюпа сказаў: «Я ставіў спектакль-сувенір». Усе неабходныя для гэтага атрыбуты ў «Халопцы» і праўда ёсць: сарафаны, какошнікі, доўгія косы, цыганскія скокі, кашулі да каленяў, узоры гжэлі і нават ансамбль, які сімвалізуе тройку «з бразготкамі»... Як той казаў, «сделали нам красиво». Толькі навошта? Уся гэтая прыгажосць самакаштоўная, не болей, таму што ў спектаклі няма еднасці, нейкай агульнай мэты, дзеля якой яго ставілі. Замест яе — усёпаглынаючая гігантаманія.

Самая галоўная вартасць спектакля, як і заўсёды, — гэта акцёры. Не перастаю паўтараць, што ў беларускім тэатры музкамедыі працуюць цудоўныя, таленавітыя акцёры, дзякуючы якім ужо доўгі час ён лічыцца самым моцным сярод аналагічных тэатраў былога Саюза. У «Халопцы» занятыя акцёры розных пакаленняў, і кожны заслугоўвае самых добрых слоў: Людміла Станевіч і Святлана Лугава, Уладзімір Пятроў і Васіль Мінгалёў, Генадзь Нікіцін і Святлана Якавец, Леся Лют, Герман Казлоў, Зінаіда Вяржбіцкая, Пётр Рыдзігер. Але акцёры — не богі, і іхняе майстэрства ўсё ж не кампенсуе недахопаў пастаноўкі.

Публіка прымае спектакль па-рознаму. Хтосьці паспешліва знікае пасля І акта, хтосьці з суровым тварам цярпліва выседжвае да канца, а хтосьці і «брава» крычыць у фінале. Адна дама нават сказала, што спектаклі накшталт «Халопкі» выклікаюць у яе жаданне надзець новую вопратку, туфлі на высокіх абцасах ды ісці на спектакль, падобна пецярбургскім «нафталінавым бабулям». Адносна апошніх я думаю: няўжо ж гэта тая публіка, пра якую марыў рэжысёр?..

**Вольга БРЫЛОН**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## МАЙСТЭРНЯ Ў ДЗІЦЯЧЫМ САДЗЕ



**Знайсці Анатоля Навічэнку аказалася досыць складана: 514-ы дзіцячы сад, дзе месціцца яго майстэрня, туліцца сярод аднатыпных дамоў Вяснянкі. Адзінае, што кінулася ў вока, — драўляныя скульптуркі казачных герояў і нешта кшталту мансарды з надпісам на шкле «Анатоль».**

**Тут кожны дзень дзеці. І не толькі таму, што малады мастак, якога прытуліла загадчыца ведамаснага дзіцячага сада, у якасці падзякі і платы за памяшканне вядзе заняткі з 4—6-гадовымі дзецьмі. Гэтыя гадзіны навучання таксама досыць адметныя і нетрадыцыйныя. Анатоль лічыць, што галоўнае тут — разняволіць дзяцей, не прымушаць іх падстройвацца пад дарослае ўспрыманне, а разбудзіць іх творчасць. Дзеці зазіраюць сюды і проста так: паглядзець на карціны, памацаць фарбы, пра нешта запытацца.**

**Анатоль задаволены. Ён пазбаўлены традыцыйнай праблемы маладых мастакоў: мае месца для працы. І не які-небудзь закутак, а выдатнае памяшканне, дзе на сценах — яго жывапіс. Нядаўна яго сумесная з братамі выстава прайшла ў Віцебску. Не абмінаюць яго і заказчыкі. А дзеці натхняюць сваёй шчырай зацікаўленасцю і жаданнем расквеціць навакольны свет.**

**Н. Ш.**



*Фота А. МАЦЮША*

## АЎТАРЦЫ — 12 ГАДОЎ

**Нячаста выпадае бачыць афішу, якая запрашае на аўтарскі канцэрт 12-гадовай дзяўчынкі. Але ж такі канцэрт адбыўся ў Ваўкавыскай музычнай школе. З уласнымі творамі выступіла пяцікласніца Лера Янкоўская. Нельга сказаць, што Лера — пачатковец: яна ўдзельнічала ў розных творчых спаборніцтвах для дзяцей і юнацтва. Стала лаўрэатам Міжнароднага конкурсу юных кампазітараў «Надзея-93», заняўшы другое месца пасля вельмі даравітага маскоўца Фёдара Амірава.**

**У яе канцэрце прагучалі рознахарактарныя мініяцюры, сюіты «Поры года» ды «Каштоўныя камяні», «Мелодыя» для скрыпкі й фартэпіяна, рамансы на вершы М. Багдановіча і Ф. Цютчава (праспявала іх выкладчыца Л. Ушанава), а таксама ўрыўкі з будучай дзіцячай оперы «Белая вішня», якую Лера піша паводле аднайменнай п'есы С. Клімковіч. Пасля канцэрта прадстаўнік фірмы «Юралан-Д» ды загадчык гараддзела культуры В. Мякуць уручылі таленавітай дзяўчыны грашовы чэк і падарункі. Нямала намаганняў дзеля арганізацыі гэтага адметнага мерапрыемства прыклала завуч музычнай школы А. Кананові́ч.**

**В. РАДЗІЁНАЎ,**
старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны

# КАЛІ ПАЛІТЫКА Ў ЦЯНІ...

## ПАДАРОЖНЫЯ НАТАТКІ

Украіну з акна цягніка я пазнала на таполях, цвітучай акацыі і роўненькіх усходах кукурузы. Бульба там ужо вырасла ў добрыя кусты і вось-вось зацвіце. Украінскіх мытнікаў пасажыры-камерсанты ды спекулянты пабойваліся: кажуць, строгія. Беларускую мытню ніхто не прымаў усур'ёз: наш прадстаўнік багажу не аглядаў, а толькі бегма ставіў пячаткі ў дэкларацыях. «Цяпер ведаю, куды трэба ездзіць», — сказаў сусед па купэ, які вёз дадому, у Кішынёў, аўтазапчасткі з Мінска.

У нашым горадзе яго непрыемна ўразіла тое, што не ўдалося адшукаць малдаўскае пасольства (як я пазней высветліла, яно месціцца ў Драздах). Затое ў Кішынёве прыйшла пара здзіўляцца мне: там дасюль не пасольства РБ, а толькі пастаяннае паўнамоцнае прадстаўніцтва. Яно, аднак, падтрымлівае цесны кантакт з нешматлікай беларускай абшчынай, любоўна ўпарадкавала офіс у цэнтры сталіцы і так прыхільна паставілася да мяне, госці, як, мабыць, не змагла б і не захацела ўстанова больш высокага рангу.

...У Малдове акацыя ўжо адцвіла. Як і яблыні, грушы, персікі ды ўсё астатняе. З рук прадавалі гронкі чарэшні (гронкі — бо на пруціках). Нязменны ў дарозе плашч здаўся смешнай непатрэбшчынай пры трыццаціградуснай спякоце.

Па дарозе мне паказалі крэпасць у Бендэрах, дзе размяшчаецца база славутай 14-ай арміі на чале з «крутым» генералам Лебедзем. Цягнік прастукаў па мосце цераз Днестр, які ў разгар ваенных дзеянняў «лебедзеўцы» пагражалі ўзарваць. Добра, што яны гэтага не зрабілі. Бо як бы тады сімпатычная мінчанка наведала маму ў Ціраспалі, камерсанты давезлі ў Малдову тавар, а я ад Саюза пісьменнікаў Беларусі прыняла ўдзел у святе славянскага пісьменства?

Свята гэтае прыйшло з Балгарыі, дзе адзначаецца як дзень святых роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія, напоўнілася новым зместам і штогод вандруе па гарадах і рэспубліках былога СССР. Колькі год таму святкавалася і ў Мінску, так што я мела магчымасць параўноўваць. На сцэне Кішынёўскага рускага тэатра імя Чэхава (таксама былая сінагога, як і ў нашай сталіцы) не было традыцыйных у нас рушнікоў і прэзідыума, паэтычныя выступленні прадумана спалучаліся з канцэртнымі нумарамі.

Усю арганізацыю ўзяў на сябе Славянскі фонд Малдовы. Дружна ўдзельнічаў дыпламатычны корпус бліжняга замежжа. Рэй вялі балгары: адкрываў урачысты канцэрт паэт і грамадскі дзеяч Л. Еленкаў, удзельнічала некалькі выдатных фальклорных калектываў. З Кіева прыслалі таленавіты вакальны дуэт (пісьменнікі па нейкіх прычынах не з'явіліся). З Масквы прыехалі прадстаўнікі асацыяцыі «Радзіма», адпаведных выданняў і расійскага дэпартамента па нацыянальных справах, меў поспех у публікі малады паэт Г. Віхроў. У мяне, на жаль, музычнага «суправаджэння» не было: гурт «Церніца» ў апошнюю хвіліну адмяніў паездку ў Кішынёў.

Не засталася ўбаку і Румынія. Яе прадстаўлялі супрацоўнікі дэпартамента па справах нацыянальных меншасцей (усе пяць розных нацыянальнасцей) і гурт старадаўняй песні ліпаван. Ліпаванамі завуць у Румыніі нашчадкаў рускіх старавераў. Жывучы кампактна, вёскамі, яны не асіміляваліся, здолелі захаваць праз стагоддзе мову і самабытную культуру. Спецыялісты, магчыма, мелі б прэтэнзіі да чысціні іх фальклорнай спадчыны, мне асабіста частка песень здалася беларускімі па паходжанні, украінцы — украінскімі... Песня «Захацела бабуленька куранят займеці...» гучала з моцна перарobленым тэкстам. У яшчэ адной былі такія, перайначаныя на рускі манер словы: «За лядашчым мужыком жынка высыхае» і г. д. Марна было дапытвацца ў простых сялянак, адкуль у іх гэтыя песні. Але якое гучанне! Якая натуральнасць спеваў і паводзін на сцэне! Якое прачулае «пражыванне» кожнай народнай песні — аж да лёгкага шоку і міжвольных слёз у глядацкай зале. Ліпаване сталі сапраўдным адкрыццём Дзён славянскага пісьменства і культуры ў Кішынёве.

Астатняя праграма — ускладанне кветак да помнікаў відным дзеячам славянскай культуры, сустрэчы ў школах, выставы, выезды ў раёны і гарады — была досыць традыцыйнай, знаёмай па часах застойных.

Вечарам адбыўся канцэрт у ДК Новых Анен ах. Трэба сказаць, што старшыня Славянскага фонду І. Васільеў сябруе з гэтым раёнам, і гасцей сюды возяць даўно і рэгулярна. Сам раённы цэнтр, як і ўсе ў Малдавіі, шматнацыянальны. У рэспубліцы жывуць рускія, украінцы, ґагаузы, балгары, адна з самых уплывовых абшчын — украінская. Яна мае свой ліцэй і ўкраінска-рускую школу. 20 тысяч беларусаў рассыпана па розных гарадах, у кішынёўскай абшчыне іх каля 400, і тых, як мне сказалі, пры нагодзе не сабраць. Вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі — Віцебскі тэхналагічны, політэхнічны, інстытут народнай гаспадаркі — 20 год пастаўлялі Малдове кадры для лёгкай прамысловасці, дык і не дзіўна, што сярод швейнікаў і трыкатажнікаў лёгка знойдзеш земляка, а дакладней — зямлячку.

Узначальвае абшчыну выкладчык медыцынскага універсітэта У. Дзяржыцкі, чалавек немалады, але энергічны, намеснікам у яго А. Гарбуноў — адзіны, хто валодае тут мовай. Спробы адкрыць летась беларускі клас поспехам не ўвянчаліся. На стадыі станаўлення — беларуская бібліятэка. Не хапае кніг, з перыёдыкі паступае толькі «Голас Радзімы», іншых выданняў у вочы не бачаць. А ўсё таму, што ў Малдовы з Беларуссю няма адпаведнай дамовы, хоць з Расіяй і Украінай такія дамовы ёсць.

Вы можаце спытаць, які ўдзел прыняла ў славянскім святе неславянская рэспубліка Малдова? Досыць стрыманы, па лініі міністэрства культуры і дэпартамента па нацыянальных пытаннях. Прэзідэнт Снегур выказаўся «за», але пісьменнікі-малдаване не далучыліся. Румыны мне здаліся нейкімі хмурнымі, непрыветнымі, падобнымі больш на назіральнікаў, чым удзельнікаў святкавання. Румынія і Расія — дзве магутныя рознаскіраваныя сілы, кожная з якіх цягне Малдову ў свой бок. Славянскія ўплывы тут вельмі адчувальныя, вера праваслаўная, старажытныя кнігі пісаны кірыліцай, кірыліца бытавала і пры Саветах. Аднак гісторыя рухаецца наперад, з 90-га года ўведзена лацінка, малдаўскую мову ўжо прынята называць румынскай, ходзяць гаворкі пра магчымае двайное грамадзянства. Тым не менш простыя малдаване, па маіх назіраннях, адчуваюць сваю адрознасць ад румынаў і даволі крытычна да іх ставяцца.

На святе прагучала шмат узвышаных слоў пра агульныя карані славянства, іх гістарычную і культурную еднасць. Але (што падкрэсліла я і ў адным з выступленняў) крэўнае радства — гэта адно, а палітыка — зусім іншае... Калі я выпраўлялася ў гэтую няблізкую дарогу, у мяне якраз і была апаска наконт палітычнай падаплёкі Дзён. Усе мы памятаем крывавыя падзеі ў Прыднястроўі і звязаны з імі раскол у грамадстве Малдовы. Арганізатары мерапрыемства, зрэшты, не хавалі сваіх поглядаў і сімпатый, аднак палітыка, хоць і дужа зацікаўленая ў дадзеным выпадку асоба, усё ж трымалася сціпла, як бы ў цяні. На сцэну не вылазіла і лозунгаў не выкрыквала. Магчыма, яна пасмялела ў Ціраспалі, які таксама быў у плане, але мне туды патрапіць не выпала. Там, расказваюць, свае парадкі: каменданцкая гадзіна і адносна невысокія цэны. Грашыма служыць стары рускі рубель з наклеенай маркай — выявай Суворава, так званыя «сувораўкі». Вайсковец са зброяй успрымаецца звыкла, як дэталь ландшафту.

Праводзілі мяне землякі. Напярэдадні ад'езду супрацоўніца прадстаўніцтва Л. Кандрацюк наладзіла непрацяглую экскурсію па Кішынэу (здаецца, так цяпер прынята пісаць) — утульным, зялёным, нечым падобным на прыморскія гарады. З «тэхнаром»-шчучынцам у душным купэ мы абмеркавалі грамадска-палітычную сітуацыю на Беларусі і шанцы прэтэндэнтаў на дзяржаўны «трон». Украінскі мытнік зрабіў для мяне паслабку і толькі паківаў на лішнюю бутэльку малдаўскага віна. Паездка, можна сказаць, удалася.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# «НАЗАД ХОДУ НЕ БУДЗЕ...»

*(Пачатак на стар. 4)*

**больш значныя праблемы. А мова столькі часу чакала, пачакае і цяпер...**

— Чытаючы выступленні нашых дзяржаўных мужоў высокага і самага высокага рангу, слухаючы выступленні відных палітыкаў, палітолагаў, вучоных, якія і пасля таго, як прыняты артыкул аб дзяржаўнай мове ў нашай новай Канстытуцыі, як яна замацавала дзяржаўнае становішча беларускай мовы, я не здзіўляюся, калі сустракаю сцвярджэнні, што трэба на афіцыйным узроўні ўраўняць статус беларускай і рускай моў. І кіраўніцтва дзяржавы не толькі не пратэстуе, а і паказвае прыклад у пашырэнні падобных думак, такіх падыходаў, такіх пазіцый. Дык на што можна сёння спадзявацца?.. Не далей як учора (гутарка адбывалася 30 мая. — **А. М.**) я слухаў выступленне віднага нашага палітолага, прафесара, які ў тым, што ў нас адна дзяржаўная мова — беларуская, бачыць недахоп, загану ў нашай нацыянальнай палітыцы і заклікае даць рускай мове належныя правы. Быццам гэтыя правы ў яе нехта забіраў. А ўсё таму, па той жа прычыне... Цытую даслоўна: «Я не хотел бы, чтобы мое дитя было оторвано от Достоевского...» Пачуўшы такое, толькі рукамі развядзеш. Вядома, гэта не на ўзроўні тых таварышаў, у якіх, калі гаворка заходзіць пра мову, адно рэагаванне: была б каўбаса, а якою мовай гаварыць — няважна! Але што атрымліваецца? Паколькі я змагаюся за выратаванне нашай мовы ў складанай сітуацыі, за тое, каб яна была адзінай дзяржаўнай мовай, бо калі будуць дзве дзяржаўныя, дык усё пакоціцца назад, усе, хоць маленькія заваёвы, знікнуць, — атрымліваецца, што я, па логіцы калегі прафесара, за тое, каб маё дзіця не ведала Дастаеўскага. Ну і ну! Выбачайце, але гэта ўсё спекуляцыі ды яшчэ цынічныя! Усе, хто сцвярджае падобнае, добра ведаюць, што руская мова ў нас займае пануючае становішча. Ніхто не можа сказаць, што яна пакрыўджана. Больш таго, па сённяшні дзень у 10-х і 11-х класах **беларускамоўнай** школы, дзе ўсё выкладаецца па-беларуску, на рускую мову і літаратуру адпушчана амаль у паўтара раза больш гадзін, чым на беларускую мову і літаратуру. Дык пра што мы гаворым? Пра які адрыў ад Дастаеўскага? Цяжка нават рэагаваць на ўсё гэта. Не хочацца думкі дапусціць, што чалавек у падобнае сваё сцвярджэнне верыць і гаворыць усё сур'ёзна. Значыць, ён нас прымае за... нейкіх такіх... Не знаю, якое слова больш падыходзіць. А ці нельга, шаноўны таварыш, ці, шаноўныя таварышы, з павагай ставіцца да нашага народа? Навошта лічыць яго такім цёмным, такім неразумным, што ён сам добраахвотна адмовіцца ад Талстога, Дастаеўскага, ад вялікай рускай літаратуры, культуры? Гэта цынічна, недастойна людзей культурных. На жаль, усё гэта наша сённяшняя рэальнасць. Апошні час у друку, у сродках масавай інфармацыі ідзе такое ажыўленне не на карысць беларускай мовы, што проста трывожна робіцца. Гэта можа кепска скончыцца. Я не думаю, што тысячы і тысячы беларускіх патрыётаў, асабліва маладыя людзі, спакойна ўсё «праглынуць», калі дойдзе да таго, што прапануюць нашы адукаваныя і дзяржаўныя мужы. А іменна: давайце правядзём рэферэндум, хай слова скажа сам народ. У думках жа пры гэтым: «Мы ўсё належным чынам арганізуем так, што народ прагаласуе за дзве дзяржаўныя мовы». А тым самым — за пагібель нашай роднай беларускай.

**— Ды будзем усё ж спадзявацца на лепшае...**

— Я ў такім разе азіраюся на стагоддзі нашай гісторыі, звяртаюся ў думках да часоў, яшчэ куды горшых, чым сёння, і калі ўсё-такі тады мы прабіваліся хоць да нейкага святла, то чаму зараз трэба ўпадаць у роспач, апускаць рукі? Ні ў якім разе нельга гэтага рабіць! Дапусцім, людзям, якія сёння — хто па неразуменні, хто свядома — супраціўляюцца ажыццяўленню Закона аб мовах, ідуць супроць таго, каб наша мова беларуская запанавала не дзе-небудзь, а на сваёй роднай зямлі, — дапусцім ім удасца прытармазіць жыватворны, плённы працэс пашырэння нашай мовы ў грамадскім ужытку. Дык усё роўна гэта толькі на нейкі час. Я перакананы, што назад ходу не будзе. Усё-такі за гэтыя апошнія гады ўдалося зрабіць нешта вельмі-вельмі важнае. Калі канкрэтней — удалося дапамагчы многім тысячам людзей, асабліва нашай інтэлігенцыі, зразумець, што такое мова ў гістарычным лёсе народа. А ўжо калі людзі зразумелі і пераканаліся ў гэтым, то не думаю — людзі ж усё-такі людзі, а не пешкі на шахматнай дошцы, — што яны адракуцца ад сваіх перакананняў, ад сваіх жыццёвых прынцыпаў. Шкада толькі, што гэта ўскладняе нашу агульную палітычную сітуацыю, ствараем праблемы там, дзе без іх можна зусім абысціся. Здавалася б: давайце спакойна выконваць Закон аб мовах. Ніхто ж не бярэ за горла. І сам закон — ну ўжо ж такі памяркоўны! Названы такія працяглыя тэрміны яго выканання. Магчыма, недзе ў свеце з нас і пасмяяліся, што мы дзейнічаем так асцярожна, гэтак абачліва. Але ж гэта зноў жа з павагі да ўсіх тых, каму сапраўды цяжкавата адразу перайсці на беларускую мову, карыстацца ёю. Усё ўлічана з самых лепшых гуманных меркаванняў. Усё прадугледжана... Толькі давайце ж усе — таксама з павагай да гэтай зямлі, да гэтага народа, да саміх сябе — выконваць закон! Дык не атрымліваецца... Але нам нічога не застаецца, як захоўваць і спакой, і паважлівыя адносіны да ўсіх грамадзян рэспублікі. І абапірацца на тое, на што мы заўсёды абапіраліся. На нашу талерантнасць. На культуру. На веру ў перамогу розуму і справядлівасці. Але я заклікаю — і буду заклікаць! — каб мы пры гэтым былі прынцыпова стойкімі там, дзе датычыць нашай мовы, каб мы не паддаваліся ні на якія ўгаворы, ні на якія спекуляцыйныя абяцанні. Каб мы, як і іншыя народы ў свеце, даражылі тым, чым трэба больш за ўсё даражыць, — нашым найкаштоўным скарбам, мовай нашай. Не будзем забываць вялікі запавет вялікага народнага паэта: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі»!

**Інтэрв'ю ўзяў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Адам МАЛЬДЗІС

# ТАЛЕРАНТНАСЦЬ І ДЭМАКРАТЫЯ: ЦІ ЗАЎСЁДЫ ЯНЫ СУПАДАЮЦЬ?

## (З ГІСТАРЫЧНАГА ВОПЫТУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА)

У апошнія гады і месяцы французскае слова талерантнасць як сінонім слоў цярпімасць і плюралізм, як неад'емная і вызначальная рыса дэмакратычнага ладу, яго філасофія, як антыпод паняццяў нацыяналізм, фундаменталізм і фанатызм усё часцей з'яўляецца на старонках і беларускага друку, і шматмоўнага друку Беларусі. З лёгкай і кампетэнтнай рукі берасцейскага літаратара Генадзя Праневіча ў газеце «Літаратура і мастацтва» пачалася дыскусія пра тое, на што хварэе беларускае грамадства — на празмерную талерантнасць ці недахоп. Тым жа словам часта жангліруе небезвядомы тыднёвік «Мы и время», які абвінавачвае беларусаў у нацыяналізме, у адсутнасці талерантнасці, а тым самым і дэмакратыі там, дзе гаворка ідзе ці павінна ісці ўсяго толькі пра звычайны патрыятызм, пра абарону роднай мовы і роднай культуры, у рэшце рэшт, пра элементарнае права гаспадара праспаць, як казаў Уладзімір Караткевіч, у сваёй бацькоўскай хаце калі не на лаве, то хаця б пад лаваю.

Паводле вызначэння навукоўцаў талерантнасць і сапраўды з'яўляецца характэрнай, вызначальнай рысай беларусаў, іх нацыянальнага характару, менталітэту. Эдуард Дубянецкі ставіць яе ў адзіны поравень з такімі станоўчымі якасцямі, як памяркоўнасць, няпомслівасць, гасціннасць, вынослівасць, працалюбства, мяккасардэчнасць. Іх жа працягам з'яўляюцца недахопы: апатычнасць, нерашучасць, канформнасць, недаверлівасць, замкнёнасць. Вядома, кожную з гэтых рысаў, узятую паасобку, лёгка можна знайсці і ў характары іншых народаў. Але сукупнасць іх, на маю думку, усё ж акрэслівае беларускі менталітэт, яго адметнасць.

Гістарычны вопыт беларускага народа сапраўды сведчыць, што ён вызначаўся цярпімасцю да іншасці, чужаземнасці — этнічнай, канфесійнай, маральна-этычнай, культурнай. Хаця, можа, слова цярпімасць тут і не дужа падыходзіць. Церпяць нешта чужароднае і пад прымусам. Таму будзем усё ж карыстацца словам талерантнасць, укладваючы ў яго той сэнс, што яна заснавана на вольным, добраахвотным, дэмакратычным выборы, на разуменні таго, што іншароднасць — арганічная частка нечага большага і супольнага (Беларусі як дзяржавы, напрыклад, еўрапейскага кантыненту ці ўсяго чалавецтва), урэшце, на рэлігійнай (для нас — пераважна хрысціянскай) любові да бліжняга, якая выключае нянавісць.

У Беларусі сапраўды не было рэлігійных войнаў (нават забойства Іясафата Кунцэвіча не выклікала яе), інквізіцыйнага спальвання ерэтыкаў-іншадумцаў (пакаранне смерцю атэіста брэсцкага падсудка Казіміра Лышчынскага — выключэнне з правіла, і то яно адбылося не ў Беларусі, а ў Варшаве). Чарнасоценцам амаль не ўдавалася ўзняць беларусаў на антысеміцкія пагромы, на прафанацыю іншаканфесійных святыняў. Мне могуць запярэчыць, што былі гады бальшавізму. Але ж тады святыні знішчаліся не як праваслаўныя, каталіцкія, габрэйскія ці мусульманскія, а як увасабленні абстрактнага, надканфесійнага «опіуму».

Талерантнасць нашых продкаў асабліва выразна выявілася ў часы Вялікага княства Літоўскага, дзяржавы шматэтнічнай і шматрэлігійнай. Пра гэта сведчаць выданні Францішка Скарыны, які імкнуўся ўзняцца над канфесійнай абмежаванасцю і праваслаўя і каталіцызму. Прадбачачы будучае рэлігійнае процістаянне, якое фатальна адбілася на фармаванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў (ды і сёння працягвае адбівацца), ён імкнуўся паяднаць хрысціян на падставе біблейскага вучэння. Пра тое ж сведчыць і Літоўскі статут, ці не самы «талерантны» збор законаў у тагачаснай Еўропе. Паводле гэтай своеасаблівай канстытуцыі ўсе этнасы і веравызнанні карысталіся ў княстве аднолькавымі правамі. Урэшце, пра гэта сведчыць і паўсядзённая практыка, якая здзіўляла тагачасных заходнеславянскіх падарожнікаў: праваслаўныя, каталіцкія, пратэстанцкія, габрэйскія святары мірна сядалі за адзін і той жа ўрачысты стол, а сяляне-каталікі ці уніяты заходзілі ў праваслаўную царкву і наадварот, слушна лічачы, што «ўсё роўна хвала Боска». Не было нянавісці да этнічнай і рэлігійнай іншасці і ў беларускім фальклоры — хіба толькі што тонкі, незлслівы гумар, іронія, якая спалучалася з самаіроніяй.

І такая відочная талерантнасць беларускага народа тлумачыцца не яго выбранасцю, выключнасцю ці зададзенасцю, а геаграфічным размяшчэннем, гістарычнымі абставінамі. Як піша польская даследчыца Міраслава Папежыньска-Турэк, гэтая з'ява, што мела і станоўчыя, і адмоўныя вынікі, была выклікана, па-першае, моўнай блізкасцю з больш моцнымі ўсходнімі і заходнімі суседзямі, з-за чаго не існавалі занадта высокія бар'еры пры асіміляцыі; па-другое, павольнасцю урбанізацыйных працэсаў, што дало мажлівасць доўгага трывання «сялянскасці»; па-трэцяе, частай зменай дзяржаўнай належнасці, падзеленасцю нацыі ў 20—30-я гады XX ст. З-за частковай адсутнасці недзяржаўнасці ў нас быў іншы, чым у Заходняй Еўропе, шлях да самасцвярджэння: там дзяржаўная супольнасць нараджала моўную і нацыянальную еднасць, у нас жа ў прынцыпе ўсё ішло наадварот. Калі не лічыць Вялікага княства Літоўскага, дзяржавы, супольнай для беларусаў і літоўцаў, толькі цяпер, у канцы XX ст., з'явіліся прыкметы суверэннасці.

Была, дадамо, яшчэ адна прычына, з-за якой беларусы сталі асабліва «плюралістычнымі». Яны аказаліся на пагранiччы двух вялікіх рэгіёнаў: усходняга, праваслаўна-візантыйскага, і заходняга, каталіцка-раманскага. Тут адбывалася іх судакрананне, узаемадзеянне, узаемаўзбагачэнне, сінтэз (да прыкладу, ва уніяцтве, асабліва ва уніяцкім дойлідстве і жывапісе). А разнастайнасць традыцый і ўплываў нараджала культурную і жыццёва-этычную шматаблічнасць, вымушала людзей разумець іншасць і паважаць яе. Асабліва гэта стасуецца да XV—XVII стст., калі розныя этнасы і канфесіі былі аб'яднаны ў княстве адзінай, дзяржаўнай ідэяй.

Аднак у XVIII і XIX стст. гістарычныя абставіны змяніліся. Княства пазбавілася суверэннасці, беларуская мова перастала быць дзяржаўнай. Пачаліся часы прымусовай ці вонкава добраахвотнай асіміляцыі. І тое, што было раней нашай сілай, стала слабасцю. Празмерная талерантнасць пачала шкодзіць дэмакратыі, бо паступова ператваралася ў канфармізм, падданіцтва. Пачуццё ўласнай годнасці трансфармавалася ў пачуццё гістарычнай і культурнай непаўнацэннасці, патрыятызм — у нацыянальны нігілізм, манкурцтва. Асабліва гэтыя працэсы ўзмацніліся ў гады таталітарызму, які не дапускаў ніякай іншасці, ніякага плюралізму.

Названыя вышэй працэсы, нягледзячы на наш суверэнітэт, хутчэй вонкавы, чым сутнасны, працягваюцца і сёння. І нават узмацняюцца. Беларускі патрыятызм, вельмі кволы па сваіх праявах, абвяшчаецца небяспечным нацыяналізмам, які, маўляў, супярэчыць і дэмакратыі і агульначалавечым гуманістычным прынцыпам (для доказу я спашлюся на прамову ў парламенце генерала Сарокіна). У імя той жа тэндэнцыйна зразуметай талерантнасці родная мова зноў узмоцнена выцясняецца мовамі суседніх дзяржаў, нацыянальная культура зноў слепа пераймае не лепшыя ўзоры чужых культур. Каб быць падобнымі да іншых, беларусам прапануецца пазбавіцца ўласнай тоеснасці — культурнай, нацыянальнай, дзяржаўнай. І робяць усё гэта пераважна не прадстаўнікі суседніх дзяржаў ці народаў (якраз ёсць многа прыкладаў з іх боку сапраўднай талерантнасці — прыгадаем хаця б страсныя артыкулы ў абарону беларускасці праф. Ефрасінні Андрэевай, рускай па нацыянальнасці), а самі ж дэнацыяналізаваныя беларусы, якіх большасць і ў дзяржаўнай, і ў эканамічнай эліце. Псіхалагічна зразумець іх можна: аднойчы заразіўшыся нацыянальным нігілізмам, гэтым сапраўдным беларускім СНІДам, адчуваючы маральны дыскамфорт, яны жадаюць, каб гэта ж адчувалі і іншыя.

Такім чынам, шаноўнае спадарства, у сённяшняй Беларусі ўзнікла унікальнае ў Еўропе становішча: асноўнае, карэннае насельніцтва краіны, якое складае 80 працэнтаў усіх грамадзян, падзелена на дзве няроўныя часткі. Яны заўважаюцца адразу нават недасведчаным вокам і слыхам — дастаткова прайсці па вуліцах Мінска, зайсці ва ўстановы і кнігарні ці паслухаць трансляцыю выступленняў беларускіх парламентарыяў. Большая, дэнацыяналізаваная частка беларускага насельніцтва абыякава адносіцца да свайго генетычнага паходжання, саромеецца яго, а то і актыўна супрацьстаіць яму, вынішчае яго, абзываючы нацыяналізмам, нацыянал-фашызмам і ўсялякімі іншымі словамі, якія выклікаюць і жах, і страх у недасведчаных жыхароў заходнееўрапейскіх краін. Меншая ж частка адстойвае права свайго народа «людзьмі звацца», абараняе нацыянальныя інтарэсы. Пры гэтым часта ў адчаі сапраўды карыстаецца лексікай, якая нібыта дае падставы большасці абвінаваціць яе ў нецярпімасці. Але гэта толькі фразы, за якімі не ідуць (бо не могуць ісці) дзеянні. Наадварот, дзеянні ідуць ад большасці, якая распальвае і нацыянальна-рэлігійнае супрацьстаянне, зноў лепячы вобраз ворага, даказваючы, што толькі адно вызнанне (праваслаўнае, каталіцкае, пратэстанцкае...) мае права быць нацыянальным і тым самым дзяржаўным вызнаннем Беларусі, лічачы, што зноў настала пара разыграць «антысеміцкую карту» (прыгадаем тут артыкулы праф. Кучарава і адказ яму грамадскасці ў «Народнай газеце» ці што беларусы робяць, паводле газеты «Збудзінне», з палешукамі тое, што іракскія ўлады — з курдамі. Усе гэтыя выказванні, вонкава прасякнутыя клопатамі пра талерантнасць і дэмакратыю, на самай справе ёсць праявы імперскага шавінізму, які спараджае нестабільнасць, пераўтварае Беларусь у анамалію сярод суседзяў і іншых еўрапейскіх краінаў. А ўсякая анамальнасць, усякае забыццё інтарэсаў сваёй дзяржавы і нацыі вядуць да непрадказальных сітуацый і катаклізмаў, вядуць да баснійскага сіндрому.

Дык што ж тады талеранцыя — дабро ці зло? Супадае яна з дэмакратыяй ці не? Адказы тут неадназначныя: і дабро, і зло; і супадае, і, як у сённяшняй Беларусі, не зусім супадае. Дабро — для моцных, таму што яна памнажае іх моц, пазбаўляючы ад недругаў, праціўнікаў сярод меншасцей у краіне і тым самым прадухіляючы пагрозу звяржэння ўлады, даючы ёй стабільнасць і перспектыву. Для слабых жа, для саміх меншасцей, а свядомыя беларусы якраз і з'яўляюцца такімі ў сваёй краіне, талерантнасць становіцца слабасцю, таму што непазбежна ператвараецца ў сваю крайнасць — згодніцтва, прыстасаванства, духоўнае рабства, таму што не садзейнічае дасягненню роўных правоў з «моцнымі». Вонкавыя ці часовыя выгады і даброты, атрыманыя ў выніку такога кампрамісу, уступаюць тут у супярэчнасць з вышэйшымі каштоўнасцямі, якімі з'яўляюцца правы нацыі. І ўжо іншая справа, што, дасягнуўшы роўных правоў з «большасцю», стаўшы ёю, былая меншасць павінна талерантна адносіцца да тых, хто слабей, чым яна, хто мае патрэбу ў дыялогу, падтрымцы і каардынацыі дзеянняў у сваім змаганні за нацыянальнае адраджэнне. А ва ўмовах Беларусі гэта — і палякі, і ўкраінцы, і літоўцы, і габрэі, і татары. І рускія, вядома.

Як бачым, у некаторых, выключных выпадках, а Беларусь якраз з'яўляецца такім выключэннем, дэмакратыя і талерантнасць уступаюць паміж сабой у супярэчнасць. Калі ўлада большасці не паважае правы меншасцей, у тым ліку свядома беларускай, то «талерантнасць» меншасці перастае служыць дэмакратыі, то хвалёная большасцю цярпімасць меншасці ператвараецца ў псеўдаталерантнасць, квазіталерантнасць. А гэта раней ці пазней вядзе да імкнення змяніць свой статус кво. Добра, калі гэта ўдаецца зрабіць дэмакратычным шляхам. Горш, калі прымус выкліча прымус.

Вось чаму я хачу скончыць зваротам да дэнацыяналізаванай «беларускай» большасці: будзьце хаця б талерантнымі ў дачыненні да свядомай беларускай меншасці, не пазбаўляйце яе хаця б тых правоў і магчымасцей, якія сёння маюць іншыя нацыянальныя супольнасці хаця б таму, што за імі стаяць іншыя, сапраўды суверэнныя краіны. Бо інакш у Еўропе, раней або пазней разабраўшыся ў становішчы, зразумеюць, што вы квазідэмакраты, а мы — квазінацыяналісты.

Алесь РАЗАНАЎ

# ТРЭЦЯЯ РЭЧАІСНАСЦЬ

Гадзіннікі паэтаў могуць паказваць розны час, і тым не менш, нягледзячы на відавочную рознасць, гэта дакладны час, — і таму кожны з паэтаў мае ўнутранае права меркаваць, што ён ведае, што такое сучаснасць і што ён суадпавядае ёй. Больш за тое, гадзіннікі паэтаў, каб на самай справе быць дакладнымі, і павінны паказваць розны час. Толькі ў такім разе той агульны, храналагічны, лінейны час, у якім яны жывуць, мае магчымасць трансфармавацца ў з'яву, што называецца сучаснасцю.

Трэба згадзіцца, што сама з'ява сучаснасці не настолькі адназначная, каб яе можна было інтэрпрэтаваць у адных і тых жа вобразах і паняццях; апроч відавочнага, альбо наяўнага плана, яна змяшчае ў сабе нешта не выяўленае і не відавочнае, што ні з чым не можа атаясаміцца. Ні з чым і ні з кім, і кожны раз, калі рэчаіснасць хоча выказацца, яна шукае таго, хто мае дачыненне да нявыяўленага і невідавочнага, — яна шукае паэта. Без творчага, паэтычнага, акта рэчаіснасць не асягае сваёй завяршальнай стадыі, стадыі здзяйснення, а сучаснасць застаецца адно толькі магчымасцю быць сабой.

Сучаснасць — гэта не напісаны верш. І хоць акрэслена тэма, і словы, якія ў ім прагучаць, агульнавядомы, сам верш, аднак, дагэтуль нідзе ніколі і ніякім чынам не гучаў. Не існаваў. Ён яшчэ мусіць знайсціся і ўтварыцца, а рэчаіснасць прайсці — і быць здольнай прайсці — творчую трансмутацыю, каб падключыцца да кантынуўму, чые законы не супадаюць з законамі лінейнага часу.

І тут выяўляецца дзіўная і нават надзвычайная роля паэта: як ён скажа — так і атрымаецца, як ён зробіць — так і будзе, і няма на зямлі вышэйшай інстанцыі, якая перааспрэчыла б яго.

Здавалася б, так не павінна быць, хіто не даваў паэту такога права, дый, урэшце, ёсць жа цэлая іерархія рэгламентаваных вартасцей — народны і асабісты дабрабыт, асвечаныя продкамі традыцыі, грамадская думка і грамадскае становішча. І хоць паэт зусім не абавязаны змагацца ці не згаджацца з існуючым парадкам рэчаў, ён усё роўна ў дачыненні да гэтага парадку аказваецца самазванцам, і да таго ж з нерэгламентаванай уладай. Такім чынам, грамадская роля паэта па самой сваёй прыродзе, з самага пачатку, набывае палітычнае адценне.

Асаблівую вастрыню пытанне суадносіны ўлады, якую мае паэт, і ўлады, якую маюць валадары дзяржавы, набывае ў таталітарным грамадстве. І якія б варыянты пры гэтым ні ўзнікалі, мэта ў таталітарнага рэжыму — зрабіць паэта сваім, падпарадкаваць яго ўладу сваёй. Паэт можа фармуляваць свае ўмовы, але ён бачыць, наколькі рэжым зацікаўлены ў ім, і ведае, што яго пазіцыя ў грамадстве выключная і ключавая.

Іншая сітуацыя для паэта ўзнікае ў посттаталітарны перыяд, паміж дзвюма рэчаіснасцямі, — калі адна з іх адышла, а другая не паспела прыйсці. Ён апынаецца на водмелі, і тая паэтыка паводзін, якая стасавалася да стыхіі вады, тут не прыдатна, аднак не прыдатна і паэтыка паводзін на сушы. Паэт, такім чынам, апынаецца як бы без рэчаіснасці, але якраз у гэтай сітуацыі агольваецца нейкі механізм яго жыццядзейнасці, і як ніколі раней (ці пазней) ён адчувае цяпер, што ні мора, ні суша, ні адна, ні другая рэчаіснасць не з'яўляюцца яго рэчаіснасцю, што яго рэчаіснасць **трэцяя**, і што яна наогул не асягаецца на плане адносін чалавека да маёмасці і маёмасці да людзей.

Яго рэчаіснасць — **трэцяя**, і таму ён магчымы як паэт, і таму ён не можа цалкам супасці з ніводным ладам, і таму тое, што ён кажа, мае асаблівы сэнс.

Паэта заўсёды пільнуе двайная небяспека: выпасці з кантэксту храналагічнай рэчаіснасці і праз гэта пазбавіць яе тэургічнай магчымасці выявіцца яго аблiччам, а, па-другое, супасці з ёю, стаць проста прыватнай асобай.

Не варта паддавацца ўражанню, што дэмакратычны і таталітарны лад, пры гэтым, прынцыпова адрозніваюцца паміж сабой. Іх адрозненне адноснае — ні адзін з іх не вырашае кардынальнай праблемы чалавечага існавання. Яна вырашаецца на іншым узроўні, і кардынальнай альтэрнатывай як адной, так і другой рэчаіснасці, ці, калі хочаце, іхнім якасным працягам, выступае **трэцяя** рэчаіснасць, паўнамоцным прадстаўніком якой і з'яўляецца паэт. Яго ўлада — ад яе.

Гэтая ўлада даецца ў творчасці і праз творчасць, і ў творчасці і праз творчасць паэт сустракаецца з рэчаіснасцю, дзе яго слова адначасова становіцца і важкім, і свабодным.

У кірунку да гэтай — трэцяй — рэчаіснасці разгортваецца супярэчлівы рух гісторыі.

Мы шукаем і фармулюем паэта па сучаснасці, аднак гэты занятак набудзе глыбіню, калі і сучаснасць мы будзем шукаць і фармуляваць па паэце.

---

*Гэтыя публікацыі зроблены паводле выступленняў на Міжнародным кангрэсе ў абарону дэмакратыі і культуры пад эгідай Беларускага ПЭН-цэнтра (Менск, травень г. г.)*

## ПРАПІСАЎСЯ МАКСІМ У ЯРАСЛАЎЛІ...



Памятаецца, яшчэ ў 1991 годзе, калі адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, Мінскі грамадска-культурны клуб «Спадчына» звярнуўся да гарадскіх улад Яраслаўля з прапановай паставіць там помнік паэту. На Яраслаўлі «спадчынцы» свой выбар спынілі нездарма: М. Багдановіч у 1908—1911 гадах вучыўся тут у мясцовай гімназіі. Неўзабаве дазвол на ўзвядзенне помніка быў атрыманы.

З гэтага моманту для клуба «Спадчына», найперш для яго кіраўніка Анатоля Белага пачаліся арганізацыйныя клопаты. За аснову скульптурнай кампазіцыі ўзялі помнік работы Сяргея Вакара, што ўстаноўлены ў Мінску каля тэатра оперы і балета. Архітэктурнае вырашэнне помніка ў Яраслаўлі рабілі скульптар Андрэй Карпук і архітэктар Уладзімір Ждан.

Спонсары былі адшуканы як на Радзіме, так і ў замежжы. Ахвяравальнікамі з далёкай Амерыкі сталі Ніна і Павел Агальцы, Уладзімір Бакуновіч, Святлана Белая, Міхась Белямук, Мікалай Валатоўскі, Мікалай Грэбень, Браніслаў Даніловіч, Мікалай Латушкін, Яўген Макарэвіч, Міхась Каленік, Кастусь Калоша, Сяргей Карніловіч, Пётр Нягода, Мацвей Рэпкаў-Смаршчок. Свае сродкі ўнеслі Літаратурны музей М. Багдановіча, клуб «Спадчына», Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, фірма «Дайнова», Міжвыдавецкі фотацэнтр, Саюз журналістаў Беларусі, Беларуская праваслаўная епархія, выдавецтва «Хата», газета «Частный детектив».

28 мая ў Яраслаўлі адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка. З гэтай нагоды туды прыехала дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з намеснікам міністра культуры і друку І. Карэндам. На адкрыцці (дарэчы, за ўвесь час пасля 1917 года гэта другі помнік беларусу, адкрыты за мяжой, першы быў — Янку Купалу, пастаўлены ў Амерыцы) выступілі І. Карэнда, А. Петрашкевіч, А. Белы, які, падзякаваўшы гарадскім уладам за магчымасць ушанаваць памяць нашага выдатнага паэта, зазначыў, што гатовы ўстанавіць мемарыяльную дошку на будынку, у якім з 1915 па 1918 год (падчас эвакуацыі) працаваў Мінскі настаўніцкі інстытут і дзе тады выкладалі многія знакамітыя нашы нацыянальныя дзеячы, у тым ліку і будучы першы прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі У. Ігнатоўскі.



Мэр Яраслаўля В. Валанчунас ухваліў гэтую прапанову. Віктар Уладзіміравіч запэўніў беларускую дэлегацыю, што музей М. Багдановіча ў Яраслаўлі пераводзіцца на баланс мэрыі (цяпер ён знаходзіцца на балансе славутай музейнай сялібы «Карабіха»), будуць прыняты захады для стварэння музея беларуска-яраслаўскай дружбы. Гаварылася аб неабходнасці прысылаць у Яраслаўль беларускія кнігі, розныя сувеніры, творы мастацтва, каб частка грошай ад выручкі ішла на ўтрыманне Багдановічавага музея.

Увогуле, яраслаўцы праяўляюць вялікую цікавасць да творчасці нашага выдатнага земляка.

Н. К.

Рэзананс

***У артыкуле Ігната Дуброўскага «І я, і яны — ахвяры...» (11.02.1994) «ЛіМ» ужо звяртаўся да публікацыі А. Мяснікова «Антон Жабрак» у «Звяздзе». Гэты артыкул — працяг тэмы. Першапачаткова ён быў прапанаваны «Звяздзе». Апынуўся ён у самога А. Мяснікова, які быў пагадзіўся яго надрукаваць, аднак... толькі пасля таго, як ён асабіста «пройдзецца па ім рэдакцыйным алоўкам». Таму аўтар і прапанаваў артыкул «ЛіМу».***

А. Жэбрак са сціжмы тых, каго А. Мяснікоў называе «партыйна-савецкія вучоныя». Гэта факт, гэта яго жыццё, і ад гэтага нікуды не дзенешся. У гэтым і яго драма. І Вавілаў, і Жэбрак, і Лысенка ў барацьбе за навуковую ісціну апелявалі не толькі да прыроды, але і да вышэйшай партыйнай улады. Самы высокі апякун знайшоўся ў «народнага» акадэміка Трафіма Лысенкі...

# ПРА ГІСТОРЫЮ, ГЕНЕТЫКУ І ЖУРНАЛІСЦКУЮ ЭТЫКУ...

Напэўна, я быў адным з самых уважлівых чытачоў звяздоўскага нарыса Анатоля Мяснікова «Антон Жабрак: лёс і трагедыя». Справа ў тым, што шэсць гадоў назад, 16 сакавіка 1988 года, «Звязда» надрукавала вялікі, амаль на цэлую газетную паласу, артыкул «Генетыка стойкасці» — аб жыцці апальнага прэзідэнта Беларускай акадэміі. Аўтарамі таго артыкула былі я і кандыдат гістарычных навук Мікалай Токараў. А да артыкула была даследчая праца, калі па зернях аднаўлялася гістарычная ісціна, былі бібліятэчныя і архіўныя вышукі, сустрэчы з людзьмі, якія ведалі Антона Раманавіча (напрыклад, з яго сынам Барысам, акадэмікам-генетыкам М. П. Дубініным і іншымі).

І вось «Звязда» зноў звяртаецца да лёсу Чалавека і Вучонага з вялікай літары. Не буду даваць адзнаку журналісцкім вышукам аўтара — прынцыповай навізны ў артыкуле, а вось з пункту гледжання дакладнасці фактаў «Звязда», выдае, занялася самаабвяржэннем. На скажонае прозвішча галоўнага героя ўказаў у «ЛіМе» І. Дуброўскі. Ён жа звярнуў увагу на «перахрышчанага» Мяснікоўым Прэзента. Але не пашанцавала не толькі ім. У дзіўным подпісе пад фатаграфіяй надрукавана «акадэмік А. Палазін», а трэба «акадэмік А. Паладзін» (дарэчы, ён быў акадэмікам не толькі саюзнай і ўкраінскай, але і, з 1933 года, Беларускай акадэміі навук). Дзіўна, што ён, біяхімік, разам з драматургам А. Карнейчуком і паэтам Мікалаем Ціханавым (у беларускім тэксце так і павінна быць — М., а не Н., як у публікацыі) названы «сябрамі-аднадумцамі» А. Жэбрака. Генетыкай яны не займаліся. І здымак гэты не сярэдзіны 50-х, а сярэдзіны 40-х гадоў.

Зразумела, што раз герой нарыса нарадзіўся да рэвалюцыі і ў сялянскай сям'і, дык журналіст па шматгадовай звычцы абавязкова напіша «бацькі былі беднымі беззямельнымі сялянамі». Калі ж мы адмовімся ад ухвалення бядняцка-пралетарскага паходжання? Не ў такім, прамалінейна-класавым, падыходзе сутнасць. Дастаткова зірнуць на анкету ў архіве Акадэміі навук Беларусі, каб убачыць напісанае почыркам самога Антона Раманавіча: «Бацькі былі сяляне і да 1915 года займаліся сельскай гаспадаркай, а так як гаспадарка была маламагутнай, то бацька працаваў яшчэ стрэлачнікам на чыгунцы». Так, жылі не багата, але не бедняки і не беззямельныя, што і дазволіла малому Антону хадзіць у царкоўнапрыходскую школу ў суседнія Лаўрынавічы, а потым, па рэкамендацыі настаўніка, які заўважыў яго розум і здольнасці, — вучыцца ў Слонімскім пачатковым вучылішчы. Так, працаваў Антон Жэбрак у эвакуацыі на бетонным заводзе і лесараспрацоўках, але толькі падчас канікулаў, а вучобу працягваў у рэальным вучылішчы і школе 11-й ступені.

Так што не будзем перабольшваць беднасці сям'і Жэбракаў (а мімаходзь не будзем прыніжаць і ўвесь беларускі народ, сцвярджаючы, што «шмат дзесяцігоддзяў, а, мабыць, і стагоддзяў назад, жабраком быў ледзь не кожны беларус»).

«Не даспадобы была яму ваеншчына», — так ацаніў А. Мяснікоў удзел будучага акадэміка ў грамадзянскай вайне, але чамусьці павысіў яго ў чыне, зрабіўшы з інструктара начальнікам палітаддзела! (?) Ды вось артыкул Антона Раманавіча «Некаторыя сучасныя пытанні генетыкі» (1936), а ў ім такое сцвярджэнне: «Звыклыя крочыць у жалезных палках Чырвонай Арміі ў гады грамадзянскай вайны, мы радаваліся кожнай перамозе...»

Ён меў права пісаць менавіта так. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Жэбрак — адзін з арганізатараў камсамола ў Тамбоўскай губерні, добраахвотна ўступае ў Чырвоную Армію, у лістападзе 1918 года ў 17 гадоў становіцца камуністам, затым — інструктар ЦК Расійскага Камуністычнага Саюза Моладзі, а з лютага 1919 года — курсант першага набора Камуністычнага універсітэта імя Я. М. Свярдлова. Ён бачыць У. І. Леніна, і не адзін раз, слухае яго лекцыю «Аб дзяржаве», аб чым потым успамінаў, па ленінскай позве разам ледзь не з паловаю выпускнікоў Камуніверсітэта адпраўляецца на фронт. У тыле тады інструктары палітаддзелаў не заседжваліся, камісарскае званне не дазваляла. А баі з пілсудчыкамі на Паўднёва-Заходнім фронце былі жорсткія, за лета 1920 года 12-я армія, якая налічвала каля 20 тысяч штыкоў і шабляў, страціла адну трэць асабовага складу...

Не мог, як піша аўтар, А. Жэбрак служыць у 12-й арміі ў 1922 годзе: 25 снежня 1920 года яе расфарміравалі. У 1921 годзе Жэбрак — камісар коннага завода Наркамата земляробства, а затым — студэнт Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі. «Цягнула да зямлі», — піша А. Мяснікоў. «Цягнула да навукі», — сказаў бы я. Апроч таго, у тыя часы святым было паняцце партыйнай дысцыпліны. Каго, як не Жэбрака, у першую чаргу датычылася тое славутае ленінскае «Вучыцца, вучыцца і вучыцца!»?

Спрошчана тлумачыць аўтар складанейшыя працэсы развіцця генетыкі: Лысенка супраць Жэбрака, Сталін за Лысенку, а тут і літаратары з разгромным артыкулам... Куды складаней усё было і куды больш трагічна. Бо ж і сам Дарэчы, спрэчкі ў генетыцы не скончаны і па сёння, хоць напал барацьбы, канешне ж, не такі, як быў тады.

І яшчэ. Кажуць, што маланка б'е ў самае высокае дрэва. Можа быць, менавіта таму загрукацелі грымоты над генетыкай, што занадта шмат вяршалін узвышалася над гэтай навукай. Мікалай Вавілаў і Мікалай Кальцоў, Сяргей Чацверыкоў і Аляксандр Сераброўскі — за кожным з гэтых імёнаў драма чалавека і вучонага. Лёс Антона Жэбрака — не выключэнне.

Аддамо належнае мужным паводзінам А. Жэбрака на сесіі УАСГНІЛ у 1948 годзе. Але ў яго жыцці было так шмат трагічнага, што наўрад ці варта нагнятаць драматызм шляхам вольнага карыстання фактамі. На два гады робіць Мяснікоў Жэбрака беспрацоўным, а далей сцвярджае, што да 1957 года аб ім не ўспаміналі ў Беларусі. Ці так гэта?

Так, у Ціміразеўскай сельгасакадэміі яму працаваць не далі, але ў тым жа 1948 годзе ён — прафесар Маскоўскага лесатэхнічнага інстытута, з 1949 года — узначальвае кафедру ў Маскоўскім фармацэўтычным інстытуце, у «Батанічным часопісе» штогод друкуюцца яго артыкулы. Перыядычна А. Жэбрак залічваўся на працу і ў АН БССР — то ў Інстытут біялогіі, то ў Інстытут сацыялістычнай сельскай гаспадаркі (быў і такі). У 1947—1951 гадах ён — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, Якуб Колас некалькі разоў ставіць пытанне аб вяртанні Жэбрака на пасаду прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі...

Калі ўспомніць, што М. Дубініну ў тыя гады давялося не толькі змяніць спецыяльнасць, але і пакінуць Маскву, а будучы акадэмік АН БССР і вучань М. Кальцова П. Ракіцкі адправіўся ў Комі АССР (і шэраг такіх прыкладаў можна доўжыць), дык лёс Жэбрака трагічны, як драма вучонага, і не варта рабіць з яе драмы жыцейскай, пабытавай, ды яшчэ падмешваць напалову дэтэктыўны сюжэт. Навошта тыражаваць казкі аб тым, як разумны акадэмік Берыю з Цанавай перахітрыў? Не тая гэта была фігура, якую можна было ў вярніцы закратаць...

Адкрыю для А. Мяснікова і «сакрэт» аўтарства некралога аб Жэбраку ў часопісе «Генетыка». Не зладумцы і не нядобразычліўцы напісалі яго, як лічыць А. Мяснікоў. Аўтар некралога — чалавек не менш складанага, чым у Жэбрака, лёсу, — акадэмік Мікалай Пятровіч Дубінін, і ўказанне на гэта ёсць у яго аўтабіяграфічнай кнізе «Вечны рух».

Вядома, дзякуй «Звяздзе» за ўвагу да нялёгкага лёсу А. Жэбрака, але ж ці варта заміж

Успаміны

# НАША ТРЫНАЦЦАТАЯ, ДАСЛЕДЧА-ПАКАЗАЛЬНАЯ...

У дваццатыя гады, у час заснавання і станаўлення беларускіх школ, у Мінску дзейнічала «13-я сямігадовая, даследча-паказальная школа пры педфаку БДУ». Размяшчалася яна па вуліцы Горкага, на скрыжаванні яе з вуліцай Старажоўскай, наўскасок ад завода па вырабе піва «Беларусь». Знаходзілася ў двух аднапавярховых драўляных дамах. Калісьці тут існавала прыватная гасцініца.

У гэтай школе адбывалася даследчае апрабаванне школьных праграм і метаду, адначасова тут адбывалі вучэбную практыку студэнты педфака БДУ.

Вучыўся і я ў той сямігодцы з 1924 па 1927 год, у старшых класах. Узначальваў школу яе заснавальнік, вядомы вучоны, географ, першы складальнік падручніка «Геаграфія Беларусі» Міхаіл Васільевіч Азбукін. Усе выкладчыкі былі спецыялісты высокай кваліфікацыі, адначасова працавалі ў БДУ ці ў Інбелкульце. Гэта былі яркія, запамінальныя асобы, у маёй памяці і сёння захаваліся іх прозвішчы. Узаемаадносіны паміж вучнямі і настаўнікамі былі вельмі ж дэмакратычнымі. Звярталіся мы да настаўнікаў па-сваяцку: дзядзька Азбукін, цётка Бібіла. Нам здавалася, што знаходзімся ў асяроддзі родзічаў, якія жадаюць нам дабра.

Выкладалі: геаграфію — М. Азбукін і Леакадзія Грамыка (жонка пісьменніка М. Грамыкі), беларускую і рускую мовы — Маркевіч, беларускую літаратуру — Юлія Бібіла (вядомы бібліёграф), рускую літаратуру — спачатку Лукашэвіч, нямецкую мову — Васільева, прыродазнаўства — Курыловіч, маляванне — Дваракоўскі.

Адначасова са мной вучыліся: сын Якуба Коласа Даніла, будучы паэт Міхась Багун, будучы вядомы артыст, драматург, заслужаны дзеяч мастацтваў Уладзімір Стэльмах, будучая заслужаная настаўніца Ларыса Жук.

Колькасны кантынгент вучняў быў невялікі, не болей за 200 чалавек. Было шмат пераросткаў, у старшых класах сустракаліся хлопцы ад 14 да 17 год.

Нашы настаўнікі з'яўляліся вялікімі аматарамі, чарадзеямі ў перадачы сваіх ведаў. Шаноўны дзядзька Маркевіч, напрыклад, стараўся даць нам добрыя веды па беларускай і рускай мовах. Сам жа валодаў некалькімі славянскімі. Тлумачыў нам, што ўсе мовы прыгожа гучаць з вуснаў тых людзей, якія іх добра ведаюць і паважаюць. Наша мова беларуская таксама мілагучная, вымаўленне слоў мяккае, мовяцца без напружанасці, падатліва да спеваў. Раіў прыслухоўвацца да гаворкі выкладчыцы беларускай літаратуры Бібілы.

Цётка Бібіла больш за ўсіх зачароўвала нас на сваіх уроках. Выразная, мілагучная, узрушана-пачуццёвая яе гаворка мела вялікі ўплыў на слухачоў. Урокі не стамлялі нас, бо скіроўвалі думкі на разважанні пра складанае жыццё, хараство прыроды. Навучыла яна нас і аматарству чытання мастацкай літаратуры. Дапамагла авалодаць умельствам не толькі ўзбагачаць пры гэтым свае веды, але і адчуваць малапрыкметныя, на першы погляд, адметнасці твора. Раіла не імкнуцца «глытаць» безліч кніжак, а знаёміцца з імі ўважліва.

Пад уплывам атрыманых ведаў у нас гартавалася грамадская свядомасць — імкнуцца як мага старанна здабываць веды, каб прымаць удзел у адраджэнні маладой Беларусі, да чаго і заклікаў Купала: «Ад мяжы да мяжы, ад капца да капца абнаўленне павевы расходзяцца, абнімае душу без граніц, без канца маці-

аднаго міфа ствараць іншы? Банальна: аўтар павінен больш строга ставіцца да фактаў, а рэдакцыя — да аўтара. Тым больш, што вольнасць у стасунках з гісторыяй А. Мясніко дазваляў сабе і раней. Чытаю яго нарыс пра Усевалада Ігнатоўскага і бачу, як аўтар дакарае сяброў рэдкалегіі БелСЭ «акадэмікаў-гісторыкаў К. І. Лукашова і Ф. С. Марцінкевіча» за куцы артыкул пра першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук. Магчыма, і былі ў іх у жыцці грахі, але толькі не гэты, бо адзін з іх геолаг і геахімік, а другі — эканаміст, у чым і сам Мясніко мог упэўніцца, перачытаўшы тую ж БелСЭ.

Больш таго, па волі аўтара Ігнатоўскі вучыцца ў Віленскай гімназіі (вучыцца не ў ёй, а ў Літоўскай духоўнай семінарыі. — **А. К.**), выключаецца з яе, пачатковую адукацыю (чаму пачатковую, семінарыі ж давалі сярэднюю? — **А. К.**) набывае ў Магілёўскай духоўнай семінарыі, паступае ў Пецярбургскі універсітэт (ніколі ён там не вучыўся, вучыўся ў Пецярбургскім гісторыка-філалагічным інстытуце), двойчы ў ссылцы (не быў ніводнага разу), прычым адзін раз у «Аланецкую (Архангельскую) губерню» (гэта зусім незразумела, бо як жа адначасна можна было быць высланым у дзве розныя губерні?), у 1908 годзе па фальшывым пасведчанні аб «дабранадзейнасці» паступае ў Юр'еўскі універсітэт (на самой справе, у 1909 годзе, і — па сапраўдным пасведчанні; і не паступае, а вяртаецца ў гэты універсітэт для працягу вучобы, бо ўжо вучыўся ў ім у 1905—1906 гадах. — **А. К.**).

Як бачым, дастатковая колькасць памылак на адной старонцы тэксту...

У свой час з'яўленню нашага артыкула аб Жэбраку папярэднічала даволі вострая закулісная барацьба. Нам літаральна спрабавалі выкруціць рукі, імкнуліся прымусіць зняць шэраг прозвішчаў людзей, якія не хацелі б прыгадвання сваёй ролі ў тыя гады. Ішлі развагі, накшталт: «Гэтых нельга называць — яны яшчэ жывуць... Іаўчук можа пакрыўдзіцца, а ён жа зараз член-карэспандэнт АН СССР і з 1970 года ўзначальваў Акадэмію Грамадскіх Навук пры ЦК КПСС... Узгадваннем Твардоўскага будуць незадаволены літаратары...»

Змяняць што-колечы ў тым артыкуле мы не сталі. Да гонару «Звязды», яна была на нашым баку. Асноўны ціск аказваўся на Аляксандра Лукашука, які рыхтаваў артыкул да друку. Ён не схібіў. Падтрымалі нас, калі азнаёміліся з артыкулам яшчэ ў рукапісе, акадэмікі АН БССР дырэктар Інстытута генетыкі і цыталогіі Л. Хатылёва і дырэктар Інстытута эксперыментальнай батанікі В. Парфёнаў. Тады мы цвёрда стаялі на сваім, і з вераю не ў галоснасць і перабудову, а з вераю ў дакладнасць фактычнай асновы артыкула.

Хай будуць новыя артыкулы, кнігі, кіна- і тэлефільмы пра А. Жэбрака, дый не толькі пра яго. І хай у іх будуць розныя аўтары. Але ёсць правіла, ад якога нельга адступацца ні на ёту: вернасць праўдзе і засяроджаная ўвага на фактах. Інакш, аднаўляючы памяць, падпадзём пад бяспамяцтва. Падобна, гэтага не ўдалося пазбегнуць Анатолю Мяснікову.

Дробязі, скажа нехта. Ну быў, ну не быў, годам раней, годам пазней... Дык і ў генетыцы пачыналі спрачацца з дробязей, а скончылі вялікай разборкай... Нагадаю словы А. Жэбрака: «Страсная барацьба за ісціну з'яўлялася ва ўсе часы і з'яўляецца цяпер асноўнай якасцю кожнага ісціннага і праўдзівага вучонага». «І журналіста», — дадам я.

**Андрэй КІШТЫМАЎ,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі**

# Леанід РАШКОЎСКІ

31 мая 1994 года пасля цяжкай працяглай хваробы памёр член Саюза пісьменнікаў Беларусі Леанід Рашкоўскі.

Леанід Сямёнавіч Рашкоўскі нарадзіўся 9 студзеня 1937 года ў горадзе Барысаве Мінскай вобласці ў сям'і служачага. Пасля школы працаваў рознарабочым на будоўлі. У 1956 годзе паступіў у Віцебскі ветэрынарны інстытут, які неўзабаве мусіў пакінуць з прычыны цяжкай хваробы. У 1962 годзе завочна скончыў фельчарскае аддзяленне Барысаўскага медыцынскага вучылішча. Вучыўся завочна на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску.

Першыя вершы Леаніда Рашкоўскага з'явіліся ў друку (барысаўская газета «Бальшавіцкая трыбуна») у 1955 годзе. Пісаў на рускай мове. Адначасова кіраваў пэўны час літаб'яднаннем, якое стварыў пры барысаўскай аб'яднанай газеце «Камуністычная праца».

Леанід Рашкоўскі па-сапраўднаму быў закаханы ў паэзію. Цяжка хворы, ён не шкадаваў сіл, працуючы над вершамі. Моцна любіў свой родны край, жыццё. Такія ж аптымістычныя былі і яго вершы — шчырыя, праўдзівыя, з верай у чалавека.

Леанід Рашкоўскі — аўтар зборнікаў вершаў для дарослых і дзяцей: «Пускай не умирают звезды» (1968), «Как пингвину шили фрак» (1970), «Почемучка» (1973), «Ливень» (1975), «Трубач» (1976), «Преодоление» (1979), «На вясёлай каруселі» (1984), «Откровение» (1987).



Светлы вобраз Леаніда Рашкоўскага назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў.

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ**

Пошта

# «ЗАРАЗНЫЯ ФІЛЬМЫ»

Доўгі час Дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў Рэспублікі Беларусь туліўся ў памяшканні царквы ў Мінску, на вуліцы Старажоўскай. У 70-я гады ў Дзяржынску пабудавалі спецыяльны будынак для архіва з улікам патрабаванняў часу. Праўда, многія яго супрацоўнікі і па сённяшні дзень ездзяць сюды на працу з Мінска, штодня пераадольваючы 80 кіламетраў у абодва бакі, бо не ўяўляюць сваё жыццё без архіва, якому аддалі шмат сіл. Натуральна, за апошнія гады ён папоўніўся не толькі новымі фондамі, сюды прыйшлі і новыя людзі, задача якіх — захоўваць кінахроніку, кіна- і фотадакументы Беларусі. На пачатку 90-х гадоў 90 працэнтаў усёй карыснай плошчы архіва былі запоўнены і, магчыма, паўстала б пытанне аб яго пашырэнні. Але... Эканамічны крызіс адбіўся і на кінавытворчасці. Паступленні ў архіў скараціліся.

Аднак неўзабаве ўзнікала яшчэ адна праблема. Раней усе мастацкія фільмы, што здымаліся ў СССР, цэнтралізавана паступалі на захаванне ў архіў у Белых Стаўбах, што пад Масквой. Цяпер жа суверэннай Беларусі трэба самой клапаціцца пра свае кінафонды. 22 красавіка 1992 года была прынята пастанова Савета Міністраў Беларусі N 224, якая абавязала архіў у Дзяржынску прымаць на захоўванне мастацкія кінастужкі (іх пазітыўныя копіі, зыходныя і рэкламныя матэрыялы).

Праз два гады, сюды, нарэшце, паступіла першая партыя фільмаў, якія знаходзіліся да гэтага ў сховішчах кінастудыі «Беларусьфільм». Фармальна пастанова пачала выконвацца. Ва ўсякім выпадку, архіў быў гатовы да гэтага. Аднак праверка копій выявіла, што яны, па-першае, надрукаваны на вогненебяспечнай нітраасснове (такія фільмы катэгарычна забараняецца захоўваць у архіве), а, па-другое, стужкі заражаны цвіллю. Магчыма, нехта з чытачоў здзівіцца: плёнка і раптам — цвіль? Але ж невыпадкова ва ўсім свеце для кінасховішчаў будуюць спецыяльныя памяшканні, у якіх падтрымліваецца і адпаведны тэмпературны рэжым, і пэўны ўзровень вільготнасці. У Дзяржынскім архіве ўмовы захоўвання адпавядаюць самым строгім сучасным патрабаванням. Тут захоўваецца кінахроніка ад пачатку мінулага стагоддзя і да нашых дзён. І адказнасць за гэтае нацыянальнае багацце прымусіла супрацоўнікаў архіва адмовіцца ад прыёму заражаных цвіллю стужак.

Намеснік дырэктара архіва Алена Грыневіч гаворыць, што з 354 паступіўшых фільмаў яна можа прыняць на захаванне толькі 192. Астатнія, улічваючы іх тэхнічны стан, нельга нават размясціць у асобным сховішчы, бо гэта прывядзе да інфекцыі кінаматэрыялаў асноўнага фонду. Таму фільмы і былі вернуты кінастудыі «Беларусьфільм».

Дырэктар кінастудыі накіраваў ліст у Белдзяржархіў з просьбай выдаткаваць сродкі на захаванне і рэстаўрацыю кінадакументаў. Але яму адмовілі ў дапамозе, матывуючы гэта тым, што кінапрадукцыя апынулася ў аварыйным стане па віне самой кінастудыі.

**Алена ЛУКАШЭВІЧ**



радасць, што лепшы дзень родзіцца. Падымайся з нізін, сакаліна сям'я, над крыжамі бацькоў, над нягодамі, занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі».

Па ініцыятыве цёткі Бібілы дзейнічаў літаратурна-драматычны вучнёўскі гурток, у ім вельмі актыўна ўдзельнічаў наш клас. Выпускалі нават свой школьны рукапісны часопіс «Крыніца» ў трох паасобніках. У ім публікавалі вершы, маленькія апавяданні, фальклор. Тэкст аздаблялі акварэльнымі фарбамі. Выгляд меў даволі прыгожы, прыцягальны. Адзін адпаведнік перадавалі ў цэнтральную бібліятэку, другі — у бібліятэку БДУ, а трэці захоўваўся ў школе. Выйшла два нумары.

Выдавалася і насценная газета «Наша Ніва», тры нумары за навучальны год: восеньскі (вераснёўскі) на пачатку навучальнага года, навагодні (снежаньскі), вясновы (майскі).

Час ад часу ладзілі літаратурныя вечары. На іх практыкавалася мастацкае чытанне твораў, ставіліся невялічкія п'есы. Нашы літаратурныя вечары наведваў Якуб Колас, Янка Купала. Два вечары былі прысвечаны іх творчасці. На купалаўскім вечары, акрамя дэкламацыі яго твораў, былі пастаўлены два абразкі з драматычнай паэмы «Сон на кургане» — «У пушчы» і «На замчышчы».

Дэкарацыя абразка пушчы, дзе адбывалася пагулянка русалак, заслугоўвала пахвалы. Віднеліся галіны дрэў, сярод іх звісалі дзве вяровачныя гутаталкі, упрыгожаныя дзеразой і кветкамі, а пасярод сцэны ўздымаўся невялікі курганок. Блакітнае асвятленне нагадвала чароўную ноч на Купалле.

Наш сімпатычны, нават прыгожы паэт Багун вонкава адпавядаў вобразу Самога, у якога закахаліся русалкі. Яму ўдалося праўдзіва перадаць вобраз шукальніка шчасця.

Дэманічнаму вобразу Чорнага добра адпавядаў Стэльмах. Па гадах ён быў старэйшы за Міхася, выглядаў мацаком з басавітым голасам.

Надта ж зачараваў гасцей спеў нашай першай русалкі Ларысы Жук. У адзін голас раілі ёй развіваць свой вакальны талент пасля школы. Дарэчы, пасля сямігодкі Ларыса з поспехам закончыла фізіка-матэматычны факультэт БДУ. Праславілася на асветніцкай ніве, ёй прысвоілі званне заслужанага настаўніка Беларусі. Увесь час прымала ўдзел у самадзейнасці, спявала, іграла на баяне.

На коласаўскім вечары было шмат дэкламацый з «Новай зямлі». Паказалі мы інсцэніроўку «Поры года». На заканчэнне дзядзька Колас павесяліў нас чытаннем на той час яшчэ не апублікаванага верша «Савось-распуснік».

Добрыя ўспаміны захаваліся ад выкладчыка рускай літаратуры дзядзькі Абазы. У яго была фенаменальная памяць помніць тэкст многіх твораў рускіх класікаў: Пушкіна, Лермантава, Цютчава, Чэхава, Буніна, Талстога і інш. Чытаў па памяці не механічна, а з інтанацыяй, падкрэсліваў тыя мясціны, дзе захоўваліся залацінкі цікавых думак, выказаных мастацкім словам, паэтычным умельствам. Практыкаваў праводзіць паасобныя ўрокі, прысвечаныя выключна тэхніцы «художественного чтения».

З вялікай пахвалой ставіўся да беларускіх пісьменнікаў. Зачытваў урыўкі з паэмы Я. Коласа «Новая зямля» і казаў: «Звучит не хуже, чем у Пушкина».

У школе надавалася вялікае значэнне краязнаўству. Мы вывучалі мясцовы край падчас экскурсій, наведвалі фабрыкі, заводы, музеі, выстаўкі, арганізоўвалі паходы па старажытных мясцінах горада, выезды за горад на прыроду. Каб пазбыцца верхаглядства, у час экскурсій нас прывучалі, нібы журналістаў, рабіць занатоўкі ў блакнотах. Пасля экскурсіі кожны павінен быў апісаць вынік назіранняў па запрапанаванай яму тэме. Апісанне экскурсій было добрай практыкай для набыцця вопыту выказваць свае думкі на паперы, пісаць сачыненні.

На пачатку навучальнага года (1926—1927 гг.) наш сёмы клас выязджаў на тыднёвую экскурсію ці экспедыцыю ў прыгарадную вёску Сенніца. Кіраваў гэтай экспедыцыяй гісторык дзядзька Пінкевіч, здаецца, ён адтуль быў родам. Цікавіла нас там шмат што. Адметнасць мясцовага ландшафту, план размяшчэння будынкаў на гаспадарках, дойлідства, упрыгожванне дамоў, агароджы, аздоба святліц у хатах, жывёлагадоўля на падвор'ях, садоўніцтва, агародніцтва, пчалярства, вырошчванне сельскагаспадарчых культур, развіццё рамесніцтва, ткацтва дываноў, ручнікоў, паясоў, дзейнасць сельсавета, школы, клуба, хаты-чытальні, збор фальклору...

Матэрыял сабралі даволі багаты, ім нават зацікавіўся Інстытут краязнаўства.

Пасля выпуску нашага сёмага класа ў 1927 годзе на школу абрынуліся розныя напасці ідэалагічнага характару. Праз год ці два амаль увесь педкалектыў быў заменены, частка яго рэпрэсіравана.

**Франц ГІНТАЎТ**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**
**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ**
***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась ЗАЛОСКА**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ**
***намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск,**
**вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі** ***332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара** ***332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі** ***331-985***
**літаратурнага жыцця** ***332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі** ***332-204***
**паэзіі і прозы** ***332-204***
**музыкі** ***332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання** ***332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў** ***332-462***
**навін** ***332-462***
**мастацкага афармлення** ***332-204***
**фотакарэспандэнт** ***332-462***
**бухгалтэрыя** ***268-640***





**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня "Беларускі Дом друку"**
**Індэкс 63856. Наклад 17.000.**
**Нумар падпісаны 16.06.1994 г.**

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

